Б. ТАРАШКЕВІЧ.

# БЕЛАРУСКАЯ ГРАМАТЫКА

## ДЛЯ ШКОЛ.

ВЫДАНЬНЕ ПЯТАЕ ПЕРАРОБЛЕНАЕ І ПАШЫРАНАЕ.

ВІЛЬНЯ 1929 г.
Выданьне В. ТАРАШКЕВІЧ.

Беларуская Друкарня Ім. Фр. Скарыны Людвісарская 1.

Б. ТАРАШКЕВІЧ.

# БЕЛАРУСКАЯ ГРАМАТЫКА ДЛЯ ШКОЛ.

ВЫДАНЬНЕ ПЯТАЕ, ПЕРАРОБЛЕНАЕ І ПАШЫРАНАЕ.



ВІЛЬНЯ 1929 г.

# ПРАДМОВА.

Мінула роўна 10 год, як вышла ў сьвет „Беларуская граматыка для школ“. За гэты час беларуская мова сталася ня толькі мовай прыгожага пісьменства ды рознароднай публіцыстыкі, але і мовай дзяржаўнаю або прызнанаю дзяржавай у публічным жыцьці. „Народнае нарэчча“ сілаю сталася „літаратурным языком“. Гэта бязсумліўны факт, незалежна ад тае ці іншае ступені зроднасьці беларускае мовы з іншымі славянскімі.

Вялікае грамадзкае значэньне беларускае мовы вымагае ад культурных работнікаў асабліва ўважлівага апрацаваньня яе, як з боку навуковага, так і для школьнага ўжытку.

„Беларуская граматыка для школ“, выданая першы раз у 1918 годзе, мела сваім заданьнем замацаваць і ўпарадкаваць выясьніўшыяся ўжо тады граматычныя асновы беларускай літаратурнай мовы ды ўстанавіць сталы правапіс.

Практыка жыцьця і прасьвечаная крытыка 10 гадоў прызналі, што „ўсё найважнейшае зроблена добра“. Правапіс усталіўся і мае за сабою некаторую традыцыю.

Але тая самая практыка і крытыка паказалі на некаторыя пахібы, а нават, хоць толькі часткова, і паправілі іх.

Аўтар „Бел. грам. для школ“ сам цяпер бачыць дужа выразна цэлую чараду яшчэ спрэчных пытаньняў (*у аканьні, у правапісе чужаземных слоў і інш...*), бачыць патрэбу і магчымасьць спрашчэньня правапісу, але не бярэцца праводзіць якія-колечы паважнейшыя зьмены такім індывідуальна-партызанскім спосабам, накідаючы свой праект праз школьны падручнік. Гэта павяло-б толькі да шкоднага хаосу.

Рэформа правапісу, калі мае быць праведзена, мусіць быць праведзена ў цэласьці ды ў сувязі з рэформай пісьма і пераглядам граматычных формаў (*морфолёгія*).

Адпаведныя праекты павінны быць апрацаванымі паасобнымі адзінкамі, але прайсьці праз публічнае сіта грамадзкай і навуковай крытыкі перш, чым маюць быць уведзенымі ў жыцьцё аўторытэтам культурных установ. Бо тутака пасьпех, запраўды, можа быць людзём на сьмех.

Горш за тое: непавязаныя, паасобныя зьмены „*на лепшае*" могуць заграмазьдзіць і загарадзіць дарогу да запраўды *добрай* рэформы.

Дзеля гэтага аўтар устрымаўся ад увядзеньня і тых зьмен, якія прыняла „Акадэмічная Конфэрэнцыя па рэформе правапісу і азбукі", скліканая Інстытутам Беларускае Культуры 14 лістапада 1926 г. ў Менску.

Ёсьць над чым падумаць і папрацаваць, дык можна і трэба пачакаць, высьцярагаючыся, каб *лепшыя* новыя дэталі не псавалі больш-менш *не благога* цэлага, якое *ўжо існуе*.

Цяперашняе выданьне „Беларускай Граматыкі для школ" мае на ўвазе неадкладныя патрэбы беларускай школы і ўсіх тых многіх, што жадаюць вывучыць беларускую мову шляхом саманавучаньня.

Гэтае выданьне спаўна перароблена і значна пашырана ў параўнаньні да ўсіх папярэдніх выданьняў. Увесь матэрыял падзелены на два концэнтрычныя колы: „Першае кола" і „Другое кола". Першае кола толькі *азнаямляе* вучня з граматычным матэрыялам, прывучае яго разьбірацца ў мове. Яно не зьвяртае ўвагі вучня на падрабязныя асаблівасьці або точнае азначэньне граматычных тэрмінаў, а на ўсё, можна сказаць, яшчэ паказвае пальцам: гэта—тое, гэна—тое; гэта—так, гэна—іначай...

Другое кола абыймае той самы матэрыял, толькі шырэй і ўводзіць вучня ў глыбейшы і больш падрабязны разбор. Тутака вучань *вывучае* тое, з чым пазнаёміўся папярэдні год у першым коле.

Бяручы гэты падручнік у рукі, вучань павінен быць ужо крыху азнаёмлены са сказам (*дзейнік*, *выказь-*

*нік...*) і з часьцінамі мовы (паняцьце аб *скланеньні*, *спражэньні...*), што можа быць зроблена вучыцелем без падручніка.

Матэрыял падзелены на лекцыі такім спосабам, што пад літарай *А* знаходзяцца клясовы разбор і пытаньні, якія маюць прывясьці вучня да граматычных вывадаў („правілаў“), памешчаных пад адпаведным параграфам. Пад літарай *Б* знаходзіцца матэрыял для самастойнага апрацаваньня вучняў (у клясе або дома, залежна ад магчымасьці і патрэбы).

Падзел і расклад матэрыялу мае толькі аблягчыць працу вучыцеля, але зусім ня змушае яго сьлепа йсьці за гэтым раскладам. Наадварот: вучыцель ня раз змушаны будзе рабіць значныя зьмены ў падзеле матэрыялу, залежна ад разьвіцьця і поступу вучняў. Вучыцель павінен да гэтага загадзя прыгатовіцца і добра вывучыць падручнік. У некаторых разох ён змушаны будзе сам знайсьці матэрыял для апрацаваньня вучням, бо аўтар стараўся даваць самае неабходнае, каб не павялічыць залішне коштаў друку.

Увагі і параграфы, адзначаныя зоркаю (*) пры цыфры, назначаны больш для вучыцеля, як вучняў, і могуць быць з карысьцю выясьнены апошнім толькі пры адпаведна высокім роўні іх разьвіцьця і падгатоўкі.

*Б. Т.*

Grudziądz 13.VIII. 1928.

## Лекцыя 1.

**А.** 1. Нашто нам служаць зрок, слух, нюх, смак, вошчуп?
2. Якімі часьцямі цела мы бачым, чуем, нюхаем, смакуем, ашчупваем?
3. Што мы распазнаём зрокам, слухам, нюхам, смакам, вошчупам?

**§ 1. Знадворныя пачуцьці, прадмет.** Зрок, слух, нюх, смак і вошчуп даюць нам распазнаць, што нас акружае з надворнага сьвету.

Зрок, слух, нюх, смак і вошчуп называюцца **знадворнымі пачуцьцямі**.

Усё, што падпадае пад зрок, слух, нюх, смак і вошчуп, называем **прадметамі**. Напрыклад: *чалавек, конь, дуб, выстрал, запах, салодкасьць, цяжар.*

УВАГА*. Прадметам лічым ня толькі тое, што беспасрэдна падпадае пад знадворнае пачуцьцё, але і ўсё тое, што можа быць прадметам увагі нашага розуму, калі аб гэтым гаворым, як аб прадмеце, напр.: асаблівасьць, думка, дабрата і пад. Прадметы знадворных пачуцьцёў называюцца прадметамі пачуцьцёвымі. Прадметы нашай думкі, розуму называем прадметамі разумовымі.

**Б.** 1. *Сколькі маеш знадворных пачуцьцёў і якія?*
2. *Назаві па аднаму прадмету на кожнае пачуцьцё.*
3. *Сьпісаўшы, падчыркні словы, што азначаюць прадметы:*

КАБЗАР.

Ой вецер шуміць, ой вецер гудзе, а цераз поле чалавек ідзе! Ой полем ідзе і штось ён нясе, і хлопец яго за руку вядзе. Ой праз поле хлопец старца за руку вядзе! Які гэта старац з хлопцам ідзе? То кабзар ідзе і кобзу нясе, а хлопец за руку к вёсцы вядзе. У вёску прыйшоў, на прызбу ён сеў і ціха людзём сьпяванку

запеў. Укруг людзі стаяць, на старца глядзяць, бо да душы бедным людзям запеў. Галавою добрым людзём кіўне, грудку старую шырока надзьме, у струны утне слова дабярэ і песьню старую сьвету пяе.

(*К. Каганец*)

## Лекцыя 2.

**А.** 1. Якое слова азначае прадмет у такім сказе: ***вострая каса зламалася?***

2. Што тут сказана аб *касе?*

3. Назаві колькі прадметаў, што знаходзяцца ў хаце, на вуліцы, у полі.

4. Што маюць супольнага вось такія прадметы:

| | | | |
|---|---|---|---|
| а) малако<br>сьнег<br>цукар | б) вугальле<br>чарніла<br>сажа | в) клубок<br>яблык<br>яйко | г) алей<br>вада<br>квас |
| д) сонца<br>месяц<br>лямпа | е) камень<br>мур<br>косьць | ж) нож<br>каса<br>брытва | з) шпілька<br>шыла<br>штык |
| і) сьнег<br>лёд | к) агонь<br>сонца | л) цукар<br>мёд | м) пук<br>сена |

5. Што супольнага маюць чалавек, жывёліна й расьціна? Ці яны кормяцца, растуць, паміраюць?

**§ 2. Асаблівасьці прадметаў.** Усё, што можам заўважыць у прадметах і што можам аб іх сказаць, гэта — **асаблівасьці прадметаў**, напрыклад: ***востры, белы, чорны, круглы; сядзіць, ляціць, сьвеціць, грае, колецца*** і г. д.

**§ 3. Ажыўленыя і неажыўленыя прадметы.** Да ажыўленых прадметаў залічаем людзей, жывёліну і расьціну; да неажыўленых — рэчы і зьявішчы. ***Чалавек, дзяўчына, конь, курапатка; дуб, васілёк, грыб*** гэта прадметы ажыўленыя. Рэчы, як ***стол, кніжка;*** зьявішчы, як ***дождж, бура, маланка*** — прадметы неажыўленыя.

**Б.** 1. Перапісаўшы, падчыркні словы, што азначаюць асаблівасьці прадметаў:

Дажджавая вада нясмачная. Сёлета год ураджайны. Маленькі Сьцёпка чытае цікавую кніжку. Моцна сьпіць шырокая рака. Ужо і халодная восень прышла. Золата і ў попеле відаць. Абміраюць на зіму і вужакі, і жабы, і яшчаркі. Дудар дудару дарма ірае. Адзін хлеб прыедліў.

2. *Перапісаўшы, падчыркні прадметы ажыўленыя простай рыскай (—), неажыуленыя пакручастай (~~~).*

НА ПРАДВЕСЬНЕ.

Рушыўся сьнег. Зашумела вада. Раскаваліся рэкі ад лёду. Лынула вон зімавая вада. Сонца прыносіць цяпло і пагоду. Шумныя песьні іграюць лясы. Зморана трушанкай у цёмных хлявох адзываецца рыкам скацінка. Конікі ў стайнях іржаць пры жлабох. Бацян праляцеў над адрынкай. Будзіцца посьле зімовага сну па хацінках люд працавіты; скоранька цягне саху, барану, глядзіць — шыны на колах ці зьбіты.

## Лекцыя 3.

А. 1. Аб чым гаворыцца ў папярэдняй лекцыі?
2. Як вас завуць па імені, па прозьвішчу?
3. Ці ваша імя і вы самі гэта тое самае?
4. Ці вы складаецеся з гукаў, літараў?
5. Ці ваша імя і прозьвішча маюць цела?
6. Якая розьніца паміж намі і нашымі імёнамі, прозьвішчамі?

§ 4. Мы самі і нашыя імёны і прозьвішчы гэта зусім розныя рэчы. Мы жывём, ходзім, думаем, працуем. Імя і прозьвішча — гэта толькі назоў. Калі мы іх скажам, то гэта будзе **сказанае слова**, гук, што пераймаецца слухам; калі-ж мы іх напішам, то гэта будзе **пісанае слова**, літары, што пераймаюцца зрокам.

7. Ці прадметы неажыўленыя маюць свае назовы?
8. Якія бачыш прад сабой прадметы, і як яны называюцца?
9. *Сонца* грэе, *васілёк* пахне, *цукар* салодкі, а іхныя назовы ці грэюць, ці пахнуць, ці салодкія?
10. Ці асаблівасьці прадметаў маюць свае назовы?

**§ 5.** Прадметы неажыўленыя маюць свае назовы: *сонца, цукар, стол, кніжка* і падоб. Асаблівасьці прадметаў маюць таксама свае назовы, напрыклад:

грэе, пахне, саладзее, ламаецца
цёплы, пахкі, салодкі, ломкі.

**Б.** *Перапісаўшы, падчыркні назовы прадметаў простай рыскай(—), назовы асаблівасьцей пакручастай(~~~).*

Горы рэдка стаяць паасобку. Яны цягнуцца доўгімі хрыбцінамі то вышэй, то ніжэй. Паміж гор ляжаць далы, чарнеюць правалы. Густыя туманы поўзаюць па вузкіх горных праходах. Горы часта закрыты тучамі, і толькі ў ясныя дні здалёку віднеюцца сваімі сьнегавымі белымі вярхавінамі.

Шмат рэк пачынаецца ад сьнягоў, каторыя растайваюць у горах. Яны цякуць у ніз гаманлівымі ручаямі й вадаспадамі. Па дарозе падмываюць груды лёду й сьнегу, каторыя часамі абвальваюцца ды засыпаюць цэлыя вёскі.

## Лекцыя 4.

**А.** Пакажы словы, што азначаюць назовы прадметаў:

ВЕРНЫ ПРЫЯЦЕЛЬ.

У аднаго селяніна быў вялікі сабака. Стаў ён стары і ўжо ня мог вартаваць гаспадарскага дабра. Не хацелася селяніну дарма карміць сабаку. Вось ён узяў з сабой вяроўку і камень ды пацягнуў сабаку да ракі.

Глядзіць на яго сабака разумнымі вачыма, быццам разумее, што думае гаспадар.

Сеў гаспадар з сабакам у човен, ад'ехаў ад берагу і стаў прывязваць камень сабацы да шыі. Пасьля устаў і піхнуў нагой сабаку ў ваду, ды з размаху й сам туды-ж уваліўся.

**§ 6.** Слова, што азначае імя або назоў прадмету, называецца **іменем прадметным**, або **прадметнікам**, напрыклад: *прыяцель, селянін, сабака, дабро, вяроўка, камень* і г. д.

**Б.** *Перапісаўшы, падчыркні прадметнікі:*

ВЕРНЫ ПРЫЯЦЕЛЬ (далейшы працяг).

Захліснула яго хваля, зусім ужо пачаў тануць. Раптам чуе — нехта цягне яго. А гэта яго сабака. Ка-

мень адвязаўся, і ён кінуўся ратаваць свайго гаспадара. Схапіў зубамі за кашулю, выплыў з ім да берагу і ледзь жывы расьцягнуўся на беразе.

Заплакаў селянін, абняў сабаку, стала яму стыдна. Да самае сьмерці карміў і даглядаў ён вернага свайго прыяцеля.

2. Напішы ад сябе пяць прыкладаў прадметнікаў.

## Лекцыя 5.

**А.** 1. Што такое *імя прадметнае*?

2. Чаму яно так называецца?

3. Што такое прадметнік?

4. Якая розьніца між такімі прадметнікамі: ***хлапец*** і ***Янка***; ***дзяўчына*** і ***Маня***; ***места*** і ***Вільня***; ***край*** і ***Беларусь***; ***возера*** і ***Нарач***? Ці кожны хлапец — ***Янка***, а кожнае возера — ***Нарач***?

**§ 7. Імя собскае і агульнае.** Імя прадметнае можа быць або **собскім:** ***Янка***, ***Маня***, ***Вільня***, ***Беларусь***, ***Нарач*** і г. д. або **агульным:** ***хлапец***, ***дзяўчына***, ***места***, ***край***, ***возера*** і г. д. Собскае імя выдзяляе нейкую асобу або рэч з іншых падобных. Імя собскае гэта собскасьць не ўсіх хлапцоў, дзяўчат, не ўсіх гарадоў, краёў і вазёр, а толькі некаторых.

Імёны людзей і іх прозьвішчы, назовы краёў, гарадоў і мясцовасьцей, рэчак, гор і падобнае — гэта ўсё прадметнікі собскія і пішуцца з вялікай літары. Агульнае імя паказвае цэлы рад падобных рэчаў і пішацца з малой літары.

**Б.** ***Перапісаўшы, падчыркні прадметнікі агульныя простай рыскай, а прадметнікі собскія пакручастай:***

Не адзін Гаўрылка, што ў Полацку. Кепска, пане Грыгоры: што далей, то горай. Дняпро цячэ ў Чорнае мора. Заходняя Дзьвіна цячэ ў Балтыцкае мора, а Паўночная Дзьвіна — у Белае мора. Альпы — найвышэйшыя горы ў Эўропе. Аўдзей усё між людзей. Майстар з Міра: што цяў, то дзіра. Сьвіслач — рэчка невялічка. Язык Кіева дапытае. Зорка Марс — найбліжэйшая ад зямлі плянэта.



## Лекцыя 6.

**А.** 1. Ці гаворацъ, напрыклад, так: ***мая*** стол, ***твой*** кніжка, ***мая*** вакно, ***мaё*** шапка?

2. Як трэба сказаць у такіх разох?

3. Як трэба сказаці: ***мой***, ***мая*** ці ***маё*** пры такіх прадметах: брат, сват, конь, слонь, дуб, ясень, капыл, перанос?
сястра, свацьця, лісіца, трава, ягада, восень, сякера, бяда?
хлапчанё, цялё, малако, насеньне, долата, хараство?

§ 8. **Мужчынскі, жаночы і ніякі род.** Калі да прадметніка можна прыставіць ***мой***, ***той***, ***гэты***, то такі прадметнік лічыцца **мужчынскага роду**, напрыклад: ***мой*** брат, ***той*** стол, ***гэты*** конь. Калі можна прыставіць ***мая***, ***гэтая***, ***тая***, то прадметнік **жаночага роду**, напрыклад: ***мая*** сястра, ***тая*** гаспадыня, ***гэтая*** хата. Калі можна прыставіць ***маё***, ***тваё***, то прадметнік **ніякага роду:** ***маё*** хлапчанё, пяро, гора і г. д.

4. Якая розьніца між такімі парамі слоў:

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| стол | вол | лямпа | бяда | вакно | здарэньне | } ? |
| сталы | валы | лямпы | беды | вокны | здарэньні | |

§ 9. Прадметнік можа мець **два лікі: адзіночны і множны.** Калі прадметнік азначае адзін прадмет, то гэта адзіночны лік: ***стол***, ***вол*** і г. д.; калі-ж болей, то гэта множны лік: ***сталы***, ***валы*** і г. д.

**Б.** 1. *Перапісаўшы, падчыркні прадметнікі і абазнач зьверху пачатковымі літарамі, якога яны роду* (мужчынскі род — *м. р.*; жаночы род — *ж. р.*; ніякі род — *н. р.*)

### У ВЫРАЙ.

Кончылася лета. Надышла восень. Пачынаюць ляцець птушкі ў вырай. Дарога ў вырай вельмі вялікая. Нашая ластавачка, напрыклад, пралятае дарогу да дзесяцёх тысяч міль. Шмат меншая дарога ў зязюлі і драздa. У гусей вырай недалёкі, а качак часамі можна бачыць і ў зіму.

2. *Перапісаўшы, падчыркні прадметнікі і абазнач зьверху, якога яны ліку* (адзіночны лік — *адз. л.*; множны лік — *мн. л.*):

(*Працяг*). Якім птушкам трэба далёка ляцець, тыя першыя зьбіраюцца ляцець. У пачатку восені яны ўжо ўсе павылятаюць. Астаюцца толькі: вароны, галкі, вераб'і, дзятлы ды яшчэ колькі лясных птушак.

Чаму адны птушкі пакідаюць нас на зіму, а іншыя застаюцца? Кажуць, холаду баяцца. Але-ж вароны, вераб'і і дзятлы ўсё роўна птушкі, а вось зімуюць у нас. Ня холад, а голад гоніць ад нас нашых птушак.

## Лекцыя 7.

**А.** 1. Калі скажам, што слова *брат* адказвае на пытаньне *хто?*, то на якое пытаньне адказвае слова *стол*, *кніжка*, *пяро?*

2. Успомніць лекцыю аб прадметах ажыўленых і неажыўленых. Як мы кажам — *хто?* ці *што?* — на чалавека, вала, каня, птушку, камара, чарвяка?... А на дрэвы, краскі, травы? (напр. дуб, жыта, званец, баравік — хто? ці што?).

**§ 10.** Аб ажыўленых прадметах гаворым *хто*, аб неажыўленых *што*. Але ў мове (і ў граматыцы) расьціны залічаюцца да неажыўленых, і аб іх гаворыцца *што*. *Хто* гаворыцца толькі аб тых прадметах, што самыя „па сваей волі“ могуць зьмяняць сваё месца: чалавек і жывёліна.

3. На якія пытаньні адказваюць прадметнікі, калі скажам так:

| | | |
|---|---|---|
| кніжка ад брата | кніжкі ад братоў | ? |
| кніжку даў брату | кніжкі даў братом | |
| люблю брата | люблю братоў | |
| узяў пяро з кніжкай | узяў пёры з кніжкамі | |
| казаў аб кніжцы | казаў аб кніжках | |

4. Параўняй словы: брат, брата, брату, братам, браце; браты, братоў, братом, братамі, братох — і скажы, чым яны розьняцца.

**§ 11.** Прадметнікі зьмяняюць канчатак слоў у адзіночным і множным ліку ў залежнасьці ад розных пытаньняў такім спосабам:

| *пытаньне* | *адзін. лік* | *множ. лік* |
|---|---|---|
| 1. **хто, што** (ёсьць)? | работнік, молат | работнікі, малаты |
| 2. **каго, чаго** (няма)? | работніка, молата | работнікаў, малатоў |
| 3. **каму, чаму** (даю)? | работніку, молату | работнікам, малатом |
| 4. **каго, што** (віню)? | работніка, молата | работнікаў, малаты |
| 5. **кім, чым** (твару)? | работнікам, молатам | работнікамі, малатамі |
| 6. пры **кім,** пры **чым**? | работніку, молаце | работніках, малатох |
| 7. **клічучы,** кажам: | работніча! молаце! | работнікі! молаты! |

**Б.** *Сьпісаўшы, падчыркні прадметнікі і над кожным напішы пытаньне, на якое адказвае дадзены пардметнік:*

Жыве ў лесе заяц. Ніхто не баіцца зайца. Кепска жыць зайцу. Зайца ўсе крыўдзяць. Нават малых дзяцей не палохаюць зайцам. Затое шмат цікавых казак ёсьць пра зайца.

Зайцы зімою бялеюць. Тады не адрозьніш зайца ад сьнегу. Галодна бывае зайцам узімку. Паляўнічыя страляюць зайцаў. Ваўкі жывяцца зайцамі. Ніхто не бядуе аб зайцах. Зайча, зайча! бедная доля твая!

## Лекцыя 8.

**А.** 1. Залежна ад якіх пытаньняў зьмяняюць свае канчаткі прадметнікі?

2. Ці канчаткі прадметнікаў зьмяняюцца таксама ў залежнасьці ад ліку?

3. Ці прадметнік можа зьмяняць свой род таксама, як лік?

**§ 12. Скланеньне.** Тая форма, якую прымае прадметнік у залежнасьці ад пытаньняў, называецца **склонам**. Зьмена канчатку прадметнікаў у адзіночным і множным ліку па склонах называецца **скланеньнем.**

Склонаў сем. Кожны з іх мае свой назоў. Вось назовы склонаў і прыклад скланеньня:

| *склоны* | (пытаньні) | *адз. лік.* |
|---|---|---|
| 1. **назоўны** | *хто? што?* | брат, стол |
| 2. **родны** | *каго? чаго?* | брата, стала |
| 3. **давальны** | *каму? чаму?* | брату, сталу |
| 4. **вінавальны** | *каго? што?* | брата, стол |
| 5. **творны** | *кім? чым?* | братам, сталом |
| 6. **месны** | *пры кім? пры чым?* | браце, стале |
| 7. **клічны** | | браце, стол! |

| *склоны* (пытаньні) | | *множ. лік.* |
|---|---|---|
| 1. **назоўны** | *хто? што?* | браты, сталы |
| 2. **родны** | *каго? чаго?* | братоў, сталоў |
| 3. **давальны** | *каму? чаму?* | братом, сталом |
| 4. **вінавальны** | *каго? што?* | братоў, сталы |
| 5. **творны** | *кім? чым?* | братамі, сталамі |
| 6. **месны** | *пры кім? пры чым?* | братох, сталох |
| 7. **клічны** | | браты! сталы! |

**Б.** 1. *Назовы склонаў і зьвязаныя з імі пытаньні навучыся напамяць папарадку.*

2. *Праскланяй на пісьме прадметнікі:* сват, конь, дуб, вада, зямля, вакно.

Парадак мае быць такі (як у § 12):

| *склон* | *адз. л.* | *мн. л.* |
|---|---|---|
| 1. Назоўны (хто?) | сват | сваты |
| 2. Родны (каго?) | свата | сватоў і г. д. |

УВАГА. Узоры скланеньня знойдзеш у „Другім коле“, лекцыі 6, 8, 10 і 12.

## Лекцыя 9.

**А.** 1. Што такое прадметнік, або імя прадметнае?

2. Што такое імя собскае, або прадметнік собскі?

3. Што такое імя агульнае, або прадметнік агульны?

4. Назаві колькі прадметнікаў собскіх і колькі агульных.

5. Колькі ведаеш лікаў і якія?

6. Дай прыклады на лік адзіночны і множны.

7. Што такое скланеньне? Пералічы склоны папарадку.

8. Праскланяй такія прадметнікі: вол, пясок, дождж, канец, хвалько, брат, народ, страх, лось, локаць, конь, верабей, лой, абычай.

**Б.** *Праскланяй на пісьме:* корч, купец, слонь, сажань, каравай, вада, верацяно, неба.

УВАГА. У першым коле ня трэба, каб вучні аддзялялі канчаткі ад асновы.

## Лекцыя 10.

А. 1. Пералічы склоны папарадку.

2. Праскланяй такія прадметнікі: сяло, палена, плячо, мора; галава, каліна, рука, горка, зара, зямля, доля, косьць, рэч, кроў.

Б. 1. *Праскланяй на пісьме*: калена, гора; трава, маліна, гара, злосьць, кісьля, печ.

2. *Перапісаўшы, падчыркні прадметнікі і над кожным напішы склон і лік*:

АРАТАЮ.

Ары, ары, чалавеча, ары ад раньняй зары да ночнай пары! Сошку тваю ты нанова наладзь, лепш каб было, чалавеча, арацъ; коніка-сябра свайго паганяй; хлеба скарынку з сабою вазьмі, чуць толькі сьвет — ты з сахой выхадзі, постаць на полі сабе адвядзі, кідай барозны ты з краю у край і родную песьню ціха сьпявай.

## Лекцыя 11.

А. 1. Успомніце лекцыю *аб асаблівасьцях прадметаў*.

2. Якія словы азначаюць асаблівасьці прадметаў, калі скажам так:

| | | | |
|---|---|---|---|
| чорная хмара — | хмара чарнее, | чарнела, | будзе чарнецъ |
| жоўтае збожжа — | збожжа жаўцее, | жаўцела, | будзе жаўцецъ |
| сівы волас — | волас сівее, | сівеў, | будзе сівецъ |
| стары чалавек — | чалавек старэе, | старэў, | будзе старэцъ |
| брахлівы сабака — | сабака брэша, | брахаў, | будзе брахацъ |
| курная хата — | хата курыцъ, | курэла, | будзе курэцъ |

3. Якая розьніца паміж асаблівасьцямі: *чорны і чарнее; жоўты і жаўцее; сівы і сівее; стары і старэе* і г. д.?

§ 13. Адныя асаблівасьці паказваюць нейкую прымету прадмету, незалежную ад часу: жоўты, чорны, сівы, стары, брахлівы, курны і г. д.

Другія асаблівасьці паказваюць, што прадмет нешта дзеецъ, або што з ім нешта дзеецца: брэша, курыцъ, жаўцее і г. д. Такія асаблівасьці зьвязаны *з часам*: сабака брэша (*цяперашні час*); сабака брахаў (*прошлы час*); сабака будзе брахацъ (*будучны час*).

Слова, што азначае не зьвязаную з часам асаблівасьць — прымету, называецца **прыметнікам**, або

**іменем прыметным**, напр.: жоўты, чорны, брахлівы, добры, цяжкі і г. д.

Слова, што азначае асаблівасьць — дзеяньне, зьвязаную з часам, называецца **дзеясловам**, напр.: жаўцее, чарнее, крычыць, сядзіць, сядзеў, будзе сядзець, сядзе, сядзь!, сеў-бы і г. д.

**Б.** 1. *Сьпісаўшы, падчыркні прыметнікі простай рыскай, а дзеясловы пакручастай.*

## ЗІМА.

Прышла зіма халодная, нягодная зіма. Цярпі, зямелька родная: няма дабра, няма! Прыцьмілась сонца яснае, прыціх шум баравы. На полі пустка страшная— ні збожжа, ні травы. Сьнег белы мёртва сьцелецца пасьцеляй грабавой. Сапе, шуміць мяцеліца, мяце сьнег, як мятлой. Мароз, як кат бязжаласны, ў лёд рэчку закаваў, стральбой сваёй праклятаю ў лёт слабых птушак б'е, пры хаце і за хатаю спакою не дае.

*Я. Купала.*

## Лекцыя 12.

**А.** 1. Да пададзеных прадметнікаў дадай прыметнікі паводле ўзору, адказваючы на пытаньні: *які? якая? якое? чый? чыя? чыё?*

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| касец: | *які?* | спраўны, | дужы, | вясёлы і г. д. |
| бяроза: | *якая?* | белая, | кудравая | і г. д. |
| жалеза: | *якое?* | — | — | — |
| мех: | *чый?* | кавальскі, | дзядоўскі | — |
| піла: | *чыя?* | бацькаўская, | — | — |
| пяро: | *чыё?* | — | — | — |

2. Ці можна сказаць так:
спраўная касец, або — бачу спраўнаму касцу
белы бярозка або — бачу белыя бярозку
залатая пяро, або — пішу залатых пяром.

3. Як трэба зьмяніць прыметнікі, каб вышла правільна?

4. Праскланяй прадметнік разам з прыметнікам: добры сын, дужая рука, вострае пяро.

### § 14. Згода прыметнікаў з прадметнікамі.

Прыметнікі згаджаюць свой род, лік і склон з тымі прадметнікамі, да каторых адносяцца: цёплая шапка, цёплых шапак і г. д.

**Б.** 1. *Раскланяй на пісьме:* ясны дзень, цёмная ноч, круглае вакно. (*Узоры скланеньня прадметнікаў гл. „Другое кола“ лекцыя 14*).

2. *Перапісаўшы, падчыркні прыметнікі:*

У нашага свата харошая хата, печ яго маляваная, чэсьць яго каханая. Высака стаіць яснае сонца. Жоўтае жытняе поле ціха калосьсем шуміць. Сіняя хваля шуміць і бурліць. Ня шумі ты гэтак смутна, маладзенькі колас! Начлежнікі выбралі высокі сухі груд ды разлажылі агонь. Праляцела борзда лета, наша сьветлая пара. Льецца Нёман паміж гораў, сьветлы, чысты, як раса. Сіняе неба стала яшчэ сінейшае. Найсінейшае неба бывае на раніцы.

## Лекцыя 13.

**А.** 1. Калі скажам так: *два* ляжаць, *два* стаяць, *пяты* ходзіць, *шосты* носіць*), то на якія пытаньні адказваюць словы *два, пяты, шосты?*

2. На якое пытаньне адказваюць словы: *чацьвёра, сямёра, сто, двое, трое, тысяча?*

3. На якое пытаньне адказваюць словы: *першы, другі, трэці, дзесяты, дваццаты?*

4. Каторы цяпер год?

**§ 15. Імя лічэбнае або лічэбнік.** Словы, што адказваюць на пытаньне *колькі?* і *каторы па парадку?* — называюцца лічэбнікамі, або іменем лічэбным.

Тыя лічэбнікі, што адказваюць на пытаньні *колькі?* называюцца **колькаснымі**: адзін, два, тры і г. д.

Тыя лічэбнікі, што адказваюць на пытаньне *каторы па парадку?* — называюцца **парадкавымі**: першы, другі, трэці і г. д.

5. Вось табліца лічэбнікаў:

| *лічэбнікі колькасныя:* | *лічэбнікі парадкавыя:* | | |
|---|---|---|---|
| 1. адзін, адна, адно | першы, | -ая, | -ае |
| 2. два, дзьве, два | другі, | -ая, | -ое |
| 3. тры | трэці, | -яя, | -яе |
| 4. чатыры | чацьверты, | -ая, | -ае |
| 5. пяць | пяты, | „ | „ |
| 6. шэсьць | шосты, | „ | „ |

*) Загадка: чалавек і дзьверы.

| *лічэбнікі колькасныя* | *лічэбнікі парадкавыя* | | |
|---|---|---|---|
| 7. сем | сёмы, | - ая, | - ае |
| 8. восем | восьмы, | „ | „ |
| 9. дзевяць | дзевяты, | „ | „ |
| 10. дзесяць | дзесяты, | „ | „ |
| 11. адзінаццаць | адзінаццаты, | „ | „ |
| 12. дванаццаць | дванаццаты, | „ | „ |
| 13. трынаццаць | . . . . . . | . | . |
| 14. чатырнаццаць | . . . . . . | . | . |
| 15. пятнаццаць | . . . . . . | . | . |
| 16. шаснаццаць | . . . . . . | . | . |
| 17. семнаццаць | . . . . . . | . | . |
| 18. восемнаццаць | . . . . . . | . | . |
| 19. дзевятнаццаць | . . . . . . | . | . |
| 20. дваццаць | дваццаты, | „ | „ |
| 21. дваццаць адзін | дваццаць першы, | „ | „ |
| 30. трыццаць | трыццаты, | „ | „ |
| 40. сорак | саракавы, | „ | „ |
| 50. пяцьдзесят | пяцьдзесяты, | „ | „ |
| 60. шэсьцьдзесят | шэсьцьдзесяты, | „ | „ |
| 70. семдзесят | . . . . . . | . | . |
| 80. восемдзесят | . . . . . . | . | . |
| 90. дзевяцьдзесят | . . . . . . | . | . |
| 100. сто | соты, | „ | „ |
| 101. сто адзін | сто першы, | „ | „ |
| 200. дзьвесьце | двухсоты, | „ | „ |
| 300. трыста | трохсоты, | „ | „ |
| 400. чатырыста | чатырохсоты, | „ | „ |
| 500. пяцьсот | пяцьсоты, | „ | „ |
| 600. шэсьцьсот | шэсьцьсоты, | „ | „ |
| 700. семсот | семсоты, | „ | „ |
| 800. восемсот | восемсоты, | „ | „ |
| 900. дзевяцьсот | дзевяцьсоты, | „ | „ |
| 1.000. тысяча | тысячны, | „ | „ |
| 2.000. дзьве тысячы | двухтысячны, | „ | „ |
| 1.000.000. міліён. | міліённы, | „ | „ |

**Б.** 1. *Перапісаць табліцу лічэбнікаў*, дапаўняючы прапушчанымі парадкавымі (ад 13 да 19 і ад 60 да 90).

2. *Напісаць славамі:* 1848, 1905, 1914, 1917, 1927; 1812-ы, 1831-ы; 1863-і.

## Лекцыя 14.

**А.** Прыгледзься да табліцы лічэбнікаў і скажы, якія з іх маюць род, а якія не.

2. Ці лічэбнікі скланяюцца? Якія лічэбнікі скланяюцца падобна да прыметнікаў, а якія падобна да прадметнікаў?

3. Праскланяй: *пяты нумар, пяць гавец, сто гадоў.*

**§ 16.** Род могуць зьмяняць толькі парадкавыя лічэбнікі, а з колькасных *адзін, -а, -о* і *два, дзьве, два.*

Парадкавыя лічэбнікі зусім падобныя да прыметнікаў і скланяюцца таксама, як прыметнікі. Колькасныя роду не зьмяняюць і скланяюцца падобна да прадметнікаў. (*Узоры скланеньня лічэбнікаў глядзі „Другое кола“ лекцыя 17*).

**Б.** *Перапісаўшы, падчыркні колькасныя лічэбнікі простай рыскай, а парадкавыя пакручастай:*

На гару чацьвёра цягнуць, а з гары адзін сапхне. Адно кажа — зіма, другое — лета, а трэцяе — а мне ўсё роўна (сані, калёсы і конь). Слонь можа насіць пяцьдзесят, шэсьцьдзесят і нават сто пудоў цяжару. Янка Купала радзіўся ў адным годзе з Якубам Коласам — у тысяча восемсот восемдзесят другім годзе. Ёсьць мясцовасьці, дзе бывае дзьвесьце дажджовых дзён на год. Пад адным брылем чатыры браты (стол). Аднаго бацькі, аднае маткі ня роўныя бываюць дзіцяткі. Адзін з сошкай, а сямёра з ложкай. У тыдні сем дзён.

## Лекцыя 15.

**А.** 1. Зьвярнуць увагу на словы, друкаваныя курсівам:

Хадзіў ці доўга *ён*, ці мала, ды толькі нешта адзін раз бяда ў бару *яго* спаткала... Во як казаў нам *сам* Тарас. *Ніхто* з дамашніх не згадае, чым рэчка Костуся займае, *якая іх* зьвязала сіла, і *чым яна* так хлопцу міла. *Які* сакавік, *такі* красавік. На ўсё сяло адзін вол і *той* гол. На вайну *ты* паедзеш.

2. На якія пытаньні адказваюць словы: *я, ты, ён, яна, яно, ніхто, сам?*

3. На якія пытаньні адказваюць словы: *той, такі, які?*

4. Ці словы *я, ты, ён, сам, хто* самы сабой называюць нейкі прадмет?

5. Ці словы *той, такі, які, гэты* самы сабой называюць нейкую прымету?

**§ 17. Займеньнік.** Словы *я, ты, ён, хто, што, нехта, нешта, сам* і падобныя, хоць і адказваюць на пытаньне *хто? што?*, але самы не называюць аніякога прадмету, а таму ня лічацца прадметнікамі. Гэтыя словы толькі паказваюць *на* прадмет, яны стаяць заместа імені прадметнага. Вось, напрыклад, у першым прыкладзе заместа імені прадметніка „Тарас“ ужыта *ён, яго, сам.* Каб ня было сказана, што гэта „Тарас“, то мы і ня ведалі-б, аб кім іменна гутарка.

Словы *мой, твой, свой, такі, які, увесь, кожны, чый, каторы* і падобныя, хоць і падобны да прыметнікаў або да лічнікаў, але ані прыметы, ані лічбы не азначаюць, а ўжываюцца заместа імені прыметнага або лічэбнага.

Словы, што ўжываюцца *заместа імені* прадметнага, прыметнага, або лічэбнага, называюцца **займеньнікамі.**

**Б.** *Сьпісаўшы, падчыркнуць займеньнікі: што заместа імені прадметнага — простай рыскай; што заместа імені прыметнага — пакручастаю.*

Як хто хоча, так па свайму гору плача. Не за што сказаць аці, калі няма чаго ў рот узяці. Прылажыце руку да левага боку вашае грудзіны і вы пачуеце, як б‘ецца вашае сэрца: гэта сэрца разганяе кроў па ўсім нашым целе. На кім скрупіцца, а на кім зьмелецца. На гэтае лета добра і гэта. На сваім кані, як хачу, скачу. На што нам тыя пісталеты, калі страляць ня ўмеем? Па мне хоць воўк сабе траву еш. Якое дзерава, такі й клін. Ня ўвесь сьвет, што ў ваконцы.

## Лекцыя 16.

**А.** 1. Што такое займеньнік? Якія ведаем займеньнікі?

2. Якія займеньнікі зьмяняюць род, а якія не?

3. Праскланяй: я, ты, ён, яна, яно; хто, што, мой, мая, маё.

**§ 18.** Тыя займеньнікі, што падобныя да прыметнікаў, зьмяняюцца ў родзе, напр.: мой, мая, маё; такі, такая, такое.

Займеньнікі **я, мы** называюцца займеньнікамі **першай асобы.**

Займеньнікі **ты, вы** называюцца займеньнікамі **другой асобы.**

Займеньнікі: **ён, яна, яно, яны** называюцца займеньнікамі **трэцяй асобы.**

Усе займеньнікі скланяюцца. Узоры скланеньня займеньнікаў пададзены ў наступнай лекцыі.

**Б.** *Паданыя займеньнікі перапішы ва ўсіх трох радох (калі маюць):*

я, ты, ён, мы, вы, яны;
мой, твой, свой, нашы, вашы, іхны;
гэты, гэны, той, такі, гэткі;
хто, што, які, каторы, чый;
увесь, усякі, усялякі, кожны, сам, самы;
нехта, нешта, неякі (нейкі), нечый, хтось, хтосьці, неякісь, чыйсь;
ніхто, нішто, нічый, ніякі, ніводны.

*Перапісаўшы, падчыркні займеньні падобныя да прадметнікаў простай рыскай, падобныя да прыметнікаў пакручастай, падобныя да лічэбнікаў двумя простымі.*

## Лекцыя 17.

### § 19. Прыклады скланеньня займеньнікаў:

а) *адзіночны лік:* … *множны лік:*

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Н. | я | ты | ён | яна | яно | мы | вы | яны |
| Р. | мяне | цябе | яго | яе | яго | нас | вас | іх |
| Д. | мне | табе | яму | ей | яму | нам | вам | ім |
| В. | мяне | цябе | яго | яе | яго | нас | вас | іх |
| Т. | мной(ю) | табой(ю) | ім | ёй(ю) | ім | намі | вамі | імі |
| М. | мне | табе | ім | ёй | ім | нас | вас | іх |

б) *адзіночны лік:* … *множны лік:*

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Н. | мой | мая | маё | мае | для ўсіх трох радоў. |
| Р. | майго | маей | майго | маіх | |
| Д. | майму | маёй | майму | маім | |
| В. | як Н аб Р | маю | маё | як Н або Р | |
| Т. | маім | маёю(й) | маім | маймі | |
| М. | маім | маёй | маім | маіх | |

**Б.** *Прасклаияй на пісьме ва ўсіх трох радох займеньнікі:* я, ты, ён; твой свой, чый, той.

УВАГА. Узоры скланеньня іншых займеньнікаў дадзены ў другой часьці граматыкі (лекцыя 19).

## Лекцыя 18.

**А.** 1. Да пададзеных прадметнікаў дадай адказ на пытаньне: *што робіць прадмет?* або *што з ім дзеецца?* такім спосабам:

вучань — *што робіць?* — піша, чытае
вучыцель — *што робіць?*
конь „ „
вецер „ „
краска — *што з ёй дзеецца?* — красуе, вяне...
дуб — *што з ім дзеецца?*
дождж „ „ „ „

**§ 20 Дзеяслова.** Слова, што адказвае на пытаньне *што робіць прадмет* (што *дзеець*)?, называецца дзеясловам, напрыклад: *піша, чытае, вяне, красуе, сядзіць, ідзе* і падоб.

2. Успомні лекцыю аб асаблівасьцях прадмету і скажы, якую асаблівасьць азначае дзеяслова, а якую прыметнік. (Гл. лекцыю 11 § 12).

**Б.** *Сьпісаць і дзеясловы падчыркнуць:*

Ціха на зямлю спускаецца ноч. Усё заціхае. Птушкі перасталі сьпяваць і дрэмлюць на сваіх седалах. Край неба, дзе зашло сонца, блішчыць чырвонаю стужкаю. Тонкія лёгкія хмаркі ахварбаваліся ў залаты цьвет. Белаватаю плёнкай уздымаецца туман над лугамі. Цемната ўсё гусьцее і гусьцее ды закрывае ад вачэй і поле, і лес. Узышла ўжо першая зорка. Кажаны вылецелі з сваіх месц, дзе яны сядзелі ўвесь дзень. На балоце закракталі жабы. За лесам ясьнее: гэта круглы месяц запаліў ліхтарык і сьвеціць над чорнаю зямлёю. Тухнуць агні, і вёска заціхае.

## Лекцыя 19.

**А.** 1. Якая розьніца між такімі сказамі:

агонь *гаручы* і { агонь гарэў... (прошлы час)
агонь гарыць... (цяперашні час)
агонь будзе гарэць, загарыць (будучны ч.) }

2. Якая галоўная розьніца між прыметнікам і дзеясловам па значэньні (па сэньсе)?

3. Зьвяжы (*спражы!*) дзеяслова з займеньнікамі першай, другой і трэцяй асобы ў адзіночным і множным ліку:

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| *адзін. лік*: | 1 асоба | *я* | пішу; | *множ. лік*: | *мы* | пішам |
| | 2 асоба | *ты* | — | | *вы* | — |
| | 3 асоба | *ён*<br>*яна*<br>*яно* | — | | *яны* | — |

4. Зрабі тое самае ў прошлым і будучным часе: я пісаў, ты пісаў і г. д.; я буду пісаць, ты будзеш пісаць і г. д.; я напішу, ты напішаш і г. д.

**§ 21. Спражэньне.** Дзеяслова зьмяняецца ў часе, ліку і асобе.

Такая зьмена называецца спражэньнем.

**Часоў** — тры: **цяперашні, прошлы і будучны,** напрыклад:

| | | |
|---|---|---|
| *цяперашні час*: | я пішу, | — |
| *прошлы час*: | я пісаў, | я напісаў |
| *будучны час*: | я буду пісаць, | я напішу |

**Лікі** — два: адзіночны і множны, напрыклад:

*адзіночны*: я пішу; ты пішаш; ён, яно піша

*множны*: мы пішам, вы пішаце, яны пішуць.

**Асобы** — тры: першая, другая і трэцяя, напрыклад:

1. *першая*: *я* пішу, *мы* пішам; я напісаў, я напішу і г. д.
2. *другая*: *ты* пішаш, *вы* пішаце; ты напішаш і г.д.
3. *трэцяя*: *ён*, *яна*, *яно* піша; *яны* пішуць і г. д.

**§ 22*).** Галоўная розьніца між дзеясловам і прыметнікам тая, што дзеяслова азначае асаблівасьць прадмету зьменную і залежную ад часу. Прыметнікжа азначае асаблівасьць незалежна ад часу. Напрыклад: *гарыць і гаручы; сівее і сівы ...* Гэта розьніца па значэньні (па сэньсе). Па форме розьніца тая, што прыметнік скланяецца, а дзеяслова спрагаецца.

Б. 1. *Сьпісаўшы, падчыркні дзеясловы і зьверху надпішы час пачаткавымі літарамі* (цяперашні час — *цяп. ч.*; будучны час — *буд. ч.*):

Вязала жанчына на полі ячмень. Надышла хмара, загрымела. Бачыць яна, што да дажджу адна ня ўправіцца. „Паклічу куму“, падумала яна. А кума ўжо ўправілася з сваёю работай ды йшла дадому. „Памажы мне, галубка, зьвязаць ячмень!“ папрасіла яна. — „Калі-ж, кума, жыбулькі надта колюцца“, адказала кума. А ўзімку прыходзіць яна да кумы ды кажа: „Дай мне, кумка, мукі на аладкі!“ — „Прышла, кумка, па муку, а жыбулька — за руку!“ адказала тая.

## Лекцыя 20.

Г. 1. Праспрагаць дзеясловы *рабіць, хадзіць, мець* такім спосабам:

| цяпер. час | | прош. час | |
|---|---|---|---|
| *адз. л.* | *мн. л.* | *адз. л.* | *мн. л.* |
| 1. я раблю | мы робім | я рабіў,-ла | мы рабілі |
| 2. ты робіш | вы робіце | ты рабіў,-ла | вы рабілі |
| 3. { ён, яна, яно } робіць | яны робяць | { ён рабіў, яна рабіла, яно рабіла } | яны рабілі |

**будучны час**

| *адз. л.* | *мн. л.* |
|---|---|
| 1. я буду рабіць | мы будзем рабіць |
| 2. ты будзеш рабіць | вы будзеце рабіць |
| 3. { ён, яна, яно } будзе рабіць | яны будуць рабіць |

2. Пакажы дзеясловы ў такіх сказах: *хадзіў ты ў полі, як гуляў на волі. Хадзіў-бы ты ў полі, каб быў на волі. Хадзі ты ў полі, як будзеш на волі.*

3. Чым яны розьняцца міжы сабою?

**§ 22. Лады: абвяшчальны, умоўны, загадны.** Пры спражэньні дзеяслова можа зьмяняцца на тры лады: **абвяшчальны, умоўны і загадны.**

Абвяшчальны лад „абвяшчае“, што было, што ёсьць, што будзе: *хадзіў, хаджу, буду хадзіць; пайшоў, пайду* і г. д.

Загадны лад выражае „загад“ або просьбу, покліч, прасьцярогу ці што падобнае: *нясі, зьмілуйся, бараніце, не паваліся, няхай жыве! няхай жывуць!* і г.д.

Умоўны лад паказвае, што дзеяньне залежыць ад нейкай умовы: *я зрабіў-бы, пашоў-бы* і г. д. (*каб хацеў, каб мог...*)

3. Пакажэце словы, што адказваюць на пытаньне *што рабіць?*

*Эх, кіньце крыўдаю карміцца! Чаму-ж нам ня пець, чаму ня гудзець. Калі-ж ты забабонамі пакінеш нас карміць, над роднымі загонамі пятлю крутую віць?*

**§ 23. Неазначальнік.** Такія формы, як рабіць, карміць, карміцца, пець, магчы, сячы, іськці і падобн. (на пытаньне *што рабіць?*) называюцца **неазначальнікам**. Яны „не азначаюць“ ні часу, ні ліку, ні асобы, а толькі *называюць* само дзеяньне ці стан прадмету.

Побач з формамі на *-ць* ужываюцца і формы на *-ці: лётаці, ламаці, хадзіці, задумаціся, паваліціся* і г. д.

Б. *Перапісаць і зьверху скарочана азначыць лад дзеяслова:*

Дзе араты плача, там жняя скача. Кожнаму знайшлася-б праца. Што пасееце, то й сажнеце. Нуда бядзе не паможа. Зазьвіні ты, як звон, і удар, як пярун, песьня наша, як воля, магучая! Хай крыўдзіцель дрыжыць, як падбіты каршун, хай нясуцца ў сьвет рэхі грымучыя! Каб дбаў-бы, то і меў-бы. Эх, трэба ўчыць яшчэ вас многа, як свайго брата шанаваць.

## Лекцыя 21.

А. 1. Праспрагай у загадным і ўмоўным ладзе паводле далучанага ўзору: *малаціць, шанаваць, ударыць, дрыжэць.*

| Загадны лад. | | | Умоўны лад. | |
|---|---|---|---|---|
| | *Адз. лік* | *Мн. лік* | *Адз. лік* | *Мн. лік* |
| 1 ас. | (няма) | малацімаі | я малаціў-бы | мы малацілі-б |
| 2 ас. | малаці! | малаціце! | ты малаціў-бы | вы малацілі-б |
| 3 ас. | хай ён, яна, яно малаціць! | хай яны малоцяць! | ён малаціў-бы; яна малаціла-б; яно малаціла-б | яны малацілі-б |

§ 24. **Умоўны лад** дастанем, прыставіўшы дапаможную частку *-бы* або *-б* да прошлага часу: *я пашоў-бы, зрабіў бы, яна пашла-б, яно пашло-б* і г. д.

2. Праспрагай у цяперашнім часе: *ламаць, глядзець, паліць.*

3. Ці можна ўтварыць цяперашні час ад *зламаць, угледзіць, спаліць?*

4. Якая розьніца ў значэньні паміж *ламаць і зламаць, глядзець і угледзіць, паліць і спаліць?* Дай прыклады дзеясловаў падобных да *ламаць* і падобных да *зламаць.*

5. Як будзе будучны час ад *ламаць, глядзець, паліць* і ад *зламаць, угледзіць, спаліць?*

§ 25. **Трываньне.** Дзеясловы бываюць двух трываньняў: **закончанага і незакончанага.** Закончанае адказвае на пытаньне *што зрабіць?* (зламаць, угледзіць, запаліць); незакончанае — на пытаньне *што рабіць?* (ламаць, глядзець, паліць).

Закончанае трываньне ня мае цяперашняга часу, а **будучны час** мае **просты** (зламаю, угледжу, спалю і г. д.); незакончанае трываньне мае цяперашні час (ламаю, гляджу і г. д.), а **будучны час зложаны** (буду ламаць, буду глядзець і г. д.).

Б. *Перапісаўшы верш, выпісаць па парадку ўсе дзеясловы, а побач кожнага азначыць ягоную форму і неазначальнік такім спосабам:*

*Загаснуць* — буд. ч.; 3 ас. мн. л.; апав. лад; законч. трыв.; неазначальнік — загаснуць.

*Загіне* — буд. ч.; 3 ас. адз. л.; апав. л.; законч. трыв.; неазн. — загінуць.

Коні скачуць. Дзын-дзын-дзын! Гучны звон нясецца і далёка між раўнін ціхім жалем льецца. Ціхне, глухне гэты звон, ускочыўшы ў гаёчак, усё слабее, ціхне ён, кволы галасочак. Вось і тройкі ня відаць, праняслась стралою, і званочка ня чуваць плачу пад дугою. Толькі пыл трубой курыць над дарогай бітай; поле ціхае глядзіць сіратой забытай. І пытае ціш яго поглядам, здаецца: хто праехаў і чаго і куды нясецца? І ня будзе знаць, стралой куды тройка скача, і званочак пад дугой чаго ціха плача. (Тройка—*Я. Колас*).

## Лекцыя 22 (паўторная).

**А.** 1. Пакажы дзеясловы і ад кожнага назаві неазначальнік:

Ідуць касцы, зьвіняць іх косы, вітаюць буйныя іх росы, а краскі ніжай гнуць галовы, пачуўшы косак звон сталёвы. Касцы ідуць то грамадою, то шнурам цягнуць, чарадою, то паасобку, то па пары; ідуць касцы, ідуць, як хмары, і льецца сьмех іх разудалы, як веснавыя паравалы. Гаворка, шум і коняў ржаньне — касьбы вясёлае вітаньне. („Новая зямля“—*Я. Колас.*)

2. Што мае супольнага дзеяслова з прыметнікам і чым адно ад другога розьніцца?

3. Якія лады мае дзеяслова? Што такое спражэньне? Што такое неазначальнік? Чым розьніцца закончанае трываньне ад незакончанага?

**Б.** *Перапісаўшы, зрабіць разбор дзеясловаў, як у лекцыі 21-ай:*

Касцы, ваякі ціхай працы, выходзяць з косамі на пляцы, і на палоскі верставыя кладуцца коскі іх крывыя. Пайшлі праверкі і памеры, каб больш мець пэўнасьці і веры, і каб ня вышла перакосу, і не зайсьці ў чыю палосу, бо будзе крыку, будзе сваркі, — няхай лепш цэлы будуць каркі. Эх, час касьбы, вясёлы час! І я ім цешыўся ня раз, і з таго часу па сягоньня мне сонцам сьвеціць Наднямоньне. Касцы рассыпаліся па гаку, як-бы ідуць яны ў атаку, і жыва менцяць свае косы; і ткуцца здольныя палосы, лажацца роўнымі радамі; а за касцом двама сьлядамі адбіткі ног яго кладуцца, а косы сьвішчуць і сьмяюцца.

(„Новая зямля“—*Я. Колас*).

## Лекцыя 23.

**А.** 1. У пададзеных прыкладах зьвярні ўвагу на словы, друкаваныя курсывам, і адкажы, да якіх слоў яны адносяцца:

*Яснае* сонейка сьвеціць. Сонейка сьвеціць *ясна*. На небе сьвеціць *бледны* месяц. На небе *бледна* сьвеціць месяц. Павеяў *лёгкі* вецярок. Вецярок *лёгка* павеяў. Зводдаль *глуха* загрымеў гром. *Глухі* гром загрымеў воддаль. Запанавала *страшэнная* цішыня. Запанавала *страшэнна* паважная цішыня.

2. Што азначаюць словы: *ясна*, *бледна*, *лёгка* і падобныя — ці прадметы, ці асаблівасьці? Ці асаблівасьці прадметаў, ці асаблівасьці асаблівасьцей?

**§ 26. Асаблівасьці асаблівасьцей.** Прыметнікі і дзеясловы азначаюць асаблівасьці прадметаў. Да прыметнікаў і дзеясловаў могуць аднасіцца словы, каторыя азначаюць асаблівасьці асаблівасьцей, напрыклад: *страшна* грыміць, *страшна* грымучы, *ясна* сьвеціць, *дужа* сьветлы і г. д.

3. Да пададзеных прыкладаў дадай словы, што азначаюць асаблівасьці асаблівасьцей на пытаньне *як?*
сонца сьвеціць — *як?* — ясна; каваль умелы—*як?*—вельмі;
дзеці гуляюць — *як?* ? хлапец лянівы—*як?* ?
лес шуміць — *як?* ? вецер вые — *як?* ?

Б. *Перапісаўшы, падчыркні словы, што азначаюць асаблівасьці асаблівасьцей.*

Нудна час сплывае ў няволі. Вялікія рэчкі ціха плывуць. Найчасьцей блудзіць, хто лёгка судзіць. Ноч была дужа цёплая. У шырокіх палёх серад збожжа дыхаюць грудзі неяк свабодна і вельмі глыбака. Асёл так шчыра ўчыцца ўмеў, што кніжкі ўсе, як сена, зьеў. Плыве шумліва бяседа вольная. Зайграй ты сьмялей, весялей. Сыплюцца кроплі часта і дробна, ціха па стрэсе бубняць. Цёмная ночка, ночка глухая цягнецца доўга, як год. Вецер дажджлівы панура сьпявае, жаласна сьвішча праз плот.

## Лекцыя 24.

А. 1. Пакажы словы, што азначаюць асаблівасьці асаблівасьцей:

Густа жыта маладое поле ўсё пакрыла; расьце добра і прыгожа ажно глянуць міла. Зоры далёкія, зоры бліскучыя ціха гараць над зямлёй. А яна пад той шумок сьпіць салодка вельмі.

**§ 27. Прыслоўе.** Слова, што азначае асаблівасьць асаблівасьці, называецца прыслоўем, напр: *ясна, добра, густа, часта, вельмі, так, неяк* і падобныя.

Прыслоўе найчасьцей адносіцца да дзеяслова: расьце *добра*, глянуць *міла* і. г. д. Радзей прыслоўе ад-

носіцца да прыметніка: *дужа* добры, *вельмі* благі, *страшэнна* вялізны. Бывае і так, што адно прыслоўе адносіцца да другога, напр.: жыта ўзышло *дужа добра*; асёл *так шчыра* ўчыцца ўмеў.

§ 28. **Часьціны мовы.** Дагэтуль мы пазнаёміліся з прадметнікам, прыметнікам, лічэбнікам, дзеясловам і прыслоўем. З іх, галоўным чынам, складаецца наша мова; яны называюцца часьцінамі мовы. Аб іншых часьцінах мовы — далей.

Б. *Перапісаўшы, падчыркні прыслоўі, што адносяцца да дзеяслова, адной рыскай, што адносяцца да прыметніка—двумя, што да прыслоўя — пакручастай.*

*Запраўды*, так гавора важна і песьню так пяе працяжна. Дружна станем, як сьцяна. За гарою ціха-ціха песьні заміраюць. Конік, сошка і аратай мерна йдуць *паволі*. Цяжка, цяжка дастаешся ты, кавалак хлеба! *Зрэдка* ветрык *чуць* прыметна *скулься* ціха набягае. У хаце ціха, *нават* жутка. *Усюды* стала нейк пужліва і трывожна-баязьліва. Сьпіць Ганулья ціха, роўна. Максім старанна аглядаў сьляды нядаўнай кражы ў яго абходзе.

Увага. Прыслоўі, якія трудней распазнаць, надрукаваны курсывам. Наагул-жа трэба памятаць, што прыслоўе — гэта нязьменная часьціна мовы: яно ані скланяецца, ані спрагаецца.

## Лекцыя 25.

А. 1. Што азначаюць такія словы: **і, а, на, ад, да, з, без, цераз, пад, над?** Ці яны азначаюць прадмет, ці асаблівасьць прадмету, ці асаблівасьці асаблівасьцей?

2. Вось такія словы: вучань, здарэньне, белы, вясёлы, тры, сто, я, мой, едзе, сьвеціць, белы, добры, вясёлы і г. д. — ці маюць самастойнае значэньне і што азначаюць?

§ 29. Усе словы можна падзяліць на дзьве кля-сы: **самастойныя** і **несамастойныя**. Самастойныя паказваюць прадмет, асаблівасьці прадмету або асаблівасьці асаблівасьцей. Да самастойных належаць прадметнік, прыметнік, лічэбнік, займеньнік, дзеяслова, прыслоўе. Несамастойныя часьціны не азначаюць ані прадмету, ані асаблівасьцей; яны слу-

жаць толькі для таго, каб злучаць і зьвязываць самастойныя часьціны між сабою.

Б. *Перапісаўшы, падчыркні несамастойныя словы:* Чайка наскочыла на камень. Прыйшла чапля ў госьці к жураўлю. Рыбакі ад'ехалі ад берагу. Паднялося сонца над лесам. Дзеці жывуць пры бацькох. На стральца і зьвер бяжыць. Найшла каса на камень. Болей слухай, а меней гавары. Абы бяда, а шыя будзе. Гара з гарою ня сходзіцца, а чалавек з чалавекам заўсёды. І без папа ведама, што ў нядзелю сьвята. Глухі не дачуе, дык прыложыць. Ня зыч ліха другому, каб не давялося самому.

## Лекцыя 26.

А. 1. Зьвярні ўвагу на словы, друкаваныя курсывам: Прыйшла чапля *у* госьці *к* жураўлю. Ліс дабраўся *да* курэй. Найшла каса *на* камень. Паднялося сонца *над* лесам. Дзеці сядзелі *пад* дубам. Рыбакі ад'ехалі *ад* берагу. Селянін паехаў у лес *па* дровы. Сабака стаяў *перад* гаспадаром. Няма торгу *бяз* звадкі.

Адкажы: ці гэтыя словы самастойныя, ці не?

2. Ці можна сказаць, напрыклад, так: ліс дабраўся да *курам*, найшла каса на *каменем* і падобна?

**§ 30. Прадлог.** Такія несамастойныя словы, як **ад, да, на, над, пад, к, цераз, перад, праз, прад, у, па, за, аб** і падобныя, называюцца **прадлогамі.** Яны знаходзяцца прад скланяным словам і кіруюць яго склонам (паложаны прад — *прадлог*).

Калі прадлог кіруе склонам, то лічыцца асобным словам і пішацца асобна. Каб даведацца, ці прадлог кіруе склонам, трэба паставіць адпаведнае пытаньне такім спосабам: Найшла каса (*на* што?) *на* камень. Дзеці жывуць (*пры* кім?) *пры* бацькох.

Калі-ж прадлог так прырос да скланянага слова (прадметніка або прыметніка), што не кіруе яго склонам, то тады такога пытаньня паставіць нельга, і прадлог пішацца разам, напр.: *на*сеньне, *прад*лог, *да*памога, *за*піска. Тутака слова без прадлога або зьмяняе сэнс, або зусім траціць яго.

З дзеясловам прадлог творыць адно слова і пішацца разам: *па*ехаць, *да*брацца, *у*зяцца, *прад*лажыць і г. д.

**Б.** *Перапісваючы, пастаў перад прадлогам адпаведныя пытаньні, як паказана ў § 30*:

Мы ўвайшлі ў хату. Кола наехала на камень. Голуб кружыўся над хатай. Мы дайшлі да хаты праз гадзіну. Сонца зашло за гару. Цесьля зваліўся з страхі. Падскочыў аж пад столь. З касою пагоды ня ждуць. З плеч ды ў печ. Ты ад варот, а ён цераз плот. Шалёная муха ўкусіла за вуха. На галодны зуб добра й гэта. Над пешым арлом і сарока з калом. Наняўся, як прадаўся. Тады маю, як у руках трымаю. Адважны не баіцца няўдачы. У лені баляць калені.

## Лекцыя 27.

**А.** 1. Зьвярні ўвагу на прадлогі ў словах, друкаваных курсывам: Стол засьцілаецца *настольнікам*. У *засьценку* няма школы. *Прывычка* другая натура. Трэба *спыніць* спрэчкі. *Пры*дакучыла жураўлю жыці аднаму.

Ці ў гэтых словах бяз зьмены значэньня можна аддзяліць прадлог?

**§ 31.** Шмат у якіх разох прадлог так цесна зросься з словам, што слова без яго зьмяняе або зусім траціць сваё значэньне: *па*дарожны, *на*стольнік, *пры*вычка, *пера*ход (але: *- дарожны*, *- ход*, *- стольнік* значаць нешта іншае, а *- вычка* нічога ня значыць).

Некаторыя прадлогі зусім ня ўжываюцца асобна: **уз-, раз-, вы-, пера-, су-, пра-, па-** (уздых, усход, разбор, расход, выган, выйсьці, пераход, сусед, прадзед, пасынак).

З дзеясловам прадлог заўсёды злучаецца ў вадно непадзельнае слова: дагнаць, прамяніць, перакінуць, падыйсьці, прыдумаць, засумаваць, падгадаваць, наляцець, абхапіць, згаварыцца, сьцягнуць, узысьці, успомніць, разагнаць, раздаць, расказаць, выдумаць, пераняць, сустрэць і г. д.

Таксама з прыслоўем: запраўды, пазалетась, зараз, напавер, уздоўж, спадысподу, даволі, паасобку, потым і г. д.

**Б.** *Перапісаўшы, падчыркні асобныя прадлогі простай рыскай, а словы, што пішуцца разам з прадлогамі, — пакручастай.*

А глянь на луг пад вечар, браце! Увесь, як ёсьць, аж за дарогу устаўлен копамі мурогу; і так сьвяжуткі копкі тыя і так выразны — бы жывыя, і выгляд кожнае адметны, але ўсе разам так прыветны. Вазы шыбуюць важна, стала, бы тых вагонаў рад нагнала. Павее ветрык — што за пахі! Мёд разьліваюць тыя гмахі, віно найлепшае і ром, як плата шчырая касцом.
(„*Новая Зямля*“ Я. Колас).

## Лекцыя 28.

**А.** 1. Зьвярні ўвагу на словы, друкаваныя курсывам, і адкажы, якое значэньне маюць яны ў сказе:

Былі хлопцы на вясельлі *і* малодзіцы. Авёс *і* ячмень сабраны. На зіму абміраюць *і* вужакі, *і* жабы, *і* яшчаркі. Сьвет вялік, *а* ў сьвеце людзі. Паехаў, *але* не даехаў. Просіць шчыра грамацея, *ажно* шапку скінуў. *І* без папа ведама, *што* ў нядзелю сьвята. Ня зыч ліха другому, *каб* не давялося самому. Шырокі двор, *ды* невялікі збор. Прыляцела ластаўка з далёкага выраю *ды* зашчабятала. *Хоць* з вадою, *абы* не з бядою. Гол, *як* сакол.

**§ 32. Злучнік.** Такія словы, як **і, а, але, каб, ды** і падобныя, самастойнага значэньня ня маюць*), а служаць толькі для злучэньня і называюцца **злучнікамі.**

**Б.** *Перапісаўшы, падчыркні злучнікі* (злучнікі, якія трудней распазнаць, друкаваны курсывам):

Пуста ў лузе, толькі стогі парыжэўшыя стаяць, ды шпакі каля дарогі цэлы дзень адно крычаць. Вуснамі мёд разьлівае, а запазухай камень трымае. Калі свайго хлеба край, *то* й пад ельлю рай. Галасок, *як* тоненькі валасок. Не бяда, *што* чорна, *абы* была праворна. Хоць сьпіна гола, *ды* свая воля. Ці будзе, ці не? Або будзе, або не. Каласы пахіліліся, бо поўныя. Жыў

*) Гэта значыць: не азначаюць ані прадмету, ані асаблівасьцей.

сабе дзед ды баба. Шырокі двор, ды невялікі збор. А як надойдзе ужо Пакрова, то не наесца ў полі карова, бо ужо золкі ветрык павее, трава пажоўкне і пачарнее. Часам, як у полі з коньмі начуеш, пяючы „восень“ дзяўчат пачуеш, і, сказаць праўду, дык, мой ты браце, ад гэнай песьні за сэрца хваце, бо яе тая працяжная нота, хоць сьлёзы гоніць, слухаць ахвота.

## Лекцыя 29.

А. 1. Якім словам выражаецца раптоўны боль? Як выражаецца зьдзіўленьне, радасьць?

2. Сабака брэша: гаў-гаў-гаў! Як курняўкае кот? Як іржэць конь? Як звоніць званок?

3. Што паказваюць *хап*, *брык*, *лоп*, калі скажам так: А сабака *хап* злодзея за палу. Конь *брык* каваля ды ў самае калена. *Лоп* яго лапкай па плячох.

§ 33. **Клічнік** выражае ўчуцьцё або паказвае розныя зыкі, да якіх чалавек хоча прыпадобніцца; напрыклад: учуцьцё болю, радасьці, зьдзіўленьня: ай! ой! аей! ого-го! ага! ах! ох! ух! а-ха-ха, ура! і г. д.; шшш! гаў-гаў--гаў! курняў! іга-га-а! ау-ау-ау! дзын-дзын-дзын! і шмат іншых.

Каб паказаць, што нешта канчаецца ў адзін мамэнт, ужываюцца асобныя формы клічніка ад дзеяслова: *хап*, *брык*, *бэнц*, *бох*, *бабух*, *хлюпсьць*, *грук*, *стук*, *бахець*, *хапець*, *мяльнець*, *піхець*, *грымоць* і іншыя.

Б. *Улажы 10 сказаў на розныя клічнікі.*

## Лекцыя 30.

А. 1. Якія ведаеш часьціны мовы? Якія з іх зьменныя, якія нязьменныя?

2. Якія часьціны мовы скланяюцца, а якія спрагаюцца?

3. Якія мы маем знадворныя пачуцьці, і да чаго яны служаць?

4. Што такое прадмет? Што такое асаблівасьці прадметаў?

5. Назаві колькі прадметаў. Назаві асаблівасьці гэтых прадметаў.

6. Што выражае прыметнік? што выражае дзеяслова?
7. Што выражае прыслоўе?
8. Якую службу спаўняе ў сказе прадлог?
9. Якую службу спаўняе ў сказе злучнік?
10. Што такое клічнік?

**Б.** *Перапісаўшы, над кожным словам надпішы, якая гэта часьціна мовы.* (*Злучнікі толькі падчыркні адною рыскай, а прадлогі дзьвяма, бо залішне кароткія*):

Моцна сьпіць шырокая рака. Глядзіш, і здаецца: яна мёртвая. Але гэта толькі здаецца: пад ковамі лёду йдзе работа, кіпіць жыцьцё. Жыве рака. А пераваль-чыкі не перастаюць бубніць і крычаць пра новае жыцьцё. На лёдзе там і сям паказаліся палонкі, прагрэтыя сонцам. Варушыцца рака, падымаюцца яе грудзі. Чуе й яна ўжо вясну новага жыцьця. Трасе яна сваймі плячыма, і лёд покае, трашчыць. Не задзяржаць ракі гнілому ланцугу раскалотага лёду. Прабіваецца яна на вольны сьвет, выходзіць з берагоў, ломіць і крышыць усё, што хоча стрымаць яе волю. А крыгі — астача сьцюжы — з глухім шумам і выцьцём, як дзікія зьвяры, злосна скрыгочуць старымі гнілымі зубамі, як праціўнікі шчасьця людзкога.

## Лекцыя 31.

**А.** 1. Ці назавём сказам паасобныя словы: *сонца, месяц, граць, сьветлы, сьвяціць*? А ці будзе сказам: *сонца грэе, месяц сьвеціць, сьвяці*!

2. Што такое сказ?

**§ 33. Сказ.** Думка, выказаная словамі, называецца сказам. Напрыклад: *Пастух трубіць. Зоркі зіганяць на небе.*

Сказам можа быць нават адно слова, калі яно выказвае закончаную думку, напрыкла: *Уважайце*! *Сядзіце*! *Сьвітае. Загрымела.*

3. Якая розьніца паміж такімі сказамі: *Ты чытаеш. Ці ты чытаеш*? *Чытай*! *Ты пілнуеш. Ці ты пілнуеш*? *Пілнуй.*

**§ 34. Сказы абвяшчальныя, пытальныя і клічныя.** Сказы, у якіх нешта азнаймляецца, абвяшча-

ецца, называюцца абвяшчальнымі. Напр.: *Моцна сьпіць шырокая рака. Але гэта толькі здаецца: пад коваміі лёду йдзе работа, кіпіць жыцьцё.*

Сказы, у якіх выказваецца загад або нейкае учуцьцё — радасьць, зьдзіўленьне, захопленьне, — называюцца ўсклічнымі. Напр.: *Ты прыдзі, вясна жаданая, прыдзі! Эх, жар дакучае! Цяжка, жнейка, работа твая!*

Тыя сказы, у якіх выражаецца пытаньне, называюцца пытальнымі. Напр.: *Што за песьні сьпяваеш ты, вецер? Аб чым-жа ты плачаш? Ці мала прастору тваім шырокім крыльлям?*

**Б.** *Перапішы і знайдзі сказы абвяшчальныя, усклічныя і пытальныя:*

Глянь, зірні наўкола: бачыш гэтыя сялібы, хаткі нашых сёлаў, гэта поле — шнур ля шнура, ўзгоркі і лагчынкі, на узьмежку грушу-дзічку, крыж каля пуцінкі?

Бачыш логі, сенажаці, а на іх — крыніцы? Далей — бор зялёны, гонкі, што у высь глядзіцца?

А там далей, дзе ўжо вока дасягнуць ня можа, тое самае пабачыш.

А ўсё так прыгожа!

Сотні вёсак і мястэчак, гарадоў нямала, рэк бурлівых, пушч гамонкіх з неапетай славай.

Там плывуць Дняпро і Сожа ды Дзьвіна і Нёман, Белавежы, Налібокаў там чуваці гоман.

## Лекцыя 32.

**А.** 1. Адкажы на пытаньні:

Хто трубіць? Хто косіць? Хто куе? Што наступае пасьля зімы? Што цячэ? Што расьце ў вазонах? Што робіць вучыцель? Што робіць рыбак? Што робіць паляўнічы? Што робіцца з вадой? Што робіцца з сьнегам?

2. Прачытай пададзеныя сказы і скажы, *аб чым* ці *аб кім* кажацца ў кожным з іх:

Пастух трубіць. Касец косіць. Зоркі зігацяць. Сонца сьвеціць і грэе. Вецер вые. Лес шуміць. Вучыцель вучыць. Паляўнічы палюе.

3. Што кажацца ў гэтых сказах аб пастуху, касцу, зорках, сонцы і г. д.?

**§ 35. Дзейнік і выказьнік.** Слова, што азначае прадмет, аб якім кажацца ў сказе, называецца дзейнікам. Дзейнік паказвае асобу або рэч, якая нешта дзее, або з якою нешта дзеецца: *пастух* трубіць, *зоркі* мігацяць, *трава* зялёная.

Выказьнік нешта выказвае аб дзейніку: што дзейнік робіць (дзее), або што з дзейнікам дзеецца: пастух *трубіць*, зоркі *мігацяць*, трава *зялёная*.

Дзейнік найчасьцей выражаецца прадметнікам, стаіць у назоўным склоне і адказвае на пытаньне *хто*? або *што*?

Выказьнік найчасьцей выражаецца дзеясловам.

Але і іншыя часьціны мовы могуць быць дзейнікам і выказьнікам: Напр.: *Пешы* коннаму *не таварыш* (*хто*? — *пешы* — дзейнік; аб ім кажацца, што ён „*не таварыш*" — выказьнік). *Трава зялёная* (*што*? — *трава* — дзейнік; аб траве кажацца, што яна „*зялёная*" — выказьнік).

**Б.** *Перапісаўшы, падчыркні дзейнік простай рыскай, выказьнік пакручастай.*

Сонца зайшло. Птушкі лятаюць. Пастух пасе. Сенажаць скошана. Грэчка зьвезена. Жыта зжата. Блінула маланка. Неба заслалася хмарамі. Выйшаў сейбіт сеяць. Маліна салодкая. Жыта красуе. Хата прыбрана. Асыпалася лісьце. Прыйшла восень. Пшаніца сьцяблістая. Дарога добрая. Затуманілася неба. Пачаліся прымаразкі. Птушкі разьляцеліся. Быў прыгожы летні вечар.

## Лекцыя 33.

**А.** 1. Да чаго адносяцца друкаваныя курсывам словы?

Настала || *халодная* пара. *Стары* явар || пахіліўся. Пахіліліся || *ніцыя* лозы. Кончана || работа *сярпа*. Слаўная || доля *героя*.

Кравец || пашыў *сьвітку*. Дзеці || спаролі *гняздо*. Праўда || *вочы* коле. Поле || залаціцца *збожжам*. Шкло || блішчыць *на сонцы*. *Па балоце* пахаджае || бусел. Во-

жык || ласы *на вужы*. Не жартуй з *агнём*. Гасьцінец || абсаджаны *бярозамі*.

2. Што разьдзяляе знак || у пададзеных сказах?

**§ 35. Асноўныя і даданыя часьціны сказу**. Дзейнік і выказьнік—**асноўныя** часьціны сказу. Апрача таго ў сказе могуць быць часьціны, што дадаюцца да дзейніка або выказьніка: такія часьціны называюцца **даданымі**.

**Б.** *Перапісваючы, расстаў словы так, каб сказ можна было разьдзяліць на дзьве часткі так, як у прыкладах пад А. І.* (Напрыклад: Ня люблю я места = я || ня люблю места).

Кучка йдзе народу. Вязала жанчына ячмень. Нагрэты сонцам пясок паліў ногі. Мяса маладых казьлянят вельмі смачное. Унадзіўся казёл у гарод. Панурыя елкі маркотна шумелі. Цэлае лета вісеў жалуд на старым дубе. Ціха Нёман калыхаўся у высокіх берагох. Зазьвінелі звонкія струны. Нудная восень прыйшла. Вецер дажджлівы панура шуміць. Паляўнічы забіў чацьвертага цецярука. Шэрая зязюля кукуе у садзе. Халодны вецер сьвішча ў полі. Зямля з усіх бакоў абкружана паветрам.

УВАГА. Ня ў кожным сказе трэба рабіць перастаўку.

## Лекцыя 34.

**А.** 1. Адкажы поўным сказам на пытаньні:

Які колер мае малако? (Малако мае *белы* колер). Якое судзьдзе робяць з шкла? Які млын ставяць на рэчцы? Які колер мае кроў? Колькі ў годзе месяцаў? Каторы дзень нядзеля? Чыйго бацьку любіць сын?

2. Якія пытаньні ставіліся ў пададзеных сказах?

**§ 36. Азначэньне**. Тая часьціна сказу, што адказвае на пытаньні *які? чый? каторы? колькі?*, называецца **азначэньнем**. Напрыклад:

Ён мае *добрую* (якую?) кніжку. Сын любіць *свайго* (чыйго?) бацьку. Паляўнічы забіў *чацьвертага* (каторага?) ваўка. Я маю *пяць* (колькі?) братоў.

Б. *Сьпісаць і авначэньні падчыркнуць:*

Маладзенькая травіца блішчыць на сонцы. Насталі кароткія туманныя дні. Сын любіць свайго бацьку. Сем дзён малаціла. Прайшла вясёлая пара лета. Кравец пашыў добрую сьвітку. Цікаўныя кніжкі ляжаць на паліцы. На лузе стаіць высокі дуб. Поле залаціцца сьпелым збожжам. Цёмны лес сьцяной зялёнай цесна бераг абступіў. Нагрэты сонцам пясок паліў ногі. Тры вярбіны стаяць над вадою. Ад лесу пачыналіся сялянскія палеткі. А хто там ідзе у вагромністай такой грамадзе?

## Лекцыя 35.

А. 1. Поўнымі сказамі адказаць на пытаньні: *каго-чаго? каму-чаму? каго-што? кім-чым? (пры) кім-чым?*

Каго няма ў сіроты? Чаго няма ў беднага? Каму патрэбны молат? Каго вучыць настаўнік? Што косіць касьбіт? Чым вудзяць рыбу? Пры кім жывуць дзеці? На чым растуць яблыкі?

§ 37. **Дапаўненьне.** Тая часьціна мовы, што адказвае на пытаньне **каго-чаго? каму-чаму? каго-што? кім-чым?** (пры) **кім-чым?**, называецца дапаўненьнем. Напрыклад: Сабака злавіў (каго?) *зайца. Па рэчцы* (па чым?) плавалі гусі.

УВАГА. Прадлогі ня лічацца асобнымі часьцінамі сказу і адносяцца да таго слова, склонам каторага кіруюць.

Б. *Сьпісаўшы, падчыркнуць дапаўненьні:*

Ветрык калыша жыта. Не рабі нікому крыўды. У нашага барана роўная воўна. Абапал рэчкі раскінулася сенажаць. Па рэчцы плавалі гусі. Не жартуй з агнём. Хлопчык пасьвіў авечкі. Не бярыся не за сваё дзела. У паноў было ігрышча. Кладзецца пад сярпамі збожжа. Ня трубіў у рог пастух. Неба дажджліваю хмарай абложана. Траўкай ня грае сваёй сенажаць. Выкаваў каваль з аднаго кавалка жалеза два плугі. Адзін плуг трапіў да селяніна, а другі да купца.

## Лекцыя 36.

А. 1. Поўнымі сказамі адказаць на пытаньні: *калі? дзе? куды? адкуль? як? якім спосабам? чаму? нашто?*

Калі відаць зоркі на небе? Дзе жыве рыба? Куды цякуць рэкі? Адкуль цякуць рэкі? Як узімку сьвеціць сонца? Якім спосабам езьдзяць на конях? Нашто астаўляюць насеньне? Чаму замярзае вада?

§ 38. **Акалічнасьці.** Тыя словы, што азначаюць час, месца, прычыну, мэту, або спосаб дзейнасьці, называюцца **акалічнасьцямі часу, месца, прычыны, спосабу і мэты.**

**Акалічнасьць часу** адказвае на пытаньні *калі? ці доўга? ад якога і да якога часу?* Напрыклад: *Вечарам* пайшоў дождж. *Усьцяж* па табе плачу. Працуй *враньня аж да зьмярканьня.*

**Акалічнасьць месца** адказвае на пытаньні *дзе? скуль? куды?* Напрыклад: Бяда *ў бары* яго спаткала. *З неба* звалілася зорка. Рэкі плывуць *у мора.*

**Акалічнасьць прычыны** адказвае на пытаньні *чаму? дзеля якой прычыны?* Напрыклад: Ён *за работай* ня будзе мець часу й памерці. Ён вярнуўся да хаты *дзеля бацькоў.* Хата загарэлася *ад печы.*

**Акалічнасьць мэты** адказвае на пытаньні *нашто? для якой мэты?* Напрыклад: Ён шмат дае *на бедных.* Валы пайшлі ваду *піць.*

**Акалічнасьць спосабу** паказвае, *як, якім спосабам* нешта робіцца. Напрыклад: *Ціха* сьпіць дзіцятка. Пайшла ў места *пехатою.*

Б. *Сьпісаўшы, падчыркнуць акалічнасьці і зьверху надпісаць, якая акалічнасьць* (скарочана: *ак. ч., ак. мес., ак. пр., ак. мэты, ак. сп.*).

Мы йшлі ў места пехатою. Побач раскінулісь родныя вёскі. Вечарам пайшоў дождж. Уначы чалавек кепска бачыць. Увосені багат і верабей. У полі работа скончана. Борзда імчаліся коні. Падарожны зайшоў у вёску начаваць. Учора раніцай была навальніца. Неўспадзеўкі расчыніліся дзьверы. Хата закурэла ад дыму. Пад Немцам у Вільні паміралі з голаду. Збоку блеснулі агоньчыкі. Направа ад лесу было вялікае балота. Кожную птушку дзеці сустракаюць з радасьцю.

## Лекцыя 37.

А. Зьвярні ўвагу на адзначаныя курсывам часьціны сказу:

Загінулі *сьцюжы, марозы, мяцеліцы.* На зіму абміраюць і *вужакі,* і *жабы,* і *яшчаркі. Сьвішча, плача* і *галосіць* завіруха злая. *Ідзе* жняя і весела пяе. *Кляновае* і *дубовае* лісьцё гаспадыні *зьбіраюць* і *пякуць* на ім хлеб. Жывёлы даюць чалавеку *мяса, малако, скуры, воўну, тук* і *шэрсьць. Глуха, трывожна* шуміць асака. *Весела* й *хутка* мінутка ў мінутку зойдзе нам час. *У стуку* і *груку* забудзем мы муку працы сваей.

**§ 39. Віды сказаў.** Калі ў сказе два ці больш дзейнікі, выказьнікі, дапаўненьні, азначэньні ці аднолькавыя акалічнасьці, то такі сказ называецца **зьлітым.** Напр.: Згінулі *сьцюжы, марозы, мяцеліцы. Сьвішча, плача* і *галосіць* завіруха злая.

Тыя сказы, што маюць толькі асноўныя часьціны, г. зн., толькі дзейнік і выказьнік, называюцца **неразьвітымі:** *Сонца ўзыйшло. Бацька гарэ.*

Тыя сказы, што маюць і даданыя часьціны, называюцца **разьвітымі:** *Побач раскінуліся родныя вёскі. Жалем сьціскаюцца грудзі.*

Падобныя часьціны у зьлітым сказе разьдзяляюцца коскай (,), калі яны ня зьвязаны злучнікам **і, ці, ды, да.** Напрыклад: конік, сошка і араты мерна йдуць па полі.

Але, калі злучнік паўтараецца, то коска ставіцца і перад злучнікам: *На зіму абміраюць і вужакі, і жабы, і яшчаркі.*

Б. *Сьпісаўшы, паставіць коскі:*

Сьпевам дружным ціхім звонам поўніцца ўвесь луг. Карова конь сабака воўк мядзьведзь не пазнаюць нічога калі не панюхаюць. У полі песьні шум і гоман. Будуць ветры за вугламі выць і плакаць і стагнаць. Застаюцца зімаваць з намі толькі галкі вароны сарокі цецярукі дзятлы ды яшчэ некаторыя птушкі. Шумеў і лес і луг з травою і ўсе расьціны на зямлі.

Песьні крык і гоман слухаў дзед Завала. Тут былі і старыя і малыя бабы і дзеці. Адны вочы і плачуць і сьмяюцца.

## Лекцыя 38.

А. Пакажы, якія сказы можна разлажыць на некалькі паасобных сказаў, а якія — нельга:

Лета зьбірае. Зіма праядае. Лета зьбірае, а зіма праядае. Ластаўка дзень пачынае, а салавей канчае. Ня выліняў конь да Яна. Няхай ідзе да другога пана. Калі ня выліняў конь да Яна, то няхай ідзе да другога пана. Калі зарадзіў званец, то хлебу будзе канец. Хто поле троіць, той хлеб кроіць. Здраду прыймаюць, а здрадніка вешаюць. Дурная тая дамова, дзе вала бадзе карова.

**§ 40. Прosты і зложаны сказ.** Сказы бываюць простыя і зложаныя. **Просты** сказ ня можа быць разложаны на два ці колькі іншых сказаў. Напрыклад: *Час быў раньні. Начлежнікі ехалі шумна.* **Зложаны** сказ можа быць разложаны на простыя сказы. Напрыклад: *Калі ў хляве плодзіць, а на полі родзіць, то й дурань хату водзіць*— можам разлажыць на тры простыя сказы: *У хляве плодзіць. На полі родзіць. Дурань хату водзіць.*

Простыя сказы лучацца ў зложаныя найчасьцей пры помачы такіх **злучных слоў: і, а, але; калі, як, дзе, хто, што, які, каторы, каб, дык, абы, ажно, бо** і падобных. Апрача *і*, перад гэтымі словамі звычайна ставіцца коска. Напр.: Саха *і* барана самы не багаты, *а* ўвесь сьвет кормяць. Паехаў баранавацъ, *але* да поля не даехаў. Просіць шчыра грамацея, *ажно* шапку скінуў. Гол, *як* сакол.

Калі сказ стаіць пасярэдзіне другога, то выдзяляецца коскамі з абодвух бакоў: Гай, *што быў цёмны*, зазеляніўся.

Б. *Сьпісаць і паставіць коскі:*

Болей слухай а меней гавары. Бяда бяду вядзе а трэцяя паганяе. Бес-бы дзятла ў рукі ўнёс каб не

яго доўгі нос. Бяда што ня п'ецца вада. Думы за гарамі а сьмерць за плячамі. Калі ўмалотна дык і завозна. Мы з табою як рыба з вадою. На тое і шчупак у моры каб карась не драмаў. Ня там траціш дзе купляеш а там траціш дзе прадаеш. Рыба шукае дзе глыбей а чалавек дзе ляпей. Цьвіце як макаўка. Цёмная ночка цягнецца доўга як год. Пчала ляціць проста на тую кветку якая ей патрэбна. З печы выймаюць гатовы хлеб які можна есьці як толькі крыху астыгне. Шмат трэба часу й працы каб мець бохан хлеба.

## Лекцыя 39.

**А.** 1. Голасна прачытай пададзеныя словы і заўваж, на якія выразныя часткі яны дзеляцца, калі мы іх выгаварываем:

хата, вада, доля, мора, сякера, раніца, крыніца;
байбак, прайшоў, сойка, войстра, майстар;
верна, добра, збожжа, зерня, умалотна, марозна.

**§ 44. Склад.** Слова дзеліцца на **склады**: ва-да, ха-та, до-ля, ся-ке-ра, бай-бак, вер-на, ма-роз-на. Слова можа быць *аднаскладовым*, калі ў ім адзін склад (дом, стол, конь), *двухскладовым* (ва-да, бай-бак) і *шматскладовым* (пе-ра-ро-біц-ца).

Калі на пісьме слова не зьмяшчаецца ў адным радку, то яго можна перанесьці ў другі радок, але толькі так, каб не парваць складоў (вы-це-ра-біць). На канцы радка трэба паставіць знак пераносу ( - ).

2. Ці ўсе склады ў слове выгаварваюцца роўна, ці адзін галасьней за другія? Напрыклад: па-жар, сьця-на, ту-ман, а-гонь, за-гон, ка-ле-ка, Ма-ры-ля, ба-ра-вік, па-ву-чок, ме-сяц, жу-ра-вель, пе-ра-нос, пе-ра-вяр-нуць, пе-ра-ра-біць?

**§ 42. Націск.** У кожным слове адзін склад выгаварваецца галасьней за другія, з **націскам**: ха́-та, ка-ра́, ка́-ра.

Націск, калі трэба, азначаецца знакам ( ´ ) над літарай.

**Б.** *Сьпісваючы, разьбіць словы на склады маленькімі рыскамі і паставіць націск* (вось так: ва-да́, да́-ро́-га).

Прыдзі пад вечар ты на поле і палюбуйся ім, саколе! Ў якія роўныя шнурочкі цяпер пакладзены снапочкі! І як прыгожа-слаўны бабкі, якія слаўныя іх шапкі! І хоць яны ўсе адзінакі, але і выраз і адзнакі у кожнай бабкі асабісты, а наагул усе фарсісты. Зірнеш—дальбог-жа, возьме ўцеха, і ня стрымаешся ад сьмеху: яны так мілы, так прыветны, так самавіты, так фацэтны і пазіраюць так прыхільна, прыгледзься толькі да іх пільна! І многа-ж іх: ня зьмерыш крокам і не акінеш навет вокам; стаяць радамі, зухаваты, як на ўрачыстасьці салдаты.

## Лекцыя 40.

**А.** 1. Пададзеныя словы разьдзялі на склады, а склады на асобныя гукі: сон, дол, даў, бай, бой, хата, багаты, брама, баравік, звон, конь, соль.

§ 43. **Гукі: галосныя і зычныя.** Склады слова можна разьдзяляць на асобныя **гукі**. Напрыклад, слова *сон* мае тры гукі: *с-о-н*, слова *хата* мае чатыры гукі: *х-а-т-а*, слова *брама* мае пяць гукаў і г. д.

Гукі дзеляцца на **галосныя і зычныя.** Галосныя гукі: *а, о, у, э (е), ы, і.* Зычныя гукі: *б, в, г, д, дз, дж, ж, з, к, л, м, н, п, р, с, т, ф, х, ц, ч.* Пры вымове галосных гукаў чуваць голас, грудзі дрыжаць. Іх можна доўга цягнуць, пяяць.

У складзе павінен быць адзін галосны гук; колькі галосных гукаў у слове, толькі ў ім складоў: стр*а*-х*а*, пр*а*-л*е*с-к*а*. Склад можа зычнага і ня мець: *а*-б*ы*, *а*-л*е*. Без галоснага гуку складу ня бывае.

Галосныя *ў* і *й* ня твораць асобнага складу: *даў, праўда, дай, йад* (пішацца *яд*), *йон* (пішацца *ён*), *йуш-ка* (пішацца: *юшка*). З гэтага яны падобныя да зычных. (Гукі *ў* і *й* часамі называюць *паўгалоснымі).*

**Б.** *Перапісваючы, падзялі на склады і пастаў націск:*

Клунак за плячамі, кій ў руках хваёвы — валіць чарадамі бедны люд вясковы. Босыя іх ногі, твар іх

загарэлы; кажушок убогі, чуць прыкрыты целы. Ззаду ледзь ступае, хлеб вязе кабыла; нукае, гукае на яе Кірыла... Горача бяз конца, пот на зямлю льецца. Срэбрам адлівае, як люстэрка, Нёман; з ранку ня сьціхае над вадою гоман. Гнецца плытнік ў полі, мерзьне ён у холад; знае ён нядолю, знае ён і голад. Эх, ты, доля, доля! Голад ты, бяднота! Не свая тут воля, не свая аквота!...

## Лекцыя 41.

**А.** 1. Назаві колькі прадметаў, што бачыш у клясе, і напішы іх назовы.

2. З чаго складаюцца вымаўляныя словы, а з чаго напісаныя.

3. Якая розьніца паміж літарамі і гукамі?

**§ 44. Літары і гукі. Азбука.** Гукі мы выгаварываем і чуем, літары пішам і бачым. Літары—гэта пісаныя ці друкаваныя знакі гукаў.

Усе літары мовы, пералічаныя ў сталым парадку, называюцца **азбукай** (інакш альфабэтам або абэцэдай).

У беларускай азбуцы 32 літары у такім парадку: *а, б, в, г, д, е, ё, ж, з, і, й, к, л, м, н, о, п, р, с, т, у, ў, ф, х, ц, ч, ш, ы, ь, э, ю, я.*

4. Скольки літараў і скольки гукаў у такіх словах: дзын, дзе, дзёр, саджу, ваджу?

5. Прачытай напісанае такім спосабам: сьаду, ньэба, льон, льудзі, вьаду, бьэлы, льогка, агньу; йама, твайа, йолка, патаёмна, йушка, грайуць, йон, йана.

Прачытаўшы, напішы, як прынята пісаць: сяду, неба і г. д.

6. Ці літары *я, е, ё, ю* азначаюць гукі зусім розныя ад *а, э, о, у*? Якія гукі чуюцца ў песьні: *Ой ляцелі гусі...* (*ляацеэлі...*).

7. Параўняй на пісьме і ў выгавары такія словы: вуга*л* — вуга*ль*, по*л*ка — **по*ль*ка**, *сь*цэны — *ц*эны і скажы, што азначае мягкі знак.

**§ 45.** Для гукаў *дз* і *дж* няма асобных літараў, а тэму для кожнага ўжываецца па дзьве літары. Але

трэба ведаць, што вымаўляюцца *дз* і *дж*, як адзін гук: *дзень*, а не *д'зень*, *саджу*, а не *сад'жу*.

Літары *я*, *е*, *ё*, *ю* не азначаюць якіх асобных гукаў, зусім розных ад *а*, *э*, *о*, *у*. Калі *я*, *е*, *ё* ці *ю* стаіць посьле зычнага, то зычны вымаўляецца мягка: *сяду* = *сьаду*, *неба* = *ньэба*, *лён* = *льон*, *людзі* = *льудзі*. На пачатку складу *я*, *е*, *ё*, *ю* значыць тое, што *йа*, *йэ*, *йо*, *йу*: *яма* = *йама*, *твая* = *твайа*; *ёлка* = *йолка*; *патаёмны* = *патайомны*; *юшка* = *йушка*; *граюць* = *грайуць*.

Літара *ь* не азначае ніякага гуку, а паказуе толькі мягкасьць зычнага: вуга*ль*, але вуга*л*, кось-кось! але кос і г. д.

Часамі *ь* паказвае, што зычны ня трэба зьліваць з чародным галосным, бо паміж імі чуваць й: *зьявіцца*, *зьесьці* і г. д. (выгаварваецца: *зьйавіцца*, *зьйэсьці*).

Пасьля цьвёрдага зычнага ставіцца ў такім разе знак ' над радком паміж літарамі: *аб'явіць*, *аб'ехаць*, *аб'есьці*, *пад'еду*, *пад'еўшы* і г. д.

**Е.** 1. *Сьпісаць і словы з гукамі дз, дж падчыркнуць:*

Паставілі дзеці сіло. Летась пасаджона, сёлета ўзрашчона. Дзед сядзіць на прызьбе. Па балоце пахаджае бусел. Дожджыку просіць зялёнае жыта. Вецер сярдзіта стукае ў дзьверы.

2. *Перапішы так, як прынята звычайна* (ужываючы *я*, *е*, *ё*, *ю*): Сьольэта год ураджайны. Калі вьадзьэцца, дык і на шчэпку прадзьэцца. Льудзі льубьаць пльоткі. Прыйажджайцьэ да нас у госьці. Благія сусьэдзі часта судзьацца. Йурка зрубаў йолку.

3. Перапішы, ня ўжываючы *я*, *е*, *ё*, *ю* (як пад Б. 2):

У гародзе пасаджана рэпа. Я вам раджу не сварыцца. Дажджавая вада нясмачная. Дзядзіна купіла абаранак. Вецер дажджлівы панура шуміць. Мядзьведзь еў мёд. Люблю я смачную юшку.

# Лекцыя 42.

А. 1. Прачытай і напішы:

Nad honar i sławu, nad čary kachańnia narodnuju sprawu i pierakanańni, što rozum dychtuje, zaŭsiody ja wolu, nia zdradžu nikoli.

Chaj chmara nawiśnie nad sonnaj ziamloju, chaj hora pryciśnie žaleznaj rukoju, — ja rodnaje mowy nia kinu ŭ niadoli, nia zdradžu nikoli.

Chaj hrom z piarunami hrymić i stralaje, małanka ahniami chaj bliskaje, źziaje, — swajho ja narodu, biaz chleba i soli, nia zdradžu nikoli.

2. Ці лацініца розьніцца ад беларускага пісьма кірыліцы толькі формай літараў?

3. Што ў лацініцы ўжываецца заместа мягкага знаку (ь)?

4. Якая лацінская літара адпавядае літары э?

5. Параўняй напісаньні: гэты — hety; рэпа—repa; сена—siena; мера—miera. Ці літара e ў лацініцы значыць тое самое, што ў кірыліцы?

6. Параўняй напісаньні: бяда — biada; дай — daj; яд—jad; аб'ехаць—abjechać; вёў—wioŭ; май—maj; маё—majo; аб'явіць — abjawić; нюх — niuch; байка — bajka; маю—maju; зьюдзіць—źjudzić.

Калі ужываецца ў лацініцы j? Якім спосабам лацініца абходзіцца бяз літар я, ё, ю, э?

**§ 46. Лацініца.** Побач з кірыліцай, хоць радзей, ужываецца ў беларускай мове лацініца.

Вось лацінская **абэцэда:** *a, b, c, ć, č, d, e, f, g, h, i, j, k, l, ł, m, n, ń, o, p, r, s, ś, š, t, u, ŭ, w, y, z, ž, ź.*

Лацінская літара *g* азначае гук, які ў беларускай мове сустракаецца рэдка і ў беларускім пісьме азначаецца літарай г з коскай над ёй з правага боку г'.

Б. 1. *Перапішы лацініцай:*

Асьлова нявуцтва ня раз служыла дурням на паказ; дык вось нарэшце узялі — асла ў навуку аддалі. І сталі ўчыць яго чытаць, вучылі нават і пісаць. Асёл так шчыра ўчыцца ўмеў, што кніжкі ўсе, як сена, зьеў і столькі ў гэтым скарыстаў, што горш убоістым ён стаў!...

Людзям ёсьць тут такі прымер (ёсьць людзі на быдля манер): хоць колькі ні вучы асла, аслом ён будзе да канца!...

2. Якія асаблівасьці лацініцы вы заўважылі: чым яна розьніцца ад кірыліцы?

## Лекцыя 43.

**А.** 1 Зьвярні ўвагу на выгавар пададзеных курсывам зычных:

| | |
|---|---|
| *б*ыць — *б*іць | (być — bić) |
| *в*ыць — *в*іць | (wyć — wić) |
| *з*абіць — *з*ябіць | (zabić — ziabić) |
| *к*ыш! — *к*ішкі | (kyš! — kiški) |
| *л*ог — *л*ёг | (łoh — loh) |
| *м*од — *м*ёд | (mod — miod) |
| *л*апа — *л*япа | (łapa — lapa) |
| *дз*ын! — *дз*ень | (dzyn! — dzień) |
| *н*а-*н*а! — *н*я*н*я | (na-na! — niania) |
| *п*ылі! — *п*ілі | (pyli! — pili) |
| *н*ыць — *н*іць | (nyć — nić) |
| *с*уды — *с*юды | (sudy — siudy) |
| *х*ата — *х*ітры | (chata — chitry) |
| *ц*ап! — *ц*яп! | (cap! — ciap!) |
| *ф*ырр! — *ф*ірма | (fyrr! — firma) |

**§ 47. Цьвёрдыя і мягкія зычныя.** Зычныя могуць вымаўляцца цьвёрда і мягка. Цьвёрдым выгаварам называем такое, што чуваць, напрыклад, у слове: **на-на**! Мягкім называем такое, як у слове: **ня**н**я**.

Зычныя — б, в, г, г', д, дз, дж, ж, з, к, л, м, н, п, р, с, т, ф, х, ц, ч, ш—чуваць цьвёрдымі, напрыклад, у такіх словах: **б**осы, **в**ол, **г**осьць, **г'**анак, **д**оля, ксян**дз**ы, **ж**ыта, ура**дж**ай, **з**орка, **к**ол, **л**ом, **н**ыць, **п**ышны, **р**ысь, **с**ын, **т**ын, **ф**ыркаць, **х**ата, **ц**эп, **ч**ын, **ш**ырокі.

Зычныя чуваць мягка ў такіх разох, напрыклад: *б*іць, *в*іць, *г*інуць, маз*г'*і, *дз*ік, *з*іма, *к*інуць, *л*ёгкі, *м*есца, *Н*ёман, *п*яць, *с*ем, *ф*ігура, *х*ітры, *ц*іха, бі*ц*ь, ко*н*ь, лось, по*л*ька, дзя*дз*ька.

**Б.** 1. *Перапісаўшы, пастаў пункт* (.) *над літарамі, што азначаюць мягкія зыкі*:

Люлі, люлі, люлі! Прыляцелі куры, селі на вароцех у чырвоных боцех, сталі сакатаці. Што курачкам даці: ці жыта карыта, ці ячменю жменю, ці бобу каробу?

2. *Перапісаўшы, пастаўіць націск*:

Ярка на камінку смольны корч палае. Бацька на калодцы лапаць выплятае. Латае халацік на зуслоне матка. У школку заўтра пойдзе іх сынок Ігнатка. Сын васьмёхгадовы корчык падкладае, з бацькавай работы вочак ня спускае. Сьветлая галоўка мысьлямі занята. Многа ўсякіх думак у вачох Ігната. А як сын улёгся, думкі ўзварушыліся, і ўсю ноч Ігнасю школа, кнігі сьніліся.

## Лекцыя 44.

**А.** 1. Што чуваць посьле зычных **р**, **ж**, **дж**. **ш**, **ч** у словах: бура, гавару, рэзаць, сьцярог; жаба, жук, жэўжык, жоўты; часьць, чую, чэсьць, чорны; шабля, шум, шэршань, шосты, дрожджы, дажджы? Напішы на дошчы так, як чуеш!

**§ 48.** *Цьвёрдыя* **р, ж, дж, ш, ч.** У беларускай мове зычныя р, ж, дж, ш, ч бываюць толькі цьвёрдыя. Посьле іх чуваць не *і*, а заўсёды **ы**: *рыба*, *рысунак*, *дажджы*, *нашы* і г. д.

Дзеля гэтага посьле **р, ж, дж, ш** і **ч** ніколі ня пішацца *і*, *я*, *ю*, *е*, *ё*, а толькі **ы, а, у, э, о.** Зразумела, што посьле іх ня пішацца і мягкі знак (ь).

2. Напішы на дошцы такія словы: дзень, цень, плыць, дзядзька, рэдзька.

**§ 49. Дзеканьне і цеканьне.** У беларускай мове няма мягкіх *д* і *т*, а заместа іх мягкія *дз* і *ц*: *дзеці* (а не *деті*), *плыць* (а не *плыть*), *дзядзька* (а не *дядька*).

**Б.** 1. *Сьпісаць і паставіць націск*:

Шыла ў мяшку не схаваеш. Ажывае ярына. Расталі ў небе кучы хмар. На мяжы расьце бяроза. Поўнач пеўні пракрычалі. Гасьне корчык на камінку.

Папсавала гразь дарогу. Цяжка стала жыць. Малы жук, а вялікі гук. Чыжык, чыжык, дзе ты быў? Палажы дрожджы на паліцы. Рэчкі цякуць у мора. Жэўжыкі абарвалі грушы. Дробны дождж сячэ ў вакно. Ляцелі шэрыя гусі. Цэп любіць галоднага, а каса сытага. Па беленькай жэрдачцы чырвоны певень едзе (лучына з агнём). Зьбіліся ў кружочак. Неба пакрылася чорнаю хмарай.

## Лекцыя 45.

А. 1. Палажыўшы далонь на цемя, выгаварывайце выразна, працяжна: с—з; ш—ж; ц—дз; ч—дж. Ці не заўважыце якой розьніцы?

2. Прыстаўце паказальны палец да горла там, дзе пад барадой нашчупваецца, а ў некаторых мужчын і выразна відаць, быццам гузачок (г. зв. „адамавы яблык“). Нашчупаўшы гэты гузачок і трымаючы на ім канец пальца, выгаварвайце выразна зыкі*): б—п; в—ф; д—т; г—х; з—с; ж—ш; дз—ц; дж—ч.

Якая розьніца паміж першымі і другімі ў кожнай пары?

**§ 50. Дрыжэньне галасавых струнаў.** Калі выгаварваем такія зыкі, як *з*, *ж*, *дз*, *дж*, *б*, *в*, *д*, *г*, *г'*, то вычуваем дрыжэньне галавы і гартані. Галава і гартань дрыжаць ад дрыжэньня **галасавых струнаў** (галасавых вязяў).

Галасавыя вязі — гэта два мускулы ў гартані, каторыя, як двое вуснаў, размыкаюцца, змыкаюцца або зусім замыкаюць гартань. Замыкаючыся, яны нацягваюцца падобна да струнаў.

Калі яны разамкнуты і не нацягнуты, то паветра, праходзячы з лёгкіх, не прыводзіць іх у дрыжэньне, і мы чуем **глухія зыкі:** *п*, *ф*, *х*, *к*, *с*, *ш*, *ц*, *ч* (бач рыс. 1).

Каліж галасавыя вязі змыкаюцца і нацягнуцца, як струны (бач рыс. 2), то паветра, ідучы з лёг-

---

*) Не назовы зыкаў бэ, дэ, пэ, тэ, але толькі б' д' п' т' і г. д. (без галосных).

кіх, прыводзіць іх у дрыжэньне, вытварае **голас.** Гэтае дрыжэньне передаецца ўсей гартані і ўсей галаве.

Пры дрыжэньні галасавых струнаў мы чуем звонкія зыкі: б, в, г, г', з, ж, дз, дж, л, р, м, н.

Сам назоў паказвае, што ўсе галосныя выгаварваюцца з голасам, гэта значыць, з дрыжэньнем галасавых струн.



Рыс. 1. Гартань адкрытая і „галасавыя струны“ (вязі) не нацягнутыя пры выгавары глухіх зычных.



Рыс. 2. Гартань закрытая і „галасавыя струны“ нацягнутыя пры выгавары звонкіх зычных і галосных.

**§ 51. Звонкія і глухія зычныя.** Зычныя могуць выгаварваца *звонка* (з голасам) і *глуха* (бяз голасу), прычым звонкаму адпавядае глухі:

| | | |
|---|---|---|
| б | п | (бабы — папы) |
| в | ф | (вон — фон) |
| д | т | (дам — там) |
| г' | к | (мазг'і — маскі) |
| г | х | (гам — хам) |
| з | с | (заву — саву) |
| ж | ш | (жаль — шаль) |
| дз | ц | (дзень — цень) |
| дж | ч | (хаджу — хачу) |

**л, р, м, н** ня маюць адпаведных глухіх.

Б. 1. *Сьпісаць, паставіць націск і падчыркнуць звонкія зычныя рыскай:*

Пусты ўлетку нашы сёлы: ўсе на полі за сярпом, толькі дзетак крык вясёлы льецца ў вуліцах руччом. Вецер кудры іх цалуе, мые дождж іх бледны твар; з імі сонейка жартуе і цяпло ім шле, як дар. Сьвішчуць птушкі над балотам. Над балотам стогнуць кнігі. Жураўлі ў гары крычаць. Папсавала грязь дарогу. Перавалы загулі. Гусі дзікія крычаць.

2. Заместа пытальніка пастаў адпаведны глухі зычны: з—?; г—?; дз—?; г'—?; б—?; дж—?; ж—?; д—?; в—?.

3. Ці зьвініць ненацягнутая струна на скрыпцы, на гітары? Ці дрыжыць скрынка музыкальнага інструмэнту, калі струны зайграюць? Параўняй людзкі голас з голасам розных інструмэнтаў.

## Лекцыя 46.

А. 1. Прачытай такія словы: боб, лёд, дзядзька, грязь, лёгка, дождж. Напішы на дошцы так, як чуеш.

2. Напішы так, як чуваць: касьба, просьба, барадзьба, малацьба.

§ 52. **Звонкія зычныя перад глухімі і на канцы слова** страцілі звонкасьць і выгаварваюцца глуха:

| *пішацца:* | выгаварваецца: |
|---|---|
| рэдка | рэ*т*ка |
| ножка | но*ш*ка |
| гразка | гра*с*ка |
| абхапіць | а*п*хапіць |
| боб | бо*п* |
| лёд | лё*т* |
| дождж | до*шч* |

і г. д.

Наадварот: **глухія перад звонкімі** выгаварваюцца звонка:

| *пішацца:* | выгаварваецца: |
|---|---|
| касьба | ка*зь*ба |
| малацьба | мала*дзь*ба |

і г. д.

УВАГА. Каб пазнаць, якую пісаць літару, трэба слова зьмяніць так, каб пасьля зычнага стаяў галосны: плод—плады, плот—платы, грязь—грязі, малацьба—малаціць, дзядзька—дзядзенька і г. д.

3. Зьмяні словы паводле ўзору: *дуб—дубы, луг—лугі*... (каб выясьніць, які зычны—звонкі ці глухі):

слуп —, воз —, мароз —, нож —, сторож —, горад —, зуб —, рог —, мох —, бераг —, сноп —, шуб — шуба, каробка —, бабка —;

просьба — прасіць; касьба —, малацьба —, гарадзьба —, прысба —, кветка —, дзетка —, дзедка —, мазг'і—.

Б. *Падчыркні тыя зычныя, што інакш выгаварваюцца, як напісана:*

Адзін хлеб прыедліў. Абяцаная шапка на вушы ня лезе. Цэп вісіць у гумне. У гародзе расьце боб. Кот памарозіў лапкі. Жыта было ў лубцы. На слупку сядзела птушка. Конь мае жолаб. І за шчэпку знойдзеш прычэпку. У каго ёсьць матка, у таго галоўка гладка. Адвага або мёд п'е, або кайданы трэ. Бывала горш, але рэдка. Астаткі з хаткі. Насталі новыя парадкі. Іду па кладцы. Адклад ня йдзе ў лад. Град пабіў жыта. Папаў, як у нерат: ні ўзад, ні ўперад. Голад—ня цётка. Па дарожцы кацілася цялежка. Мы йшлі сьцежкаю. Свая сярмяжка нікому ня цяжка. Котка злавіла мышку. Лёгка стала на сэрцы. Блізка відаць, ды далёка дыбаць. Бегала ліска каля лесу блізка. Ежце да ў вочы ня лезьце! Сабаку прывязалі на ланцуг. Мядзьведзь любіць мёд. Вам незнаёма нядоля людзкая. У Слуцку ўсё палюдзку. Будзь перш выслухачым, а посьле павядачым. Лабудзь — рэдкая птушка. Ідзе наш дзядзька і па бруку адзін за дзесяць робіць груку.

## Лекцыя 47.

А. 1. Прачытай і, перапісваючы, замест крыжыкаў пастаў *з, с, ц, дз* або *зь, сь, ць, дзь* (калі чуваць мягкасьць):

Купец зарабіў ╳весьце рублёў. Маці ╳хінулася над дзіцянём. ╳кінь гэтае рызьзё. Упрочкі ╳бірайся, а жыта сей. Пустой птушкі пустыя і пе╳ні. Ні ╳цяты, ні павешаны. Узімку ╳вяры хаваюцца ў норы. ╳ліна бывае зара╳лівая. Ня рыпайце ╳вярыма. Шкло якоесь ╳мянае. Яблыні ╳вітуць белым ╳ветам.

§ 53. Перад мягкімі зычнымі **з, с, ц, дз зьмягчаюцца:** зьняць, сьляза, цьвіцець, дзьве і г. д. Толькі перад *г, к, х* яны не зьмяняюцца: згінуць, схіліць, скінуць і г. д.

Б. 1. *Сьпісаць, паставіць націскі і падчыркнуць зьмягчоныя зь, сь, дзь, ць:*

Адвага не зьнявага. Адна махнуша не гарыць, а цьмее. Ад напасьці не прапасьці. Ад цяплосьці не баляць косьці. Ёсьць і дзьвесьце, да не ў адным месьце. Жаль згіне, як мара. Стары дзед сядзіць на прысьбе. Паспорылі за мех, а ў мяху сьмех. Ні сьцяты, ні павешаны. Нясьмела, як убогі, вецер у дзьверы стукне. Распусьціўся, як старэцкая пуга.

2. *Сьпісваючы, выкінуць дужкі і непатрэбную літару:*

Хле(п,б) на стале, а рукі свае. У калысцы адарвалася поча(п,б)ка. У хола(т,д) кожны мола(т,д). У каваля ця(ш,ж)кі мола(т,д). Важы(ш,ж) на ры(п,б)ку, ва(ш,ж) і на ю(ш,ж)ку. Ты мо(х,г) дзерці мо(х,г). Ме(ц,дз)ь капаюць у горах. Ся(ц,дз)ьма на калодзе, пагаворым аб прыгодзе. Адкуль хмары, адтуль і до(шч,ждж).

## Лекцыя 48.

А. Прачытай, пастаў націск і зьвярні ўвагу на курсыў і на тоўсты шрыфт:

Стол — с*та*лы, **вол** — в*а*лы, **двор** — дв*а*ры, **голуб** — г*а*лубы; **цэп** — ц*а*пы, **чэрап** — ч*а*рапы; **рэкі** — р*а*ка, **стрэхі** — стр*а*ха, **сёлы** — с*я*ло; **сёстры** — с*я*стра, **ёрмы** — *я*рмо, **нёс** — н*я*су; **вербы** — в*я*рба, **землі** — з*я*мля, **сьцены** — сьц*я*на і г. д.

2. Ці ў прыведзеных прыкладах спатыкаецца **о** або **э** не пад націскам?

**§ 54. Аканьне** (*яканьне*). Гукі **о** (**ё**), **э** (**е**) у беларускай мове чуваць ясна толькі пад націскам: **до**бры, **цё**плы, **цэп**, **лес**... Калі-ж склад не пад націскам, то замест **о** (**ё**), **э** (**е**) чуваць **а** (**я**): д*а*бро, ця*п*ло, л*я*сы. Напішы лацініцай: *dobry — dabro, ciopły — ciapło, cep — capy, les — lasy.*

Такая замена або чарадаваньне галосных залежна ад націску называецца **аканьнем.**

Дзеля пісьма трэба ведаць два асноўныя правілы:

I. **Літары о, е, э пішуцца толькі пад націскам,** напрыклад: **дом, вёрсты, цэп** (але д*а*мы, в*я*рста, ц*а*пы).

II. **Літара е ніколі ня пішацца у складзе перад самым націскам,** напрыклад: б*я*да, дз*я*жа, в*я*ду, з*я*лёны, н*я*ма, н*я*хай, н*я* буду, б*я*з духу, б*я*з вас і г. д. (а не беда, дзежа, нема, зелёны, не буду, без вас...).

У далейшых складох можа пісацца е, калі наступны склад мае *а* або *я*, напр: вер*а*бей, цец*я*рук' лес*а*вік, вер*а*цяно, пер*а*мяніць, без*а*дказны, не зн*а*йшла, не м*а*гу, не х*а*чу, без м*я*не і г. д.

У складох **посьле націску** літара е пішацца даволі часта, напрыклад: лец*е*йка, сін*е*нькі, вучыц*е*ль, вос*е*нь, воз*е*ра, то*е* пол*е*, сіня*е* неба, у садз*е*, у хац*е*, дума*е*ш, будз*е*, дума*е*.

**УВАГА.** Калі пішацца е не пад націскам, вылажана падрабязна у „Другім коле": Правапіс, §§ 73 і 74.

**Б.** *Перапісаць, паставіць націск і падчыркнуць* **е** *не пад націскам:*

Няпрыветна цераз вокны ночка пазірае. Ціха ў хаце: ўся сямейка сьпіць ды спачывае, натрудзіўшы добра рукі, натаміўшы плечы. Толькі матка з верацёнцам прытулілась к печы і прадзе, прадзе кудзельку. Скача вераценца, а за ёй густыя цені бегаюць па сьценцы. На камінку корч пылае, злотам іскры скачуць. За ваконцам вецер ходзіць, глуха вербы плачуць. Зябнуць вербы на марозе, прытуліўшысь к стрэсе: сьнегам вецер сыпе ў дзьверы, ходзіць шум па лесе. І пад гэты шум трывожны думае старая, а ў сьлед думкам неспакойна вецер падпявае.

Вучыся, нябожа, вучэньне паможа змагацца з нядоляй, з няволяй. Што мучыць сягоньня, што думкі трывожа, — зьбяжыць і ня прыйдзе ніколі.

Жаль згіне, як мара; ня будзеш няздарай, нідзе і ні ў чым не заблудзіш; ты праўду ў няпраўдзе, як сонца між хмараў, спазнаеш, як цёмны ня будзеш. Такая прынука, як праца й навука, ці-ж можа нам сіл недадаці? З такімі сябрамі, знай, будзе ня штука і гора сваё зваяваці.

Навука дае чалавеку розум. Чужым розумам век не пяражывеш. Ваўка ногі кормяць.

УВАГА. Не і без лічацца складамі таго слова, перад якім стаяць.

## Лекцыя 49.

**А.** 1. Ці словы **не** і **без** маюць свой націск?

2. Калі пішацца *не* і *без*, а калі *ня*, *бяз*? (Выбяры прыклады з папярэдняй лекцыі).

**§ 55.** Словы **не** і **без** ня маюць свайго націску і лічацца складамі таго слова, перад якім стаяць. Дзеля гэтага часам пішацца *не*, *без*, часам *ня*, *бяз*, гледзячы на тое, у якім складзе перад націскам яны стаяць: **не** *хачу*, **не** *магу*, **не** *знайшоў*; **ня буду**, **ня** *ведаю*, **ня** *шуміць*; **без** *вады*, **бяз** *хлеба*.

**Цераз**, **перад** і **пера**—нязьменна пішуцца з літарай е: цераз мост, перад намі, перавоз, перавярнуць.

Словы **дзеля** і **каля** пішуцца нязьменна з літарай **я** на канцы : *каля млыну*, *каля броду*, *каля мяне*, *каля вады*; *дзеля гэтага*, *дзеля таго*.

**Б.** Перапісаўшы, пастаў націск і падчыркні **не** і **ня**, **без** і **бяз**, высьняючы сабе, чаму пішацца так, а ня йначай:

Ад прыбытку галава не баліць. Ня слухаеш ківа, паслухаеш кія. Без правадыра войска гіне. Будзе кій, да не такі. Няма тае хаткі, каб ня было звадкі. Без ахвоты няма работы. Ня так шкода, як нявыгода. Абяцаная шапка на вушы ня лезе. Адзін другога не пераважыць. Цераз сілу і конь не пацягне. Тады хіба пaverастане, як уся сарока бела стане. Дзіця перапалохалася ды захварэла з перепалоху. Без падпалы дровы не гараць. Бяз штукі ня ступіць. Каля плоту расьце крапіва. Перад невадам рыбы ня ловяць. Няпрыветна цераз вокны ночка пазірае.

## Лекцыя 50.

**А.** 1. Ці можна ад такіх словаў адарваць **не** (ня): *нябожчык*, *небарака*, *немач*, *недасол*, *нягода*?

2. Як зьменіцца значэньне слова, калі адкінем **не** (ня): *непагода, недастатак, няўпраўка, нягода, няшчасьце, невялікі, нягодны, непрыяцель?*

3. Якія ведаеце прыметнікі і прыслоўі з **не?** (*некаторы..., недзе...*).

4. Як пішацца **не** з дзеясловам?

5. Зьвярні ўвагу на **не** ў такіх сказах: *Ен чалавек не разумны, а хітры. Багацьце ня шчасьце, а нешта іншае. Багацьце бывае няшчасьце.*

**§ 56. Адмоўнае прыслоўе не (ня)** пішацца асобна або разам.

**Не (ня)** пішацца **разам**:

1) з тымі словамі, што без яго ня ўжываюцца: *нябожчык, небарака, немач, недасол, нягода* і г. д.

2) калі, аддзяліўшы **не (ня)**, атрымаем слова супраціўнага значэньня: *няшчасьце — шчасьце, непрыяцель — прыяцель, няпраўда — праўда, невялікі — вялікі* і г. д.

3) з некаторымі займеньнікамі (неазначальнымі) і прыслоўямі: *некаторы, няякі, некага, нечага, нехта, нешта, нечы(й), неякісь; некалі, недзе, некуды, неадкуль*, — прычым на **не** прыходзіцца націск.

**Не (ня)** пішацца **асобна**:

1) пры дзеясловах (за выключэньнем—*недамагаць, ненавідзець, няволіць, няможацца*): *не пайду, не магу, ня можа* і г. д.

2) калі за сказам з адмоўнасьцю **не** стаіць (або можна паставіць) сказ супярэчны, які гэтую адмоўнасьць паясьняе: **не такі, а такі..., ня то, а то** і г.д. Напрыклад: *Вясна не мясна, а малочна. Восень не малочна, а мясна;*

3) калі пасьле адмоўнасьці можна сказаць **ёсьць:** *Ня дзіва* (ня ёсьць дзіва), што малако сіва.

**Б.** *Перапісаўшы, выясьніць, чаму* **не (ня)** *напісана разам або асобна:*

Не векавое, а ракавое. Крыўдзіцель перамагае няпраўдаю, а крыўдаю і сілай. Няпраўдаю сьвет прой-

дзеш, але назад ня вернешся. Пісаў пісака, што не разьбярэ небарака. З незабітага ліса шубы ня шыюць. Памсьціцца не забіты, а жывы. Калі нярод, дык і неўмалот. Ня дзіва, што малако чорна, а карова сіва. Што сабе ня міла, то й другому ня зыч. Чоран воран, да ня птух; хоць з крыльлямі, да ня сокал; шэсьць ног мае, зямлю капае (жук). Дзед нешта пачаў недамагаць. Нявесела выглядае надвор'е ўвосень. Мой брат здольны, але не старанны. Вясна не мясна, а восень не малочна. Грозен, да ня боязен. І мала, і няўдала. Гулі не аднаго ў лацпі абулі (*а многіх*). Лецейка ня ўлежна, дык уежна. На табе, нябожа, што мне ня гожа. Нябітаму няма чаго плакаць. Бела мыецца, ды ня чыста ходзіць. Нудна й няпрытульна навакола.

---

## Лекцыя 1.

А. 1. Выдзялі супольную часьць з розных формаў таго самага слова:

баран, барана, барану, бараном, баране; бараны, бараноў, бараном і г. д.
ведаю, ведаеш, ведае, ведаем, ведаеце, ведаюць; ведаў, ведай, ведаць;
настольнік, настольніка і г. д.;
паліваць, паліваю, паліваеш і г. д.
добры, добрая, добрае; добрага, добрай і г. д.

§ 1. **Канчатак.** Тая часьць слова, што стаіць у канцы і зьмяняецца пры скланеньні і спражэньні, называецца **канчаткам**, напр.: баран-**а**, баран-**у**, баран-**ом**, веда-**ю**, веда-**еш**, паліва-**ў**, паліва-**ла**; добр-**ы**, добр-**ая**, добр-**ае** і г. д.

§ 2. **Аснова.** Адкінуўшы канчатак, дастанем **аснову**, напр.: **баран**-а, **веда**-ю, **паліва**-ў, **добр**-ы і г.д.

§ 3*. **Зьмены у аснове**. Аснова слова звычайна не зьмяняецца. Але часам залежна ад розных прычынаў бываюць розныя зьмены і ў аснове.

У залежнасьці ад зьмены націску можа выступаць аканьне, напрыклад: *воз*, *ваз*-а і г. д.; *вад*-а, *вод*-ы; *бяд*-а, бед-ы.

Перад *е* і *і* могуць чарадавацца *д* і *дз*, *т* і *ц* (дзеканьне і цеканьне): ва*д*-а, ва*дз*-е; ха*т*-а, ха*ц*-е; і*д*-у, і*дз*-еш.

У скланеньні ў давальным і месным склоне могуць чарадавацца *х* і *с*, *к* і *ц*, *г* і *з*: са*х*-а, са*с*-е; ру*к*-а, ру*ц*-э; лу*г*, лу*з*-е і г. д.

У прадметніках часта бывае такое чарадаваньне, як: куп*е*ц, купц-а, дур*а*нь, дурн-я; д*з*ень, дн-я, дз*ё*н і інш.

У спражэньні чарадуюцца *дз* і *дж*: гля*дж*-у, гляд*з*-іш і г. д.

УВАГА. Такóе ўпрошчанае, мэханічнае аддзяленьне канчатку посьле мягкіх зычных, як толькі што зроблена — вадз-е, хац-е, сас-е, луз-е, дурн-я, дн-я, — ня зусім правільнае. Точна было-б так: вадзь-э, сась-э, лузь-э, хаць-э, дурнь-а, днь-а. Тое самае лягчэй выражаецца лацініцай: *wadź-e, saś-e, łuź-e, cḫać-e, durń-a, dń-a* (хоць прынята пісаць: *wadzie, sasie, łuzie, cḫacie, dnia...)*

Б. ***Перапісваючы, аддзялі рыскай аснову ад канчатку*** (аснов-у, чыст-ым...):

Стол заслалі чыстым настольнікам. Сусед трымае сталаўніка. На вясельлі сьпяваюць вясельныя песьні, а ў жніво пяюць жніўныя. Кожная хата мае стол. Стаяр купіў сталярскі варстат. Палотны беляць, а выбяліўшы шыюць палаценную бялізну. Сьцены пабелены вапнай. Лясьнік пілнуе лесу. Белага зайца называюць беляком, а шэрага шараком. Чорны воран, да ня птух; хоць з крыльлямі, да ня сокал; шэсьць ног мае, зямлю капае (жук). Сыты галоднаму не спагадае.

## Лекцыя 2.

**А.** 1. Заўваж такія групы слоў:

| | | | |
|---|---|---|---|
| а) рук-а | б) горад | в) бр-аць | г) др-аць |
| рук-аво | а-гарод | бяр-у | дзяр-у |
| руч-нік | гарадз-іць | зь-бір-аю | зь-дзір-аць |
| спад-руч-ны | загарад-ка | з-бор | з-дор |
| з-руч-ны | гарадж-эньне | бор | пры-дзір-ка |
| по-руч | гарадз-кі | вы-бар | дзір-ка |
| руч-ка | вы-гарадз-іць | бяр-эма | і г. д. |

У кожнай групе прачытай часьці, што маюць зблізканае між сабой значэньне!

**§ 4. Корань слова.** У групе *а*) бачым падобныя па значэньні часьці: *рук- руч-*; у групе *б*) — *го-*

*рад-*, *гарод*, *гарадзь*, *гарадж-*, у групе *е)*—*бр-*, *бяр-*, *бір-*, *бор-*, *бар-*; у групе *г)* — *др-*, *дзяр-*, *дзір-*, *дор-* і г. д.

З гэтымі часьцямі зьвязана галоўнае значэньне слова. Іх нельга далей разлажыць, бо яны страцілі-б зусім сваё значэньне. Ад іх творацца зродныя між сабою словы: рук-а, рук-аво, руч-ка, руч-нік і г. д.

Такія часьці называюцца корнямі слова. Значыць:

**Корань слова** *гэта такая непадзельная часьць слова, ад якой творацца родныя між сабою словы.* Падобныя корні, як *рук-*, *руч-*; бр-, бяр-, бір-, бор-, і г. д., называюцца *зроднымі*, або *побачнымі* (стаяць *побач*).

Корань можа быць часам асобным словам сам па сабе, напрыклад: *стол*, *лес*, *дом*, *бор*. Але ў такіх разох, як *стал-а*, *лес-у*, *бяр-у*, *бяр-эш*, маем *корань* + *канчатак*.

**Б.** *Перапісваючы*, *рыскамі выдзяліць корань* (воз-ік, з-ваз-іць...):

Воз, вязу, везьці, перавозьнік, прывёзшы, вязучы. Дом, домік, дамок. Плод, прыплод, спладзіць. Нос, перанос, вынас, вынясьці, ноша, нясу, нясьці і несьці. Воўк, ваўчок, воўчы, ваўчанё. Сяло, сельскі, селянін, прысёлак. Бяда, бедны, бедната, бядняк, бядота. Ніз, нізкі, паніжаць. Месца, месны, намесьнік, сумесны, зьмест, заместа, месьціцца, места, мешчанін. Дзіця, дзіцянё, дзеці, дзетка.

## Лекцыя 3.

**А.** 1. У пададзеных словах выдзялі устаўку паміж корнем і канчаткам:

| | | | |
|---|---|---|---|
| стол-*ік* | стал-*іц*-а | стал-*іч*-н-ы | столь-*н*-*іц*-а |
| стол-*ік*-а | стал-*іц*-ы | стал-*іч*-н-ая | столь-*н*-*іц*-ы |
| стол-*ік*-у | стал-*іц*-ы | стал-*іч*-н-ае | столь-*н*-*ік* |
| і г. д. | і г. д. | і г. д. | і падобн. |

**§ 5. Устаўка** (або **суфікс**). Тая нязьменная часьць слова, што стаіць паміж корнем і канчаткам, называецца **устаўкай**, напрыклад: воль-*н*-ы, гаспад-*ар*-а, ляс-*ун*-а, ляс-*н*-ы, лясь-*н*-*іч*-ы, балот-*н*-ы.

Як бачым, побач можа стаяць колькі ўставак: гаспад-*ар-оч-к-а*, стал-*іч-н*-ы, акал-*іч-н-асьц*-і...

У слове *гаспадар* маем: корань + устаўка (канчатак = 0*).

У слове *гаспадара* маем: корань і устаўку + канчатак.

2. У пададзеных словах выдзяліць часьць, што *перад корнем:* на-стаўнік, па-ставіць, за-гадка, за-гад, уз-рост, усь-цягнуць, пера-ход, а-сьця-рожны, ад-біць, па-маленьку, наў-цекі.

§ 6. **Прыстаўка** (або **прэфікс**). Тая часьць слова, што стаіць перад корнем, называецца прыстаўкай, напр.: *на*-лог, *на*-стаўнік, *на*-стольнік, *вы*-бары, *пярэ*-бары, *па-раз*-носіць, *су*-сед, *па-з-на*-ходзіць і г. д.

Як бачым, слова можа мець па дзьве і болей прыставак.

§ 7. Тое, што ведаем аб падзеле слова, можна прадставіць гэтак:

слова = прыстаўка + корань + устаўка + канчатак

*інакш:*

слова = аснова + канчатак

*з чаго відаць, што:*

аснова = прыстаўка + корань + устаўка.

3. Сколькі корняў маюць такія словы: мяцеліца, панядзелак; сенакос, старадаўны?

§ 8. Большасьць слоў мае адзін корань, але бываюць такія, што маюць па два, напр.: сен-а-жаць, агн-я-цьвет, сен-а-кос, нач-лег, Бел-а-русь, Вялік-дзень, поў-нач, прав-а-піс і г. д.

**Б.** 1. Сьпісаць і разьдзяліць словы рыскамі на прыстаўку, корань і канчатак, аснову-ж падчыркнуць, напрыклад: *па-дарож-н*-ы, *мяц-ел-іц*-а (падчыркнуць *па-дарож-н-*, *мяц-ел-іц-*):

---

*) Канчатак раўняецца нулю: „канчаткам“ зьяўляецца адсутнасьць канчатку — гэтая адсутнасьць вычуваецца, як азнака, у дадзеным разе, назоўнага склону адз. л.

Дарога, дарожны, падарожны, прыход, захад, ухо-даўся, загадаць, загадка, загадчык, прывет, прывітаць, няпрыветны, сьцяна, сьценка, сьценны, прысьценак, пісьмо, пісулька, напісаць, пісьменства, вясна, веснавы, прадвесьне, увесну, лета, ўлетку, летась, леташні, па-залеташні, лецейка, жаць, жніво, жняя, дажынкі.

## Лекцыя 4.

**А.** Успомніце, якія дагэтуль вы спатыкалі устаўкі і якое значэньне прыдавалі вы корню.

**§ 9.** Вось некаторыя устаўкі прадметнікаў, прыметнікаў і дзеясловаў:

I. *Устаўкі прадметнікаў:*

**ар**, **ец**, **ік** (**ык**), **ок**, **цель**, **ыр**, **ун** і інш. азначаюць нешта ажыўленае, дзейнае: гаспад-ар, стал-яр, знах-ар; куп-ец, хлап-ец; лясьн-ік, муж-ык, язд-ок, вучы-цель, багат-ыр, скак-ун і г. д.

**іч**, **овіч**, **евіч** і інш. азначаюць патомкаў і фаміліі: Марцінкевіч, Міцкевіч, Смоліч, Багдановіч.

**ць**, **асьць**, **ін**(**я**), **ын**(**я**) і інш. азначаюць словы разумовыя жан. р. — памя-ць, люб-асьць, веліч-ыня, глыб-іня і г. д.

**л**(а), **ішч**(а), **ышч**(а), **ств**(о) і інш. для азначэньня „неажыўленых" прадметнікаў ніякога роду: мы-ла, шы-л-а, вогн-ішч-а, пажар-ышч-а, хара-ств-о і г. д.

Некаторыя устаўкі прыдаюць слову павялічальнае або памяншальнае значэньне (*павялічальныя* і *памяншальныя* устаўкі): лап-ішч-а, лап-ка.

Іншыя устаўкі прыдаюць ласкавае значэньне: лап-ач-к-а, сястр-ыц-а, брат-к-а, брац-ей-к-а, лец-ей-к-а і інш.

II *Устаўкі прыметнікаў:*

**к**, **ок**, **р**, **л**, **н**, **ав**, **ів**, **ат**, **іст**, **ав-ат**, **ань-к**, **ень-к**, **ан**(**ян**), **ов**, **ск** і інш. — лёг-к-і, глыб-ок-і, шчод-р-ы, вет-л-ы, вер-н-ы, ласк-ав-ы, міласьц-ів-ы, зуб-ат-ы,

бел-ав-ат-ы, зярн-іст-ы, арган-іст-ы, доб-р-ань-к-і, дараг-ень-к-і, мядз-ян-ы, ял-ов-ы, гаспад-ар-ск-і і г. д.

III. *Устаўкі дзеясловныя:*

**ну—н** — цяг-ну-ць, цяг-н-еш;

**і—е** — хвал-і-ць, сядз-е-ць;

**а—я** — бр-а-ць, се-я-ць;

**ава—у** — баран-ава-ць, баран-у-ю; гандл-ява-ць, гандлюю.

УВАГА. Як *баранаваць—барануюю* ужываецца дужа часта *расказываць* — **расказую**, *перапісываць* — **перапісую** і г. д. заместа перапісываю або перапісваю, расказываю або расказваю.

Б. *Выдзялі рыскамі ўстаўкі, зварочваючы ўвагу на іхнае значэньне:*

Сякач, дзеяч, сілач, барадач, зямляк, кулак, мінчук, селянін, мешчанін, грамадзянін, сталяр, млынар, крыўдзіцель, вярыцель, немец, украінец, чужаземец, кравец, лавец, паніч, шляхціч, Крывічы, Ляхавічы, ахвотнік, насьледнік, слоўнік, камянічнік, месячнік, агароднік, перавозьнік, вартаўнік, клічнік, пытальнік, агітатар, арганізатар, машыніст(ы), соцыяліст(ы), арганісты, лібэралізм, романтызм, саміца, ільвіца, бязбожніца, распусьніца, званіца, кніжніца, Галубянка, цяляціна, дубіна, бярэзіна, пісаніна, цяганіна, жабраніна, абставіны, заручыны, пераносіны, будоўля, дарагоўля, бялізна, паншчына, дарэмшчына, немка, кітаянка, прачка, гаспадарка, пякарня, паперня, вазоўня, злосьць, роўнасьць, дурнота, сьляпота, гаспадыня, ахмістрыня, фізыка, матэмат-ыка, лёг-іка, алавяны, драўляны, рагаты, барадаты, васпаваты, вялічэзны, даўжэзны, чарнявы, плячысты, пясчысты, цікаўны, спраўны, цікавы, саромлівы.

## Лекцыя 5.

А. 1. Сколькі часьцінаў мовы і як называюцца? Якія з іх зьменныя, якія не?

2. Што такое прадмет?

3. Што такое прадметнік або імя прадметнае?

**§ 10.** Зьменная часьціна мовы, што азначае імя або назоў прадмету, называецца **імя прадметнае** або **прадметнік**.

Прадметам называем ня толькі прадмет нашых знадворных пачуцьцяў, але і прадмет увагі нашага розуму. Пад знадворныя пачуцьці (зрок, слух і г. д.) падпадаюць, напрыклад, такія прадметы: глыбокая вада, салодкі цукар, але *глыбіня, салодкасьць, дабрата, харастро* і г. д. гэта толькі прадметы нашага розуму. *Вада, цукар*—прадметнікі *пачуцьцёвыя*; *глыбіня, салодкасьць, дабрата, харастро*—прадметнікі *разумовыя*.

4. Што такое скланеньне? Сколькі склонаў і якія? Сколькі лікаў і якія?

**§ 11.** Апрача ліку адзіночнага і множнага ў беларускай мове часамі бывае **парны лік**: дзьве назе, дзьве руцэ, дзьве сасе і г. д. Але заўсёды: два сталы, два браты і г. д., а не два брата, два стала (водле старога парнага ліку, як па расейску).

**§ 12.** Некаторыя прадметнікі ўжываюцца **толькі** ў адзіночным ліку: жывёла, гародніна, садовіна, малако, хараство і інш.

Некаторыя — **толькі** у множным: сані, сені, дрыжыкі і шмат іншых.

**§ 13.** Кожны прадметнік належа да аднаго з **трох радоў**: *мужчынскага, жаноцкага* або *ніякога*. Калі на якую рэч можна казаць **ён**, то гэта мужч. р.: *брат, стол, вымысел* і г. д.; калі можна казаць **яна**, то гэта жаноцкі род: сястра, бяда, радасьць і г. д.; калі можна казаць **яно**, то гэта ніякі род: дзіця, вакно, дабро і г. д.

Некаторыя прадметнікі належаць да **агульнага роду**, калі могуць азначаць і мужчынскі і жаноцкі род: сірата, калека, п'яніца і інш.

**Б.** 1. Напішы, якія ведаеш прадметнікі, што ўжываюцца толькі ў адзіночным або толькі ў множным ліку.

2. Напішы прыклады на прадметнікі мужчынскага, жаноцкага, ніякога і агульнага роду.

3. Паўтарыць з першага кола ўсё аб прадметніку.

## Лекцыя 6.

A. 1. Прасклaняй *стол, дождж, хвалько* і, напісаўшы на дошцы, аддзялі рыскай канчатак ад асновы (стал-а, стал-у і г. д.).

### УЗОРЫ СКЛАНЕНЬНЯ.

*I. Мужчынскі род.*

**§ 14. Цьвёрды зычны перад канчаткам,** напрыклад: вол, пясок, дождж, канец, хвалько; брат народ, страх.

| | *адзіночны лік* | | *множны лік* | |
|---|---|---|---|---|
| Назоўны | 1) вол | 2) стол | вал-*ы* | стал-ы |
| Родны | вал-*а* | стал-а | вал-*оў* | стал-оў |
| Давальны | вал-*у* | стал-у | вал-*ом* | стал-ом |
| Вінавальны | вал-*а* | стол | вал-*оў* | стал-ы |
| Творны | вал-*ом* | стал-ом | вал-*амі* | стал-амі |
| Месны | вал-е | стал-е | вал-*ох* | стал-ох |
| Клічны | бач ніжэй § 17, IV. | | | |

*Другія прыклады:*

*адзіночны лік.*

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Н. | 3) пясок | 4) дождж | 5) канец | 6) хвальк-о |
| Р. | пяск-у | даждж-у | канц-а | хвальк-а |
| Д. | пяск-у | даждж-у | канц-у | хвальк-у |
| В. | | *як назоўны* | | *як родны* |
| Т. | пяском | даждж-ом | канц-ом | хвальк-ом |
| М. | пяску | даждж-ы | канц-ы | хвальк-у |

*множны лік.*

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Н. | пяск-і | даждж-ы | канц-ы | хвальк-і |
| Р. | пяск-оў | даждж-оў | канц-оў | хвальк-оў |
| Д. | пяск-ом | даждж-ом | канц-ом | хвальк-ом |
| В. | | *як назоўны* | | *як родны* |
| Т. | пяск-амі | даждж-амі | канц-амі | хвальк-амі |
| М. | пяск-ох | даждж-ох | канц-ох | хвальк-ох |

У-ва ўсіх гэтых прыкладах націск прыходзіцца на канчатак слова: вала̀, вал-у̀, вал-о́м, вал-е́, вал-ы́ вал-о́ў і г. д.

Калі-ж націск ня прыходзіцца на канчатак, то заместа **о** стаіць *а* (аканьне). У месным склоне **е** і не пад націскам. **Прыклады:**

*адзіночны лік.*

| | | | |
|---|---|---|---|
| Н. | 7) брат | 8) народ | 9) страх |
| Р. | брат-а | народ-**у** | страх-у |
| Д. | брат-у | народ-у | страх-у |
| В. | *як р.* | *як назоўны склон* | |
| Т. | брат-ам | народ-ам | страх-ам |
| М. | брац-е | народз-е | страс-е і страху |

*Множны лік.*

| | | | |
|---|---|---|---|
| Н. | брат-ы | народ-ы | страх-і |
| Р. | брат-оў | народ-аў | страх-аў |
| Д. | брат-ом | народ-ам | страх-ам |
| В. | *як р.* | *як назоўны склон* | |
| Т. | брат-амі | народ-амі | страх-амі |
| М. | брат-ох | народ-ах | страх-ах |

**§ 15. Мягкі зычны перад канчаткам.** Прыклады:

*адзіночны лік:*

| | | | |
|---|---|---|---|
| Н. | 10) лось | 11) локаць | 12) конь |
| Р. | лас-я | локц-я | кан-я |
| Д. | ляс-ю | локц-ю | кан-ю |
| В. | *як Р.* | *як Н.* | *як Р.* |
| Т. | лас-ём | локц-ем | кан-ём |
| М. | лас-і | локц-і | кан-і |

*множны лік:*

| | | | |
|---|---|---|---|
| Н. | лас-і | локц-і | кон-і |
| Р. | лас-ёў | локц-яў | кон-яў, кон-ей |
| Д. | лас-ём | локц-ям | кон-ям |
| В. | *я к н а з о ў н ы* | | |
| Т. | лас-ямі | локц-ямі | кон-ямі, конь-мі |
| М. | лас-ёх | локц-ях | кон-ях |

**§ 16. Прадметнікі на -й** скланяюцца падобна:

*адзіночны лік:*

| | | | |
|---|---|---|---|
| Н. | 13) верабей | 14) лой | 15) абычай |
| Р. | вераб'-я | ло-ю | абычà-ю |
| Д. | вераб'-ю | ло-ю | абычà-ю |
| В. | *як Р.* | *як назоўны* | |
| Т. | вераб'-ём | ло-ем | абычà-ем |
| М. | вераб'-і | ло-і | абычà-і |

*множны лік:*

| | | |
|---|---|---|
| Н. | вераб'-і | абычà-і |
| Р. | вераб'-ёў | абыча-яў |
| Д. | вераб'-ём | абыча-ям |
| В. | *як Р.* | *як Н.* |
| Т. | вераб'-ямі | абыча-ямі |
| М. | вераб'-ёх | абыча-ях |

УВАГА. 1. Слова л о й множнага ліку ня мае.

2*). Каб выразьней прадставіць канчаткі скланеньня пасьле мягкага зычнага і прадметнікаў на й, можна напісаць лацініцай так: łoś, łaś-a, łaś-u, łaś-om, łaś-i i г. д.; wierabiej, wierabj-a, wierabj-u, wierabj-om, wierabj-i i г. д.

Б. 1. *Прыклады для скланеньня:* воз, гарод, двор, залом, пісар, рамень, цень, салавей, сук, гарэх, пятух, мурог, нарог, кош, нож.

2. *У якім склоне пішацца* **е** *не пад націскам?*

## Лекцыя 7.

А. 1. Які канчатак роднага склону ў такіх словах: чалавек, грош, куст, вол, нож, малаток, коўш, студзень, красавік?

2. Як будзе родны склон: розум, боль, жаль, сьмех, сум, гром, край, ячмень, тытун, галун, палын, пясок?

3. Якія канчаткі ў родным склоне прадметніка мужчынскага роду?

4. У якіх склонах стаяць прадметнікі ў такіх разох: на дуб**е**, пры стал**е**, у кажус**е**, граць на раз**е**, у гарос**е**?

на дажджы, у кашы, аб нажы, у калодзяжы, у коклюшы, у плачы, у бучы, на канцы, на полцы, у бары?

пры купцу, пры Рыгору, Лукашу, чужаземцу, немцу, кітайцу, Марцінкевічу?

у Полацку, на баку, аб ваўку, на языку, аб чалавеку?

5. Які канчатак мае месны склон мягкага скланеньня муж. р. (госьць, верабей і падобн.)?

**§ 17. Увагі аб розных канчатках. І. Родны склон адз. ліку** мае канчатак **у** або **э**, як у цьвёрдым, так і ў мягкім скланеньні (у мягкім пішацца-*ю*, -*я*).

Канчатак **-а**, (*я*) знаходзім:

1) у прадметніках, што азначаюць жывыя творы, напр.: чалавека, Язэпа, брата, ваўка, вала, злодзея, вераб'я і інш;

2) у прадметніках *вобразных*, што можна бачыць, лічыць, асабліва, калі націск прыходзіцца на канчатак: грош — грашà, куст — кустà, малаток — малаткà, нож — нажà, нос — насà, кош—кашà, коўш—каўшà і інш.

3) у назовах месяцаў: студня, сакавіка, красавіка і г. д.

Іншыя прадметнікі *звычайна* маюць канчатак **у** (ю):

розуму, болю, жалю, сьмеху, смутку, грому, роду, міру, абычаю, дару, страху, веку, року, пакою, усходу, заходу, ценю (*гэты цень*), плачу, ураджаю, жару, прымусу, люду, народу, краю, бору, узору, лесу, сьнегу, лёду, попелу, алею, шроту, хвойніку, дроту і шмат іншых.

У-ва ўсіх прыведзеных прыкладах націск ня прыходзіцца на канчатак у, але часам канчатак **у** здараецца і пад націскам, напр.: пяску, тытуну, галуну, палыну, тварагу; дажджу, агню, сну, *часам* аўсу, чацьвяргу.

II. **Родны склон мн. л.** часам мае аснову без канчатку **оў** (аў, ёй, яў), напр.: *мяшчан*, *сялян*, *грамадзян*, *дзён*, сто *раз*, пяць *раз*, пяць *чалавек*.

У некаторых словах муж. р, часам бывае канчатак **ей** (ай): *коней, гасьцей, людзей, лапцей, грошай.*

III. **Месны склон адз. ліку** мае чатыры канчаткі: **е, і, ы, у.**

У прадметніках з *цьвёрдым зычным перад канчаткам* знаходзім **е**: дуб — на дубе, пры стале, у млыне, у кажусе, у гаросе.

Прадметнікі на **ж, ш, ч, ц, р** маюць **ы**: на дажджы, у кашы, (кош), на нажы, у бары і г. д. Аднак, тыя прадметнікі, што азначаюць асобы, найчасьцей маюць **у**: аб купцу, пры Рыгору, Лукашу, аб Марцінкевічу і г. д.

Прадметнікі на **к** блізка заўсёды маюць канчатак на **у**: у Полацку, на баку, аб ваўку, аб чалавеку, **на языку** (рэдка: на языцэ).

Прадметнікі *з мягкім зычным перад канчаткам* канчаюцца на **і**: пры гасьці, часьці, камяні (і камені), кані, салаўі, вераб'і, Дунаі, прыяцелі і г. д. Тут бывае часам і канчатак ю: на каню, на Дунаю...

IV. **Клічны склон.** У значэньні клічнага склону звычайна ужываецца назоўны склон: паслухай, *братка*! паслухайце *браткі*! Але клічны склон мае і свае асобныя канчаткі — **у** і **е** (пасьля цьвёрдага зычнага—**а**):

1) Іване, слаўны пане! браце, сваце, дубе, лесе, суседзе і г. д.

2) коню, вучыцелю, госьцю, дабрадзею, братку, галубочку, дзедку, сынку і г. д.

У множным ліку часам ужываецца канчатак -ове: панове! сватове!

**Б.** *Перапісаўшы, пастаў націск і падчыркні канчаткі прадметнікаў муж. роду:*

За туманом сьвету ня відаць. Ня бачыць далей свайго носу. У пужлівага купца ні грошай, ні тавару. Жаўцеюць палоскі позьняга аўсу ці ячменю. Бегала ліска каля лесу блізка. Няма дыму без агню. Вада затапіла шмат берагу. Шукай ветру ў полі. Голы разбою

не баіцца. Без абручыка, бяз дна — нідзе дзірачкі няма (яйцо). На беразе возера пасецца табун коней. Дзесятая вада па кісялі. Узімку ў лесе і на полі шмат менш птушак і зьвяроў. Пастушкі сядзелі пры агні. У зялёным гаі да у родным краі. Ката ў мяшку ня купляюць. На сваім сьметніку і певень сьмелы. Рана была на пальцы. У бары што хочаш бяры. У канцы грэблі шумяць вербы. Цярпеньнем і працай горы пераносяць. За баляваньнем ходзіць галадаваньне.

## Лекцыя 8.

**А.** 1. Прасклaняй прадметнікі ніякога роду: вясло, горла, плячо, гора, благацьцё, здарэньне і, напісаўшы на дошцы, аддзялі аснову ад канчатку.

2. Ці канчаткі ніякога роду падобны да адпаведных канчаткаў муж роду?

### УЗОРЫ СКЛАНЕНЬНЯ.

II. *Ніякі род.*

**§ 18. Прадметнікі на о (ё)** — не пад націскам **а (я)** маюць скланеньне падобнае да скланеньня муж. роду. Тры склоны—назоўны, вінавальны і клічны заўсёды аднолькавыя (дзеля гэтага і пішам іх у адным радку: Н. В. К.)

*адзіночны лік:*

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Н. В. К. | 1) | сял-о | 2) | пален-а |
| Род. | | сял-а | | пален-а |
| Дав. | | сял-у | | пален-у |
| Тв. | | сял-ом | | пален-ам |
| Мес. | | сял-е | | пален-е |
| Н. В. К. | 3) | пляч-о | 4) | мор-а |
| Род. | | пляч-а | | мор-а |
| Дав. | | пляч-у | | мор-у |
| Тв. | | пляч-ом | | мор-ам |
| Мес. | | пляч-ы | | мор-ы |
| Н. В. К. | 5) | жыцьц-ё | 6) | пол-е |
| Род. | | жыцьц-я | | пол-я |
| Дав. | | жыцьц-ю | | пол-ю |
| Тв. | | жыцьц-ём | | пол-ем |
| Мес. | | жыцьц-і | | пол-і |

*множны лік:*

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Н. В. К. | 1) | сёл-ы | 2) | пален-ы |
| Род. | | сёл-аў | | пален-аў |
| Дав. | | сёл-ам | | пален-ам |
| Тв. | | сёл-амі | | пален-амі |
| Мес. | | сёл-ах | | пален-ах |
| Н. В. Р. | 3) | плеч-ы | 4) | мор-ы |
| Род. | | плеч-аў | | мор-аў |
| Дав. | | плач-ам | | мор-ам |
| Тв. | | плуч-амі | | мор-амі |
| Мес. | | плеч-ах | | мор-ах |
| Н. В. К. | 5) | *жыцьці* | 6) | палі |
| Род. | | *і іншыя* | | пал-ёў |
| Дав. | | *склоны* | | пал-ём |
| Тв. | | *мн. ліку ня* | | пал-ямі |
| Мес. | | *ўжываюцца* | | пал-ёх |

**§ 19. Увагі аб канчатках.** I. **Месны склон** адз. ліку мае чатыры канчаткі: **е, і, ы, у,** якія ўжываюцца так, як у прадметніках муж. роду, напрыкл.:

у сяле, пры вакне, у гумне, на сукне, аб пісьме і г. д. (канчатак **е** пад націскам);

на сене, у леце, на целе, у слове, на небе, на палене і г. д. (канчатак **е** не пад націскам);

аб дабры, на плячы, пры гумянцы, на моры, у горы (гора), пры вогнішчы, на сэрцы, на ваконцы, сонцы і г. д.;

у лахмацьці, у жыцьці, на гальлі, у чытаньні, пры здарэньні, на полі і г. д.;

словы з асновамі на - **к** маюць канчатак **у**: века — аб веку, вока — аб воку.

II. **Назоўны склон мн. л.** мае канчаткі **і, ы**: гумны, здарэньні, азёры, моры, балоты і г. д.

III. **Родны склон мн. л.** можа ўжывацца або з канчаткам **оў (аў)**, або без канчатку (адна аснова): вядзёр — вёдраў, красён — кроснаў, плеч — плечаў і г. д.

IV. Трэба заўважыць **розьніцу ў націску**: сяло — сёлы, вядро — вёдры, вакно — вокны, ярмо — ёрмы; але — два, тры, чатыры сялы, вядры, вакны, ярмы і г. д.

**§ 20. Вока** і **вуха** скланяюцца гэтак: **вока**, вока, воку, вокам, на воку; вочы, вачэй, вачом, вачмі, аб вачох; **вуха**, вуха, вуху, вухам, у вусе; вушы, вушэй, вушом, вушмі, аб вушох.

Слова **плечы** таксама часам мае ў твор. і месн. склоне мн. ліку плячмі або плячыма, на плячох.

**Б.** *Перапісаўшы, пастаў націск і падчыркні канчаткі прадметнікаў ніякога роду.*

Ціха месяц адзінокі ходзіць у небе над зямлёю. Далёка ад нашага краю ёсьць вялікія вазёры або моры. У возеры салодкая вада, а ў моры салёная. Дожджыку просіць маладое жытца. У полі каменьня даволі. Пры здарэньні зайдзіся адведаць і купіць насеньня. На балоце з чаротамі лазьнякі шапталі. На гальлі старога дуба было гняздо. У жыцьці ўсяго нажывеш. Нудна на сэрцы. І на сонцы ёсьць плямы. У паветры павеяла дымам. Марскія стварэньні й расьліны ў рэчцы ці ў возеры ня жывуць. На адным месцы й камень абрастае. Таму й хворы, што ў горы. Цярпеньнем і працай горы пераносяць. Грады зарасьлі зельлем. З шчасьцем добра й грыбы зьбіраць. Конь прывязан повадам, а госьць полуднем.

## Лекцыя 9.

**А.** 1. Праскляняй прадметнікі: *імя*, *ягня*, *неба*, *кола* і выдзялі корань, устаўку і канчатак.

2. Праскланяй *селянін*, *грамадзянін*, *мешчанін* і выдзялі корань, устаўку і канчатак.

**§ 21.** **Прадметнікі з устаўкаю ен, ят, ес** (эн, ат, эс). Сюды прыналежаць 1) словы на мя: *імя*, *племя*, *цемя*, *семя*, *раня*, *бярэмя*, *стрэмя*; 2) гэткія як цяля, парася, зярня, ваўчаня, княжа і г. д. (назовы маладых жывёлін) і 3) устаўку **ес** знаходзім у мн. ліку ад *кола*: калёсы, ды неба — нябёсы. Вось узор скланеньня:

*адзіночны лік:*

| | | |
|---|---|---|
| Н. В. К. | імя | ягня, ягнё |
| Род. | ім-ен-і, ім-я | ягн-яц-і |
| Дав. | ім-ен-і, ім-ю | ягн-яц-і |
| Тв. | ім-ен-ем, ім-ем | ягн-ём |
| Мес. | ім-ен-і, ім-і | ягн-яц-і |

*множны лік:*

| | | |
|---|---|---|
| Н. В. К. | ім-ён-ы | ягн-ят-ы |
| Род. | ім-ён-аў | ягн-ят-аў |
| Дав. | ім-ён-ам | ягн-ят-ам |
| Тв. | ім-ён-амі | ягн-ят-амі |
| Мес. | ім-ён-ах | ягн-ят-ах |

Побач з формамі цяля, зярня, ваўчаня, княжа ужываюцца формы на о (ё): цялё, зярнё, княжо, дзяўчо і г. д.

УВАГА: Мн. лік ад слова кола — калёсы — зьмяніў сваё значэньне і значыць павозка. У першым сваім значэньні кола мае мн. лік — колы.

**§ 22. Прадметнікі з устаўкай -анін, -янін.** Прадметнікі з падвойнай устаўкай **ан-ін, ян-ін** у множным ліку выкідаюць устаўку **ін** і скланяюцца так: сел-ян-ін, сел-ян-ін-а, сел-ян-ін-у, сел-ян-ін-ам, сел-ян-ін-е; сял-ян-е (*радзей*: сял-ян-ы), сял-ян або сял-ян-аў, сял-ян-ам, сял-ян-ах.

**Б.** 1. *Праскланяй прадметнікі:* племя, цемя, рамя, бярэмя, стрэмя (скланяюцца, як *імя'*).

2. *Праскланяй прадметнікі*: мешчанін, грамадзянін, баярын (мн. лік: баяры).

## Лекцыя 10.

**А.** 1. Праскланяй, пастаў націск і аддзялі канчатак ад асновы: галава, бяда, саха, рука, нага, зара, каліна, горка, лубка, галубка, адвага, весялуха, зямля, воля.

### УЗОРЫ СКЛАНЕНЬНЯ.

III. *Жаноцкі род.*

**23. Прадметнікі жаноцкага роду на -а (я),** напр: галава, каліна, рука, горка, зара, зямля, нядзеля.

*адзіночны лік.*

| | | |
|---|---|---|
| Н. | 1) галав-**а** | 2) калін-а |
| Р. | галав-**ы** | калін-ы |
| Д. | галав-**е** | калін-**е** |
| В. | галав-**у** | калін-у |
| Т. | галав-**ою**(й) | калін-аю(й) |
| М. | галав-**е** | калін-**е** |
| К. | галава! | калін-а! |

*множны лік.*

| | | |
|---|---|---|
| Н. | галов-ы | калін-ы |
| Р. | галоў, галов-аў | калін,-аў |
| Д. | галов-ам | калін-ам |
| В. | галов-ы | калін-ы |
| Т. | галов-амі | калін-амі |
| М. | галов-ах | калін-ах |
| К. | галов-ы! | калін-ы! |

**УВАГА.** Клічны склон жан. роду заўсёды аднолькавы з назоўным!

*адзіночны лік:*

| | | |
|---|---|---|
| Н. К. | 3) рук-а | 4) горк-а |
| Р. | рук-і | горк-і |
| Д. | руц-**э** | горц-**ы** |
| В. | рук-у | горк-у |
| Т. | рук-ою(й) | горк-аю(й) |
| М. | руц-**э** | горц-**ы** |

*множны лік:*

| | | |
|---|---|---|
| Н. К. | рук-і | горк-і |
| Р. | рук | горак, горк-аў |
| Д. | рук-ам | горк-ам |
| В. | *як назоўны* | |
| Т. | рук-амі | горк-амі |
| М. | рук-ах | горк-ах |

*адзіночны лік:*

| | | | |
|---|---|---|---|
| Н. К. | 5) зар-а | 6) зямл-я | 7) дол-я |
| Р. | зар-ы | зямл-і | дол-і |
| Д. | зар-ы | зямл-і | дол-і |
| В. | зар-у | зямл-ю | дол-ю |
| Т. | зар-ою(й) | зямл-ёю(й) | дол-яю(й) |
| М. | зар-ы | зямл-і | дол-і |

*множны лік:*

| | | |
|---|---|---|
| Н. К. | зор-ы | земл-і |
| Р. | зор-аў | зямель, земл-яў |
| Д. | зор-ам | земл-ям |
| В. | *як назоўны* | |
| Т. | зор-амі | земл-ямі |
| М. | зор-ах | земл-ях |

**Б.** 1. *Чым розьняцца прыклады* 1, 3, 5 і 6 *ад* 2, 4 і 7? (націскам...)

2. *Праскланяй, пастаў націск і аддзялі аснову ад канчатку:* вада, саха, мука, му'ка, нага, ральля, Вільня, дарога, разлука, страпуха, гара, дзяжа.

## Лекцыя 11.

**А.** 1. Які зычны, цьвёрды ці мягкі, перад канчаткам такіх прадметнікаў жан. роду:

вада, галава, рука, саха, нага, каліна, работа? гора, душа, маца, вуліца, матка, шапка?...

зямля, сям'я (=сямй-а, siamj-a), доля, воля, гаспадыня?

2. Праскланяй: старшыня, стараста, сабака, судзьдзя.

**§ 24. Увагі аб канчатках** прадметнікаў **жан. роду. I. Давальны** і **месны** склон адз. ліку маюць тую самую форму. У прадметніках, што маюць перад канчаткам *цьвёрды зычны*, гэтыя склоны канчаюцца на **е** (э): вадзе, галаве, руцэ, сасе, назе (націск на канчатку); каліне, палавіне, блазноце, рабоце (націск не на канчатку).

Калі-ж перад канчаткам стаіць адзін з ацьвярдзеўшых зычных *р*, *ц*, *ч*, *ж*, *ш* або *к*, то ў давальным і месным склоне маем **ы**: **зары**, гары, мацы, душы, дзяжы (пад націскам); вуліцы, аборы, кашы, пражы, лаўцы, матцы, шапцы і г. д. (не пад націскам). Пасьля асноў на **к** канчатак **ы** ужываецца толькі тады, калі націск не на канчатку: лаўка — лаўцы, матка — матцы, шапка — шапцы. Калі-ж націск на канчатку, то канчатак будзе **э**: мукà — муцэ, рукà—руцэ. Тое самае спатыкаем часам пасьля *р*: на гарэ, на зарэ.

У скланеньні з *мяккім зычным* перад канчаткам заўсёды маем канчатак **і**: зямлі, сям'і, долі, волі, княгіні, гаспадыні і г. д.

Прадметнікі з асновай на *к*, *г*, *х* зьмяняюць іх на *ц*, *з*, *с*: рука — руцэ, горка — горцы, нага — назе, дарога — дарозе, саха — сасе, страха — страсе, Лявоніха — Лявонісе.

II. **Родны склон мн. ліку** мае часта канчатак *-аў*, як у муж. родзе: водаў, воронаў, маладзіцаў, песьняў, земляў і г. д. Але найчасьцей ужываюцца гэткія формы, як дачок, дзявок, гор, зор, кароў, галоў, зямель, нядзель, сьлёз, лялек, шпілек і г. д. (чыстая аснова: гор, зор, галоў або з устаўкаў *о*, *е*: дачк-а — дачок, зямл-я — зямель...). Толькі *рук* і *ног* заўсёды без канчатку **аў**.

Радзей сустракаем канчатак **ей**: сьвіней, сяней і г. д.

**§ 25. Прадметнікі муж. роду на а (я).** Таксама, як прадметнікі жан. роду на **а**, скланяюцца прадм. муж. роду на **а**: старшыня, староста, ваявода, судзьдзя, сабака і інш. Толькі ў твор. склоне часамі сустракаюцца формы муж. скланеньня: з старастам, з сабакам і г. д.

**Б.** *Перапісваючы, аддзялі канчаткі прадметнікаў жан. роду на* **а** *і пастаў націск:*

Над збоджжам убогім вецер гуляе на волі. Ходзяць па полі ў задуме мужчыны. Моцна хлопец занудзіўся па бацьку, па маме. У хаце сьвяцілася газьніца. Бацька на калодцы лапаць выплятае. У рэчцы купаюцца хлопцы. Будзе кірмаш і на нашай вуліцы. Спадабалася котцы рыбка. Старой бабцы хараша і ў шапцы. Быць бычку на лычку, а кароўцы на вяроўцы. Вучэньне паможа змагацца з нядоляй. З надзеяй сеем жыта мы ўвосень; з надзеяй сустрачаем выраі вясной. Паліўся срэбрам сьпеў прыгожы ў далёкай сіняй вышыні. На паліцы дзьве сініцы. На сваей лаўцы й памерці добра.

## Лекцыя 12.

**А.** 1. Праскланяй прадметнікі, пастаў націск і аддзялі канчатак ад асновы: соль, гразь, ноч, роскаш; кроў, любоў.

§ 26 **Прадметнікі жан. роду на зычны.** Сюды адносяцца такія прадметнікі, як *косьць, гразь, соль, медзь; ноч, мыш, роскаш, моц; любоў, кроў* і падобныя; у множ. ліку такія, як *сені, грудзі, гусьлі, дзьверы,* — наагул, усе тыя прадметнікі жан. роду, што ў назоўным склоне не канчаюцца на **-а**. Апрача таго, сюды адносяцца: *куры, суседзі, чэрці.*

### УЗОРЫ СКЛАНЕНЬНЯ.

*адзіночны лік:*

| | | | |
|---|---|---|---|
| Н. К. | косьць | рэч | кроў |
| Р. | касьц-і | рэч-ы | крыв-і |
| Д. | касьц-і | рэч-ы | крыв-і |
| В. | *як назоўны* | | |
| Т. | касьц-ёю(й) *(косьцю)* | рэч-аю(й) *(рэчу)* | крыв-ёю(й) *(кроўю)* |
| М. | касьц-і | рэч-ы | крыв-і |

*множны лік:*

| | | |
|---|---|---|
| Н. К. | косьц-і | рэч-ы |
| Р. | касьц-ей | рэч-аў |
| Д. | касьц-ём | рэч-ам |
| В. | *як назоўны* | |
| Т. | касьц-ямі (касьць-мі) | рэч-амі (рач-мі) |
| М. | касьц-ёх | рэч-ах |

**§ 27. Увагі аб склонах.** I. **Родны склон мн. л.** мае канчатак *ей*, або *аў*: касьцей, саней, грудзей, печаў, рэчаў, ночаў, (*часам*: пячэй, начэй і г. д.).

II. **Творны склон мн. л.**, апрача паказаных у прыкладах канчаткаў, мае часамі канчатак - **ма**: касьцьма, саньма і г. д.

**§ 28.** Слова **маці** скланяецца гэтак:

*Наз.* маці (маць) *Він.* маці

*Род.* маці *Тв.* — *Клічны* маці!

*Дав.* маці *Мес.* маці

Множ. ліку гэтае слова ня мае. У творным склоне і множ. ліку яно замяняецца формамі ад *матка*: маткаю, маткі, матак і г. д.

**Б.** *Праскланяй на пісьме, аддзяляючы канчатак ад асновы*: гразь, соль, медзь; ноч, мыш, моц, любоў; куры, суседзі, чэрці.

## Лекцыя 13.

**А.** 1. Пастаў у адпаведным склоне пададзены пры дзеяслове прадметнік:

*бачу* (брат); *маю* (муж); *паю* (конь)

*нясу* (стол); *сяку* (дуб); *маю* (рубель)

Пастаў тыя самыя прадметнікі ў множ. ліку.

2. Як кажацца: люблю *сваіх сёстраў, братоў*, ці люблю *свае сёстры, браты*? ганю *валы, коні, авечкі*, ці ганю *валоў, коней, авечак*?

**§ 29. Вінавальны склон** прадметнікаў, што азначаюць чалавека (асобу) або жывёліну, аднолькавы з родным склонам у муж. родзе адзіночнага

ліку: бачу *брата*, *мужа*, *каня*. Іншыя прадметнікі маюць вінавальны склон аднолькавы з назоўным: нясі стол, сячы дуб, мець рубель (хоць часамі бывае і так: сячы *дуба*, пісаць *ліста*, мець *рубля*).

У множным ліку толькі прадметнікі, што азначаюць чалавека, асобу, маюць вінавальны склон аднолькавы з родным; усе іншыя — аднолькавы з назоўным: бачу братоў, люблю сётраў, *але* ганю *валы*, паю *коні*, пасу *авечкі* і г. д.

3. Як будзе **родны** склон такіх прадметнікаў:
а) вол, конь, чалавек, брат, злодзей, пан і падобн.?
б) куст, стол, пень, малаток, кошык, ключык і падобн.?
в) назоваў месяцаў: студзень і г. д.?
г) дождж, вецер, сьнег, дым, туман, гром, агонь; сьвет, боль, жаль, цень, сум, узор, розум, сон; шрот, народ, лес, бор, гай, попел, ячмень, алей і падобн.?

4. Як будзе **месны** склон такіх прадметнікаў:
а) дуб, плот, плод, рог, скамарох; лаза, хата, нага, рука, саха; вакно, ярмо і падобн.?
б) конь, гай, камень, зямля, кузьня, жыцьцё, здарэньне і падобн.?
в) нож, кош, абруч, бор; дзяжа, душа, печ, вуліца, гара і падобн.?
г) муж, Лукаш, Багдановіч, Грыгор, купец, кітаец і падобн.?
д) сук, Менск, Слуцак, чалавек; вока, века і падобн.?

5. Зьвярні ўвагу на напісаньне, пастаў націск і азнач склоны:

локцем — локцям, аленем — аленям, пытаньнем — пытаньням, здарэньнем — здарэньням, асаблівасьцяй — асаблівасьцей, поле — поля, здарэньне — здарэньня...

6. Побач з пададзенымі формамі родн. скл. множ. ліку якія формы яшчэ могуць быць:

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| сёлы | — сёл. . . ? | | кросны | — красён (кросен). . . | ? |
| вароты | — варот . ? | | вёдры | — вядзёр (вёдзер) . . . | ? |
| дровы | — дроў. . ? | | вокны | — вакон (вокан) . . . . | ? |
| галовы | — галоў . ? | | жорны | — жарон (жоран) . . . | ? |
| яйцы | — яец. . . ? | | вёрсты | — вёрст . . . . . . . . . | ? |
| песьні | — песень. ? | | палотны | — палацён (палоцен) . | ? |

Б. *Паўтарыць скланеньне прадметнікаў* з асаблівай увагай на канчаткі, азначаныя ўва ўзорах тоўстым шрыфтам.

## Лекцыя 14.

А. 1. Што такое прыметнік або імя прыметнае?
2. Якія бываюць асаблівасьці прадметаў?
3. На якія пытаньні адказвае прыметнік?
4. Праскланяй сьляпы, босы, сіні ва ўсіх радох і аддзялі аснову ад канчатку.

**§ 30 Прыметнікам** або **іменем прыметным** называецца зьменная часьціна мовы, што выражае ня зьвязаную з часам асаблівасьць прадмету і адказвае на пытаньні *які, -ая, -ое, чый, -я, -ё*?

Прыметнік мае рады (мужчынскі, жаноцкі й ніякі) і скланяецца, напр.: сьляпы, сьляпая, сьляпое; сіні, сіняя, сіняе...

УЗОРЫ СКЛАНЕНЬНЯ

| *адзіночны лік:* | | | *множны лік* (для ўсіх радоў) |
|---|---|---|---|
| 1) Н. сьляп-ы | сьляп-ая | сьляп-ое | сьляп-ыя |
| Р. сьляп-ога | сьляп-ое(й) | сьляп-ога | сьляп-ых |
| Д. сьляп-ому | сьляп-ой | сьляп-ому | сьляп-ым |
| В. *як Н. або Р.* | сьляп-ую | *як Н.* | *як Н. або Р.* |
| Т. сьляп-ым | сьляп-ою(й) | сьляп-ым | сьляп-ымі |
| М. сьляп-ым | сьляп-ой | сьляп-ым | сьляп-ых |
| 2) Н. бос-ы | бос-ая | бос-ае | бос-ыя |
| Р. бос-ага | бос-ае(й) | бос-ага | бос-ых |
| Д. бос-аму | бос-ай | бос-аму | бос-ым |
| В. *як Н. або Р.* | бос-ую | *як Н.* | *як Н. або Р.* |
| Т. бос-ым | бос-аю(й) | бос-ым | бос-ымі |
| М бос-ым | бос-ай | бос-ым | бос-ых |
| 3) Н. сін-і | сін-яя | сін-яе | сін-ія |
| Р. сін-яга | сін-яе(й) | сін-яга | сін-іх |
| Д. сін-яму | сін-яй | сін-яму | сін-ім |
| В. *як Н. або Р.* | сін-юю | *як Н.* | *як Н. або Р.* |
| Т. сін-ім | сін-яю | сін-ім | сін-імі |
| М. сін-ім | сін-яй | сін-ім | сін-іх |

УВАГА 1. Першы прыклад — сьляп-ы: канчатак пад націскам, прад канчаткам цьвёрды зычны; другі прыклад — бос-ы: канчатак не пад націскам; трэці прыклад — сін-і: мягкі зычны прад канчаткам (сін-і, лацінікай: *siń-i, siń-aha, siń-amu* і г. д.).

2. Прыметнікі згаджаюцца ў родзе з прадметнікамі, таму і вінавальны склон прыметнікаў згаджаецца з адпаведнай формай прадметнікаў, напр.: маю добрых братоў, маю добрыя коні, маю добрыя сані.

**Б.** 1. *Праскланяй:* цёплы летні дзень, стары глухі дзед, чырвоная краска, сьляпое шчаня.

2. *Сьпісваючы аддзялі канчаткі прыметнікаў ад асновы:*

Новае сіта на калку вісіць, а старое пад лавай валяецца. Апошняе спатканьне. Ліпы старыя шумяць за сьцяною. Зоры далёкія, зоры бліскучыя ціха гараць над зямлёй. Люблю я летнюю месячную ноч. Цякла крынічка халоднае чыстае вады. Раньняй вясною выехалі з гораду. Лішняй капейкі ні ў кога няма. Каля суседняга сяла было вялікае возера. З поўначы цёмнае, з сіверу дальняга нудная восень прышла. Прыляцела ластаўка ў гумно даведацца свайго даўнейшага леташняга доміка.

## Лекцыя 15.

**А.** 1. Зьвярні ўвагу на прыметнікі: *Грозен* да ня *боязен.* Хоць *бяздворан*, да ўсюды *праворан.* Дзякуй за полудзень: я й так ня *галадзен. Повен* хлявец белых авец (зубы). *Чоран* воран. Удаўся гарох *тонак* і *высок*, і на лісьце шырок.

**§ 31. Скарочаныя прыметнікі.** У назоўным склоне сустракаюцца скарочаныя прыметнікі: грозен, боязен, чоран, сіня туча, чорна мора, сіні тучы, ясны вочы, добры людзі. Іншыя склоны скарочаных прыметнікаў у беларускай мове бываюць рэдка: грозна мужа, грозну мужу, сіня мора, сіню мору...

2. Дапоўні адпаведнымі формамі поводле пададзенага ўзору:

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| зялёны, | -ая, -ае, — | зелянейшы, | -ая, -ае, — | найзелянейшы, | -ая, | -ае |
| горкі, | -ая, -ае, | „ | | „ | | |
| новы, | -ая, -ае, | „ | | „ | | |
| сіні, | -яя, -яе, | „ | | „ | | |

**§ 32. Ступені прыраўнаваньня.** Тыя прыметнікі, што азначаюць **якасьць** (на пытаньне *які?*), могуць мець тры ступені гэтай якасьці або тры **ступені прыраўнаваньня:**

1-ая ступень **звычайная:** зялёны, ая, ае; сіні, яя, яе...

2-ая ступень **вышэйшая:** зелянейшы, ая, ае; сінейшы, ая, ае.

3-яя ступень **найвышэйшая:** найзелянейшы, ая, ае, найсінейшы, ая, ае *або* самы зялёны, самы сіні, *ці* **за** ўсіх найзелянейшы, **ад** усіх найсінейшы і г. д.

Некаторыя прыметнікі маюць „няправільныя" ступені прыраўнаваньня: добры — лепшы, найлепшы; благі — горшы, найгоршы; малы—меншы, найменшы...

**§ 33. Прыметнікі якасныя і прыналежныя.** Прыметнікі, што паказваюць *якасьць* прадмету (на пытаньне *які?*), называюцца **якаснымі:** добры, грозны, сіні і г. д. Прыметнікі, што паказваюць *прыналежнасьць* прадмету (на пытаньне *чый?*), называюцца **прыналежнымі:** бацькаўскі, дзедаўскі, бацькаў, бацькава, матчын, матчына і г. д.

Прыналежныя ступеняў прыраўнаваньня ня маюць. Яны часьцей ад якасных здараюцца ў скарочанай форме: *матчын* дар, *бацькава* хата, *чортава* племя; *матчына* дара, *матчыну* дару, *матчыны* дары; *бацькаву* хату, *бацькавы* хаты; *чортава* племені, *чортаву* племені, *чортавы* плямёны... (у іншых склонах скарочаная форма сходзіцца з поўнай).

УВАГА. Ня маюць ступеняў прыраўнаваньня і іншыя, **адносныя,** прыметнікі, што паказваюць паходжаньне, матэрыял, стан або ўтвораны ад прыслоўяў: вясковы, гарадзкі, польскі, нямецкі, каменны. саломены, босы, сьляпы, глухі, тутэйшы, учарашні і г. д.

**Б.** 1. *Сьцісаць і скарочаныя прыметнікі падчыркнуць:*

Дзякуй за полудзень: я сам ня голадзен. Лысаму грэбень не патрэбен. Сядзіць мой сакол смуцен, не вясёл. Хоць бядняк душой будзь чэсьцен — ён і злодзей

і бясчэсьцен. „Матчын дар“ — творы Алеся Гаруна. Пасадзілі ў бацькаву хату. Чортаву племені не пакланюся. Збруя белая, раменна, ўбрана ў золаце адменна.

2. *Напісаць ступені прыраўнаваньня:* новы кажух, зялёны сад, вялікі бор, цёплая шапка, шырокае поле, глыбокае мора, благі сон, сухі хлеб.

## Лекцыя 16.

А. 1. Што такое лічэбнік або імя лічэбнае? На якія пытаньні адказваюць лічэбнікі?

2. Дай колькі прыкладаў лічэбнікаў *колькасных* і *парадкавых*.

**§ 34. Лічэбнік або імя лічэбнае.** Зьменная часьціна мовы, што паказвае колькасьць прадметаў або іх парадак, называецца **лічэбнікам** або **іменем лічэбным**: пяць, шэсьць; пяты, шосты.

Лічэбнікі, што паказваюць колькасьць (адказваюць на пытаньне *колькі?*), называюцца **колькаснымі:** адзін, два, тры і г. д.

Лічэбнікі, што паказваюць парадак (на пытаньне *каторы па парадку?*), называюцца **парадкавымі**: першы, другі, трэці, чацьверты і г. д.

Апрача таго, выдзяляюцца йшчэ такія лічэбнікі:

*зборныя:* двое, абодва, абедзьве, трое, чацьвёра, пяцёра і г. д.

*дробавыя:* паўтара (вядра), паўтары (бочкі), паўтраця (рубля), паўтраці (вярсты), паўчварта, паўчварты, дзьве трэці(х), тры пятых і г. д.

*колькіразовыя:* дваякі, ая, ае; траякі, ая, ае; падвойны, патройны і інш.

*неазначальныя:* пара, колькі, некалькі і інш.

Б. *Сьпісаўшы падчыркнуць лічэбнікі:*

Пад адным брылем чатыры браты. Маёй сястры шаснаццаты, а бабцы шэсьцьдзесяты год. На гару чацьвёра цягнуць, а з гары адзін сапхне. Адным махам семсот забіяхам (забіў). Кабыла сівая, жарабя рабое, зьеў воўк абое. Адзін з сошкай, а сямёра з лож-кай. І выпіў віна паўтара вядра. Паўтары бочкі вады

прывязьлі. Пазыч мне паўтраця злотых і паўтраці маркі. Дзьве трэці работы адрабілі, тры пятых часу адбылі. У машыніста хлеб траякі: чорны, белы і ніякі. Заплаціш падвойныя кошты. Пару гадкоў яшчэ пачакаем...

## Лекцыя 17.

А. 1. Прасклaняй: адна саха, два валы, дзьве дошкі, трое саней, дзевяць братоў, сто дваццаць восем грыбоў.

**§ 35. Скланеньне лічэбнікаў.** Лічэбнікі парадкавыя скланяюцца падобна да прыметнікаў: першы, першая, першае; першага, першае(й), першага; першаму і г. д.

Лічэбнікі колькасныя скланяюцца адчасьці падобна да прадметнікаў, адчасьці падобна да прыметнікаў.

**§ 36. Адзін, адна, адно.**

| | *адзіночны лік:* | | | *множны лік:* (для ўсіх радоў) |
|---|---|---|---|---|
| Н. | адзін | адна | адно | адны |
| Р. | аднаго | аднае́, аднэй (ой) | аднаго | адных |
| Д. | аднаму | аднэй(ой) | аднаму | адным |
| В. | *як Н. або Р.* | адну | *як Н.* | як Н. або Р. |
| Т. | адным | аднэй(ой) | адным | аднымі |
| М. | адным | аднэй(ой) | адным | адных |

**§ 37. Два** (муж. і ніякі р.), **дзьве** (жан. р.):

| | | |
|---|---|---|
| Н. | два | дзьве |
| Р. | двох (двух) | дзьвёх (дзьвюх) |
| Д. | двом (двум) | дзьвём (дзьвюм) |
| В. | *як назоўны або родны* | |
| Т. | двама (двума) | дзьвяма (дзьвюма) |
| М. | двох (двух) | дзьвёх (дзьвюх) |

Таксама, як *два, дзьве,* скланяюцца ***абодва, абедзьве:*** абодвух, абедзьвюх і г. д.

Падобна **тры, чатыры**: тры, трох, тром, трыма, трох; чатыры, чатырох, чатыром, чатырма, чатырох.

**§ 38**. Пачынаючы ад **пяцёх** і да **трыццацёх,** лічэбнікі скланяюцца так:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Н. | пяць | дзесяць | трыццаць |
| Р. | пяцёх | дзесяцёх | трыццацёх |
| Д. | пяцём | дзесяцём | трыццацём |
| В. | | *як назоўны або родны* | |
| Т. | пяцьма | дзесяцьма | трыццацьма |
| М. | пяцёх | дзесяцёх | трыццацёх |

Пачынаючы ад **пяцьдзесят** і да **дзевяцьдзесят,** лічэбнікі зьмяняюцца, *як пяць*, або найчасьцей зусім не зьмяняюцца: з усімі пяцьдзесят людзьмі, з усіх дзевяцьдзесят снапоў і г. д.

**§ 39. Сорак, сто.**

| | | |
|---|---|---|
| Н. | сорак | сто |
| Р. | сараку | сту |
| Д. | сараку | сту |
| В. | *як Н.* | |
| Т. | саракма | стома |
| М. | сараку | сту |

**Лічэбнікі 200, 300, 400** і далейшыя або зусім *не зьмяняюцца*, або зьмяняюцца гэтак: дзьвесьце, д в у х с о т, двумстам, двумастамі, двухстах; трыста, трохсот, тромстам, трымастамі і г. д.

**§ 40. Абое, двое, трое, чацьвёра...**

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Н. | абое | двое | трое | чацьвёра |
| Р. | абаіх, абайга | дваіх, двайга | траіх, трайга | чацьвярох |
| Д. | абаім | дваім | траім | чацьвяром |
| В. | | як Назоўны або Родны | | |
| Т. | абайма | двайма | трайма | чацьвярма |
| М. | абаіх | дваіх | траіх | чацьвярох |

Таксама, як чацьвёра, скланяецца **пяцёра** і **далейшыя** (хоць часта яны зусім не зьмяняюцца).

**§ 41. Дробавыя лічэбнікі**, зложаныя з **паў-,** напрыклад: паўтара (муж. і ніякі р.), паўтары (жан. род), паўтраця, паўтраці, паўчварта, паўчварты, паўпята, паўпяты і г. д. — не зьмяняюцца.

**§ 42.** Трэба ведаць, што *абодва* ўжываецца для азначэньня толькі муж. і ніякога роду (абодва браты, абодва вакны); *абедзьве*—для жаноцкага роду (абедзьве сястры, абедзьве сахі); *абое* — калі рады памяшаныя (абое—рабое; кабыла лысая, жарабя рабое, зьеў воўк абое).

**Б.** *Перапісаць узоры скланеньня лічэбнікаў.*

## Лекцыя 18.

А. 1. Што такое займеньнік?

2. Прасклaняй: мой добры конь, гэты самы замок, сам гаспадар, увесь хлеб, усялякая работа, сама гаспадыня, тая прыгожая краска, гэтае дзіця, маё дабро, чыё пяро, хто такі, што такое.

**§ 43. Займеньнік.** Зьменная часьць мовы, што ўжываецца *заместа імені* прадметнага, прыметнага або лічэбнага, называецца **займеньнікам**. Вось часьцей ужываныя займеньнікі:

1. *Асабовыя*: я, ты, ён, яна, яно; мы, вы, яны.
2. *Зваротныя*: сябе і ся (мыюся).
3. *Прыналежныя*: мой, твой, свой, нашы (наш), вашы (ваш), іхны і інш.
4. *Паказальныя:* гэты, гэны, той, такі, гэткі і інш.
5. *Пытальныя*: хто? што? каторы? чый? і інш.
6. *Адносныя*: тыя самыя, што пытальныя, але бяз пытаньня.
7. *Азначальныя:* увесь, усякі, усялякі, кожны, сам, самы.
8. *Неазначальныя*: нехта, нешта, неякі (нейкі), нечый, хтось, штось, хтосьці, неякісь, чыйсь і інш.
9. *Адмоўныя*: ніхто, нішто, нічый, ніякі, ніводны і іншыя.

Б. *Перапісаўшы, падчыркні займеньнікі*:

Некаторыя расьліны жывуць вельмі доўга. Надвор'я нечага нагараваць. Нехта зламаў некалькі галін у садку — каб ён сабе шыю зламаў! На сваім кані, як хачу, скачу. Які дзякуй, такая і работа. Хто на чым сядзіць, той таго й глядзіць. Не бярыся не за сваё дзела. Чужая болька нікому не баліць. А хто там ідзе у вагромністай такой грамадзе? А што яны нясуць на сваіх плячах? А куды, куды гэту крыўду ўсю, а куды нясуць на паказ сваю? На сьвет цэлы. Ня пытай ні ў кога, дзе к шчасьцю дарога.

2. Навучыцца на памяць усе віды займеньнікаў (§ 43).

# Лекцыя 19.

А. 1. Якія віды займеньнікаў ведаеце? Пералічыце і дайце прыклады.

2. Узоры скланеньня якіх займеньнікаў пададзены у „Першым коле“ (бач ст. 24)?

3. Якія займеньнікі называюцца займеньнікамі 1-ай, 2-ой і 3-яй асобы?

## УЗОРЫ СКЛАНЕНЬНЯ.

### § 44. Сябе.

| | |
|---|---|
| Н. — | В. сябе |
| Р. сябе | Т. сабою(й) |
| Д. сабе | М. сабе |

Зваротнае **ся** асобна ня ўжываецца, а толькі з дзеясловамі: мыцца (мыць+ся), мыю-ся, мыеш-ся і г. д.

### § 45. Сам, сама, само; той, тая, тое; увесь, уся, усё.

| | *адзіночны лік:* | | | *множны л.* (для ўсіх р.) |
|---|---|---|---|---|
| Н. | сам | сама | само | самі |
| Р. | самога | самой, самае́ | самога | самых |
| Д. | самому | самой | самому | самым |
| В. | самога | самую | само | самых |
| Т. | самым | самою(й) | самым | самымі |
| М. | самым | самой | самым | самых |
| Н. | той | тая | тое | тыя |
| Р. | таго | тэй, тае́ | таго | тых |
| Д. | таму | тэй (той) | таму | тым |
| В. | *як Н або Р* | тую | *як Н.* | *як Н або Р* |
| Т. | тым | тэй (той) | тым | тымі |
| М. | тым | тэй (той) | тым | тых |
| Н. | увесь | уся | усё | усе |
| Р. | усяго | усей, усяе́ | усяго | усіх |
| Д. | усяму | усей, (усёй) | усяму | усім |
| В. | *як Н або Р* | усю | *як Н.* | *як Н або Р* |
| Т. | усім | усею(й), (усёю) | усім | усімі |
| М. | усім | усей, (усёй) | усім | усіх |

**§ 46. Хто, што.**

Н. хто, што — В. каго (кога), што
Р. каго(кога), чаго(чога) — Т. кім, чым
Д. каму, чаму — М. кім, чым

§ 47. Такія займеньнікі, як **нашы, гэны, кожны, які, такі** і інш., падобныя да прыметнікаў, скланяюцца, як прыметнікі: нашы, нашага, нашаму і г. д.

**§ 48.** Побач з поўнымі формамі — нашы, нашая, нашае; нашую, тую, самую; тою, тэю, усёю, усею, самою—ужываюцца і скарочаныя: наш, нашу, ту, саму, той, тэй, усёй, усей, самой.

Б. *Праскланяй на пісьме прыклады, памешчаныя у лекцыі 18 пад А. 2.* — мой добры конь, гэты самы замок і г. д.

## Лекцыя 20.

А. 1. Што такое дзеяслова? Што такое спражэньне? Што такое 1-ая, 2-ая і 3 асоба?

2. Праспрагай у цяперашнім часе: *бяру, думаю, раблю* і аддзялі асабовыя канчаткі ад асновы дзеяслова (бяр-у, бяр-эш, бяр-э і г. д.)

3. Праспрагай у прошлым і будучным часе *нясьці, прынясьці; рабіць, зрабіць.*

4. Як творыцца будучны час? Як творыцца прошлы час?

5. Што такое закончанае і незакончанае трываньне?

6. Сколькі ладоў і якія?

§ 49. **Дзеяслова** гэта зьменная часьціна мовы, што азначае *дзеяньне* або *стан* прадмету, напр.: пішу, кажу — дзеяньне; расту, жыву — стан.

Дзеяслова выражае такую *асаблівасьць* прадмету, якая *зьвязана з часам.*

Зьмена формаў дзеяслова ў часе, ліку і асобе называецца **спражэньнем.**

**§ 50. Асабовыя канчаткі.** Цяперашні час для кожнай асобы мае асобныя канчаткі, напр.: няс-**у**, няс-**еш**, няс-**е(ць)**; няс-ём, нес-**яцё**, няс-**уць**; ста-ю,

ста-**іш**, ста-**іць**, ста-**ім**, ста-**іцё**, ста-**яць**. Гэтыя канчаткі (тоўсты шрыфт) называюцца **асабовымі**.

УВАГА*. Больш правільна асабовыя канчаткі выдзяляюцца так: няс-**у**, няс- е -**ш**, няс- е -**ць**; няс- ё -**м**, сядз- і -**це**, сядз-**яць**; маўч-**у**, маўч- ы -**ш**... маўч-**аць** і г. д. Такім спосабам, асабовыя канчаткі будуць: **-у**, **-ш**, **-ць**, **-м**, **-це**, **-уць**, **-аць**. Галосныя е, ё, а, і, ы, э (бяр- э -ш), а (каж- а -ш), якія стаяць паміж асновай і канчаткам, трэба лічыць злучнымі устаўкамі. Гэтая устаўка аднесена да канчатку толькі дзеля упрашчэньня выкладу.

**§ 51.** Дзеясловы, што маюць у канчатку 2 ас. адз. ліку **-еш** (эш), а ў 3 ас. мн. л. **-уць** (юць), адносяцца да **першага спражэньня**, напр.: няс-**еш**, таўч-**эш**, няс-**уць**, таўк-**уць**, дума-**еш**, дума-**юць**.

Тыя дзеясловы, што маюць у 2 ас. адз. ліку **-іш**, **-ыш**, а ў трэцяй асобе множ. л. **-аць**, **-яць**, належаць да **другога спра жэньня**.

**Б.** *Праспрагай у цяперашнім часе і аддзялі рыскамі асабовыя канчаткі дзеясловаў:* жну, цягну, тачу, сяджу, іду, сплю, крычу, маўчу.

## Лекцыя 21.

**А.** 1. Што такое асабовыя канчаткі? Што такое першае і другое спражэньне?

### УЗОРЫ СПРАЖЭНЬНЯ.

**§ 52.** У спражэньні трэба адрозьніваць першае і другое спражэньне, прычым у кожным з іх ёсьць дзьве магчымасьці: 1) *асабовыя канчаткі пад націскам*, 2) *асабовыя канчаткі не пад націскам*. Вось прыклады спражэньня:

**Цяперашні час. Першае спражэньне.**

1) *асабовыя канчаткі пад націскам:*

| | *адзіночны лік:* | | *множны лік:* | |
|---|---|---|---|---|
| 1 ас. | няс-**у** | бяр-**у** | няс-**ём** | бяр-**ом** |
| 2 ас. | няс-**еш** | бяр-**эш** | нес-**яцё** | бер-**ацё** |
| 3 ас. | няс-е(**ць**) | бяр-э(**ць**) | няс-**уць** | бяр-**уць** |

2) *асабовыя канчаткі не пад націскам:*

| | *адзіночны лік:* | | *множны лік:* | |
|---|---|---|---|---|
| 1 ас. | дума-**ю** | каж-**у** | дума-**ем** | каж-**ам** |
| 2 ас. | дума-**еш** | каж-**аш** | дума-**еце** | каж-**аце** |
| 3 ас. | дума-**е(ць)** | каж-**а(ць)** | дума-**юць** | каж-**уць** |

## § 53. Цяперашні час. Другое спражэньне.

1) *асабовыя канчаткі пад націскам:*

| | *адзіночны лік:* | | *множны лік:* | |
|---|---|---|---|---|
| 1 ас. | сядж-**у** | маўч-**у** | сядз-**ім** | маўч-**ым** |
| 2 ас. | сядз-**іш** | маўч-**ыш** | сядз-**іце** | маўч-**ыце** |
| 3 ас. | сядз-**іць** | маўч-**ыць** | сядз-**яць** | маўч-**аць** |

2) *асабовыя канчаткі не пад націскам:*

| | *адзіночны лік:* | | *множны лік:* | |
|---|---|---|---|---|
| 1 ас. | пал-**ю** | гавар-**у** | пал-**ім** | гавор-**ым** |
| 2 ас. | пал-**іш** | гавор-**ыш** | пал-**іце** | гавор-**ыце** |
| 3 ас. | пал-**іць** | гавор-**ыць** | пал-**яць** | гавор-**аць** |

УВАГА 1. Ужываюцца і такія формы, як п а л е, г о н е, г а в о р а, падобна да будзе (заместа: паліць, гоніць, гаворыць).

УВАГА 2. Калі націск прыходзіцца на канчатак, то адразу відаць, каторае спражэньне: няс е ш, бяр э ш, няс у ць, бяр у ць; сядз і ш, маўч ы ш, сядз я ць, маўч а ць.

Але, калі націск прыходзіцца не на канчатак, то часта бывае няясна, які галосны трэба паставіць у канчатку. Тады бяром н е а з н а ч а л ь н і к. Калі ў канчатку неазначальніка стаіць **і** або **ы**, то гэта дзеяслова д р у г о г а спражэньня: рабіць — робіш, робіце, робяць; гаварыць — гаворыш, гаворыце, гавораць; а л е: казаць — кажа, кажаце, кажуць; думаць — думаеш, думаеце, думаюць і г. д.

**§ 54.** Некаторыя дзеясловы зрастаюцца з зваротным займеньнікам **-ся**: мыцца (мыць-ся), вясьціся і г. д. Пры спражэньні *-ся* дадаецца да слова: мыюся, мыешся, мыемся, мыецеся. Толькі ў 3 асобе і ў неазначальніку канчатак *ць-ся* зьліваецца ў *-цца*: ён мыецца, яны мыюцца, мыцца. Калі перад *-ца* стаіць зычны, то пішацца адно *ц*: здасца, ад'есца і г. д.

§ **55.** Дзеясловы *крыць, мыць, шыць, выць, рыць* спрагаюцца так: кры-ю, кры-еш, кры-е: кры-ем, кры-еце, кры-юць і г. д.

Б. *Праспрагайце*: іські, варыць, даваць, касіць, шыць, мыцца, біць, біцца.

## Лекцыя 22.

А. 1. Як будзе прошлы час: аддаць, касіць, скасіць?
2. Як будзе будучны час: касіць, скасіць, рабіць, зрабіць?
3. Якія дзеясловы маюць будучны просты, а якія будучны зложаны?

§ **56. Прошлы час.** Узоры спражэньня:

*адзіночны лік:*

| | | |
|---|---|---|
| 1 ас. | я | нёс, нясла, нясло |
| 2 ас. | ты | прынёс, прынясла, прынясло |
| 3 ас. | ён, яна, яно | нёсься, няслася, няслося прынёсься і г. д. |

*множны лік:*

| | | |
|---|---|---|
| 1 ас. | мы | нясьлі, прынясьлі... |
| 2 ас. | вы | |
| 3 ас. | яны | нясьліся, прынясьліся... |

УВАГА. Як бачым, прошлы час у адзін. ліку зьмяняецца ў родзе: нёс, нясл-а, нясл-о і г. д.

§ **57. Запрошлы час.** Часамі здараецца час *запрошлы*: я *быў зрабіўшы*, прынёсшы, пайшоўшы і г. д. (перш, чымся што другое здарылася).

§ **58. Будучны час** мае дзьве формы: *простую* і *зложную*.

Дзеясловы закончанага трываньня маюць будучны просты: *пайду, зраблю*; незакончанага—будучны зложны: *буду йсьці, буду рабіць* і г. д.

Простая форма спрагаецца таксама, як цяперашні час, напрыклад: я зраблю, ты зробіш, ён зробіць, мы зробім, вы зробіце, яны зробяць.

УВАГА. Дзеясловы закончанага трываньня цяперашняга часу ня маюць!

Зложная форма складаецца з будучным часам ад *быць* і неазначальнікам таго слова, што спрагаецца:

| *адзіночны лік:* | | *множны лік:* | |
|---|---|---|---|
| я буду<br>ты будзеш<br>ён, яна, яно будзе | рабіць<br>хадзіць<br>і г. д. | мы будзем<br>вы будзеце<br>яны будуць | рабіць<br>хадзіць<br>і г. д. |

Здараюцца формы будучнага часу, зложаныя інакш: рабіц**іму**, рабіц**імеш**, **рабіціме**; рабіц**імем**, рабіц**імеце**, рабіц**імуць**. Заместа *буду* тут ужыта дзеяслова *іму*.

**§ 59. Прадбудучны час.** Здараецца прадбудучны час: *я буду пайшоўшы, буду ўстаўшы* і г. д. (перш, чымся што другое зробіцца).

Б. *Перапісваючы, аддзялі асабовыя канчаткі дзеясловаў, канчаткі першага спражэньня падчыркні простай рыскай, а другога — пакручастай:*

Галоднаму асьцюкі ня колюцца. Гавораць, гамоняць, а ня ведаюць, дзе звоняць. І кормяць, і пояць, і вочы колюць. Глухі не дачуе, дык прыложыць. Далей паложым, бліжэй возьмем. Прочкі ходзяць без сарочкі. Калі не нажнём, то й не назьбіраем. Не ўрадзіў мак— перабудзем і так. Тады пабачым, як заплачам. Што пасееце, то й сажняцё. Многа можаш, ды мала ложыш. Ня там траціш, дзе купляеш, а там, дзе прадаеш. Кравец шые, а каваль куе. Улетку сонца падымаецца высока і сьвеціць доўга. Рыечка рые, а скачка шчабеча (сьвіньня і сарока). Чуецца ў Нёмнавай гутарцы жаль. Саломеным валом не араць, а сенным канём не ваяваць.

## Лекцыя 23.

А. 1. Як будзе загадны лад ад: хваліць, хваліцца, калоць, браць, брацца, памагаць, памагчы, даць, мець, кінуць, кідаць, прамаўляць, прамовіць, піць, біць?

2. Ці мае загадны лад форму 1 асобы адз. ліку?

3. Скажы колькі прыкладаў загаднага ладу. Як ён творыцца?

## § 60. **Загадны лад**. Узоры спражэньня.

| *адзіночны лік:* | *множны лік:* |
|---|---|
| 1) 1 ас. — — | няс-е́-ма, бяр-э-ма |
| 2 ас. няс-і, бяр-ы | няс-е́-це, бяр-э-це |
| 3 ас. **няхай** нясе(ць), бярэ(ць) | **няхай** нясуць, бяруць |
| 2) 1 ас. — — | бразьн-е-ма, сьвісьн-е-ма |
| 2 ас. бразьн-і, сьвісьн-і | бразьн-е-це, сьвісьн-е-це |
| 3 ас. **няхай** бразьне, сьвісьне | **няхай** бразнуць, сьвіснуць |
| 3) 1. ас. — — | чу-й-ма, лі-й-ма |
| 2. ас. чу-й, лі-(й) | чу-й-це, лі-й-це |
| 3. ас. **няхай** чуе, ліе | няхай чуюць, ліюць |
| 4) 1 ас. — — | кінь-ма, еж-ма |
| 2 ас. кінь, еж | кінь-це, еж-це |
| 3 ас. няхай кіне, есьць | няхай кінуць, ядуць |

Першай асобы адз. ліку загадны лад ня мае.

Другая асоба адз. ліку мае такія канчаткі:

1) **і, ы** пад націскам — нясі, хвалі, калі, мані (маніць), мялі, сушы, бяры, памажы, валачы і інш.

2) **і, ы** не пад націскам — вымі, бразьні, выбяры, выгавары...

3) **й** пасьля галоснага — дай, гуляй, мей (май), чуй, стой (стаі), крый, мый, шый і інш. (формы лі, бі, ві, пі заместа лій, бій, вій, пій);

4) *зычныя мягкі* і *ацьвярдзеўшыя*—кінь, сядзь, лезь, еж, рэж, калеч, скоч, саромся... (таксама: прамоў).

Калі да гэтых формаў дадавім канчатак **-ма** (або **м**), то дастанем 1-ую асобу мн. ліку. Пры гэтым у дзеясловах, як *нясі*, *бяры*, *бразьні* (1 і 2 узоры) трэба замяніць *і* на *е*, *ы* на *э*: нясі, нясема, нясеце; бяры, бярэма, бярэце; бразьні, бразьнем(а), бразьнеце і г. д.

Трэцяя асоба складаецца з **няхай** або *хай* і трэцяе асобы цяперашняга часу: няхай (хай) ён, яна, яно кажа, няхай (хай) яны скажуць.

**Б.** Сьпісваючы аддзялі канчаткі загаднага ладу:

Э, што! Бывайце, людзі, жывы! Дзе толькі торба і мой кій? Гэй, сыпма далей, там, на нівы, хоць гром

грымі, хоць віхар вый! Ня трацьце марна часу! Ня верце, а прымерце. Падступецеся бліжэй, пакланецеся ніжэй. Не кажэце, шэры гусі, што я тут гарую, а скажэце, шэры гусі, што я тут паную. Пазычаны хлеб еж ды аглядайся. Кіньце стрэльбу й вуду, і я ў вас буду. Што сабе ня міла, то й другому ня зычце. Вярнецеся, маладыя леты, хоць да мяне ў госьці! Адважна, брацьця, наперад ідзеце цьвёрдай і правай ступою, кожнаму ў вочы сьмела глядзеце, праўду нясеце з сабою. Пі горкае, еж кіслае: і памрэш — ня згніеш.

## Лекцыя 24.

**А.** 1. Праспрагай у прошлым часе: ісьці, пайсьці, рабіць, зрабіць, спаткацца, знайсьціся.

2. Якія формы дзеяслова маюць род?

**§ 61. Умоўны лад** дастанем прыставіўшы дапаможнік **-бы** або **-б** да прошлага часу. Напрыклад:

я *пашоў*-**бы**, *пашла*-**бы**, *пашло*-**бы**; ты *пашоў*-**бы** і г. д.

Мы *пашлі*-**бы**(б); вы *пашлі*-**бы**(б), яны пашлі-**бы**(б).

Дапаможнік -бы(б) можа стаяць не пры дзеяслове, а пры іншым слове ў сказе, часам можа замяняцца словам *каб*, якое стаіць асобна. Напрыклад: Які-*б* то быў крук, *каб* выпусьціў з рук (= які то быў-*бы* крук, каб выпусьціў-*бы* з рук).

**Б.** 1. *Перапісаўшы падчыркні умоўны лад*:

Вагар стаў-бы пераліваціца цераз край, і нам не ўдалося-б вярнуцца на бераг, асабліва калі недалёка ад берагу ёсьць падводнае каменьне. Што-б было з нашай чайкай, калі-б мы ехалі ў часе буры па моры? Ня зыч ліха другому, каб не давялося самому. Каб воля, знашоў-бы сабе поле. Касіць-бы касіў, калі-б хто касу насіў. Хто-бы дзятла ведаў, каб не яго доўгі нос? Каб ня ежка, не адзежка, дык была-бы грошай дзежка. Мы-б мо' і ня крыўлялі, каб павадоў і пуг ня зналі. Ня было-б тут пастуха, ваўкі перадушілі-б авечкі. Хоць і ведаў-бы, нічога не сказаў-бы.

2. Паўтарыць §§ 52, 53, 54, 55.

## Лекцыя 25.

A. 1. Перарабі сказ так, як паказана ў першым прыкладзе:

майстры будуюць дом — дом будуецца майстрамі;
куля разьбіла вакно — ? . . . . . . . ?
каваль куе серп — ? . . . . . . . ?
Купала напісаў „Паўлінку“ — ? . . . . . . . ?

2. Заместа *мыюся* можна сказаць *мыю сябе*. Ці можна аддзяляць *ся* і замяніць на *сябе* у такіх дзеясловах: чашуся, зачыняюся, паддаюся, замачуся, скрабуся? Скажыце самі колькі падобных дзеясловаў!

3. Ці можна, напрыклад, *сустракацца, цалавацца, абымацца* з самым сабой ці абавязкова з *кім*, з *чым*? Скажыце колькі падобных дзеясловаў.

**§ 62. Станы.** Некаторыя дзеясловы могуць мець розныя станы: *б'ю, біты, б'юся; раблю, роблены, раблюся; мыю, мыты, мыюся* і г. д.

Усе гэтыя дзеясловы маюць тры станы: **дзейны** (або актыўны), **залежны** (або пасыўны) і **сярэдні**.

Дзейны стан паказвае, што нейкая асоба або рэч сама нешта *дзеець*, і яе дзеяньне *пераходзіць* на другую рэч (*пераходнае* дзеяньне): куля *разьбіла* вакно, майстры *будуюць* дом і г. д. Дзеясловы *разьбіла, будуюць* выражаюць дзейны стан — пераходнае дзеяньне. Пасьля дзейнага стану можна паставіць пытаньне *каго? што?* (вакно, дом — вінавальны склон!).

Калі-ж скажам: вакно *разьбіта* куляю, дом *будуецца* майстрамі; „Паўлінка“ *напісана* Купалам, то будзем мець залежны стан. Пры ім стаіць пытаньне *кім? чым?* (куляю, майстрамі, Купалам—творны склон!).

Сярэдні стан складаецца з дзейнага і займеньніка *-ся* і азначаець або *зваротнае* дзеяньне (мыюся, чашуся = мыю сябе, чашу сябе), або *супольнае* (цалуюся, сустракаюся — з кім? з чым?)

Ад іншых дзеясловаў нельга тварыць розных станаў, напрыклад: іду, сплю, баюся, сьмяюся. Нельга сказаць *каго? што?* іду, сплю. Нельга аддзяляць *-ся*, бо няма дзеясловаў „баю“, „сьмяю“. Аб такіх дзеясловах можна сказаць, што яны *ніякага* стану.

Б. *Перапісаўшы, азначыць стан дзеясловаў (надпісаць):*

**Будучыня.** Кіпіць работа, плыве пот, і крык, і гул, як гром; туды-сюды снуе народ: будуюць новы дом. Лапаты рэжуць глыб зямлі, зьвініць сталёвы лом: на месцы даўнай старыны будуюць новы дом. Штодзень угорку сьцены йдуць ушыр і ўдож кругом; баліць мазоль і рвецца грудзь, а ўсё-ж будуюць дом! Настане дзень, надыйдзе час, мы крэпку столь зьвядзём, і лепшай прышласьцю для нас быць мусе новы дом! Працуйма-ж, брацьця! Хай хутчэй пальецца пот цурком: прыжджом і мы сьвятлейшых дней, як скончым строіць дом! (*У. Галубок*).

Як мы любіліся, як кветкі ў папары, цяпер разышліся, як цёмныя хмары. Трудна зьвярнуцца ў бядоце. Голадам змораны, цемраю скручаны, працай няўмернай забіты, замучаны, моўчкі бяз скаргі канчае свой век!

## Лекцыя 26.

А. 1. Утварыце прадметнікі ад такіх дзесловаў: тварыць, карміць, жыць, біць.

2. Ад тых-жа дзеясловаў утвары прыметнік з устаўкамі **-уч, -юч, -т, -ен, -ан.**

3. Што маем у такіх прыкладах: сяджу *чытаючы*; прыду *прачытаўшы* — дзеяслоўную прымету ці дзеяслоўнае прыслоўе?

**§ 63. Дзеяслоўны прадметнік, дзеяпрыметнік, дзеяпрыслоўе.** Ад дзеяслова можна ўтварыць іншыя часьціны мовы: дзеяслоўны прадметнік, дзеяслоўны прыметнік або **дзеяпрыметнік** і дзеяслоўнае прыслоўе або **дзеяпрыслоўе.**

Дзеяслоўны прадметнік **з часам** ня зьвязаны і ад іншых прадметнікаў ня розьніцца, напр.: твор, тварэньне, корм, кармленьне, жыцьцё, біцьцё, журбота, згрызота і г. д.

Дзеяпрыметнік і дзеяпрыслоўе тым розьняцца ад звычайнага прыметніка і прыслоўя, што паказваюць на час, як дзеяслова, напрыклад: чытаючы, ідучы (цяпер. ч.); чытаўшы, ішоўшы (прош. ч.)

**Дзеяпрыметнік** у форме цяпер. часу ўжываецца рэдка: чытаць — чытаю-чы(й), чытаючая, чытаючае.

У прошлым часе дзеяпрыметнік мае ўстаўкі: **-ўш**, **-л**, (дзейны стан), **-т** і **-н** (залежны стан). Напрыклад: рабіць, біць — рабіўшы, -ая, -ае; роблены, -ая, -ае; біўшы, -ая, -ае; мінуць—мінулы, -ая, -ае; біты, -ая, -ае; чытаць—чытаўшы, -ая, -ае, чытаны; купляць—купляўшы, -ая, -ае; купляны, -ая, -ае.

Дзеяпрыметнік зьмяняецца ў радох і скланяецца, як прыметнік. Напрыклад: чытаючы(й), ая, ае; чытаючага, чытаючае, чытаючаму і г. д. (Да таго: зьмяняецца ў часе—чытаючы(й), чытаўшы(й) і мае станы: чытаўшы(й), ая, ае, чытаны, ае, ае).

**Дзеяпрыслоўе** мае нязьменныя формы цяпер. і прошлага часу і можа быць у стане дзейным і залежным. Напрыклад:

| | дзейны стан | залежны стан |
|---|---|---|
| цяпер. ч. | сьледзя чы | будучы сьледжаным, -ай, -ым |
| прош. ч. | сьлядзі-ўшы | быўшы сьледжаным, -ай, -ым |

Формы залежнага стану ўжываюцца рэдка. Дзеяслоўная прымета не скланяецца і не спрагаецца і падобная да прыслоўя (*дзеяпрыслоўе*).

**§ 64.** Формы на *-учы*, *-ючы*, *-ачы*, *-ячы* выводзяцца ад 3 асобы множ. ліку: у 1-ым спражэньні канчаюцца на *-ўшы*, *-ючы*, у 2-ім на *-ачы*, *-ячы*: бяруць, думаюць — бяручы, думаючы; гавораць, стаяць — гаворачы, стоячы.

**Б.** *Перапісаўшы, падчыркні дзеяслоўны прадметнік простай рыскай, дзеяпрыметнік пакручастай і дзеяпрыслоўе дзьвяма простымі:*

Звон магучы, звон бліскучы, з срэбра літы, з злота зьбіты, загрымі ты, загрымі! І на вайне ёсьць замірэньні, і на моры пагода. Пан Шабуневіч, седзячы ля

ваконца, падшывае дратвай перады. Пушча сьпіць у зачарованым сьне. Прыдзеце вы, добрыя, вечна кахаючы, шчасьце вы сьвету даруйце! Прыдзеце вы, моцныя, бураю званыя, ворагам гібель грымеце! Ой, пайду я гукаючы, сваю долю шукаючы. Гоенае раны ня трэба дражніць. Мудраваньне — дураваньне. На чужы лоб шыбаючы, трэба і свой падставіць. Пасеяўшы на усходу, не чакай харошага плоду. Каяньне позна хадзіць. Пазычаны хлеб еж ды аглядайся. Паміж пяскоў Эгіпецкай зямлі, над хвалямі сінеючага Ніла ўжо колькі тысяч год стаіць магіла: ў гаршку насеньня жменю там знайшлі. Ёсьць чары у забытым, старадаўным; прыемна нам сталецьцяў пыл страхнуць, пажыць мінулым — гэткім мудрым, слаўным, быцьцё дзядоў у смутку ўспамянуць.

## Лекцыя 27.

**А.** 1. Праспрагайце дзеясловы *есьці, даць, быць.* Ці яны спрагаюцца так сама, як іншыя дзеясловы?

§ 65. Дзеясловы **есьці**, **даць**, **быць** маюць асобнае спражэньне:

| | *адзіночны лік* | | *множны лік* | |
|---|---|---|---|---|
| 1 ас. | ем | дам | ямо | дамо |
| 2 ас. | ясі | дасі | ясьцё | дасьцё |
| 3 ас. | есьць | дасьць | ядуць | дадуць |

*Ем*—гэта цяперашні час, *дам*—будучны час.

**Быць** мае у цяперашнім часе толькі форму 3-е асобы адзіночнага ліку: **ёсьць** (або кароткае **ё**). Гэтая форма адносіцца да ўсіх трох асоб абодвух лікаў.

**Загадны лад**: еж, дай, будзь, няхай есьць, няхай дасьць, няхай будзе; ежма, дайма, будзьма, ежце, дайце, будзьце; няхай ядуць, дадуць, будуць.

Астальныя формы складаюцца звычайна.

**Б.** 1. *Праспрагай* **есьці, даць, быць** *у прошлым і будучным часе; утвары ад іх формы дзеепрыметніка і дзеепрыслоўя; утвары умоўны лад.*

2. Як будзе неазначальнік такіх дзеясловаў: **жну**, ганю, таўку, даю (2 розныя неазначальнікі), б'ю, п'ю, нясу, вязу, пляту, вяду, пякуся, кусаюся?

3. Утвары ад гэтых дзеясловаў дзеяпрыметнікі і дзеяпрыслоўі.

## Лекцыя 28.

А. 1. Пакажы прыслоўі ў пададзеных сказах: Даўно ўжо целам я хварэю. Поруч раскідаліся родныя вёскі. Усюды панурыя людзі. Калісь глядзеў на сонца я.

2. Што выражае прыслоўе і да чаго адносіцца ў сказе? (гл. „Першае кола § 27).

§ 66. **Прыслоўе** — гэта нязьменная часьціна мовы, што азначае розныя *акалічнасьці: месца, часу, прычыны, спосабу*. Прыслоўі выражаюць асаблівасьці асаблівасьцей.

Паводле свайго значэньня прыслоўі дзеляцца на:

прыслоўі *месца* (на пытаньне *дзе?*): там, туды, адтуль, адкуль, тут, гэнам, вун, блізка і інш.;

прыслоўі *часу* (на пытаньне *калі?*): цяперака, сёньня, летась, пазаўчора, учора і інш.;

пуыслоўі *прычыны* (на пытаньне *чаму?*): таму, чаму, дзеля і інш.;

прыслоўі *спосабу* (на пытаньне *як?*): добра, глыбока, вельмі, дужа і інш.

§ 67. Большасьць прыслоўяў — гэта акасьцянелыя формы зьменных часьцін мовы: прадметніка, прыметніка, займеньніка, лічэбніка, дзеяслова.

Вось некаторыя прыслоўі *ад розных склонаў*:

1) добра, борзда, сьцюдзена і г. д., вось, як, так, колькі, толькі, нельга, летась, зараз, уперад, назад, уздоўж, удоўж, удоўжкі, ушыркі, увышкі, увелькі, насустрэчу, наўзавады, нацямкі і інш. — усё гэта формы назоўнага і вінавальнага склону.

2) сёлета, сёньня (сяго-дня), учора, заўтра, зраньня, змалку, здалёку, дагары, звонку і інш. — формы роднага склону.

3) памаленьку, пабеларуску, панямецку і інш.— формы дав. скл.

4) разам, часам, сілком, кумілем, пехатой і інш.— формы твор. скл.

5) балазе, годзе, запраўды, наадзіноцы, потым, улетку, узімку, папацёмку, паасобку, напотым, уваччу, вонках і інш. — формы месн. склону.

Прыслоўі *ад дзеясловаў*: няма, нямаш (ня мае, ня маеш), загадзя, наўмысьля, адумысьля, спакваля (пачакаўшы), мусіць, відаць, можа, дзякуй, маўляў і інш.

Шмат прыслоўяў мае свае асобныя прыслоўныя *канчаткі* (*-дзь*, *-дэю*, *-ма*, *-мі*, *-ль*, *-лі*, *-ка*, *-кі*, *-оў*, *-чы*, *-ча* і інш): куды, туды, усюды, тады, заўсёды; кудэю, тудэю, сюдэю; кудэма, тудэма, сюдэма; бягма, ляжма, дарма, тойма; вельмі; адкуль, пакуль, дасюль, скуль; калі, ніколі; тутака, тамака, цяперака, ёсьцека, нямашака, тутачка, тамачка; толькі, колькі, гэталькі, далоўкі, дамоўкі; далоў, дамоў; надоячы; апрача, аберуч, насустрэч, некалісь, дзесь, калісь, некалісьці, дзесьці, калісьці; пааднойчы, двойчы, тройчы і шмат іншых.

Адмоўнасьць **не** (ня) і **ні** адносім да прыслоўяў. Напрыклад: Ці ты прыдзеш да мяне? — Або так, або не. Не, ня прыду. Ня ўмее ні чытаць, ні пісаць.

**§ 68.** Некаторыя прыслоўі маюць **ступені прыраўнаваньня**:

добра — лепш, ляпей; найлепш, найляпей;
блага — горш, гарэй; найгорш, найгарэй;
многа, шмат — больш, балей; найбольш, найбалей;
мала — менш, меней; найменш, найменей;
скора — скарэй; найскарэй;
бела — бялей; найбялей і г. д.

**Б.** *Перапісаўшы, падчыркні прыслоўі:*

Спачатку яно шалясьцела вельмі нясьмела, а потым лізнула ваконца ціха, як сонца. І пуста-ж, пуста

ў гэтым лесе! Нідзе дарогі не найці; вось тут абсохні і сагрэйся, найдзі дарогу ў бяспуцьці. Я помню ўсё было іначай: папас ты меў тут, як папас; нічога воз гальля ня значыў, агонь ня зводзіўся, ня гас. Запраўды, так гавора важна. — Я ўжо-ж ганяюць не здарма! — І песьню так пяе працяжна!... Душу, здаецца, рве яна. — Я ці ты помніш усю чыста? Сонца зранку жарам пыша, ветрык лісьце чуць калыша, вее чуць паўзьверх зямлі.

## Лекцыя 29.

**Я.** 1. Якія часьціны мовы самастойныя, а якія не?
2. Што такое прадлог? Якая сувязь паміж прадлогам і склонам?

УВАГА. Усё гэта ўспомніць з „Першага кола" §§ 29 і 30.

**§ 69. Прадлог** — гэта такая нязьменная несамастойная часьціна мовы, што азначае залежнасьць паміж прадметамі або кірунак дзеяньня: кніжка ляжыць *на* стале; вучань падышоў *да* дошкі і г. д.

*Прадлог кіруе склонам*, найчасьцей адным, але часам двама і трыма, напрыклад:

*родн.* — без (бяз), для, дзеля, да, з-за, з-пад, каля, апрача, у і інш. (без работы, для суседа, дзеля сьвята, да хаты, з-за вугла, з-пад хаты, каля лугу, апрача таго).

*дав.* — к: к хаце, к лесу (але часьцей кажацца *да* хаты, *да* лесу).

*він.* — пра, праз, цераз, скрозь і інш. (кажу пра тое, згінуў праз сваю нядбаласьць, ішоў цераз поле, скрозь хмары цёмныя).

*твор.* — над (над зямлёй, над полем і г. д.).

*мес.* — пры, па (пры дарозе, па лясох, па дарогах і г. д.).

*він.* і *твор.* — за, пад, перад, прад і інш. (за яго, за ім, пад стол, пад сталом, перад дом, перад домам, прад домам).

*він.* і *мес.* — у, на, аб і інш. (у лес, у лесе, на стол, на стале, кінуць аб стол, гаварыць аб стале).

*родн.*, *вінав.* і *мес.* — з (вярнуўся з работы, сабака ўвелькі з ваўка, з сахою).

УВАГА. З дзеясловам і прыслоўем прадлог пішацца разам. (гл. „Першае кола“ § 30 і 31).

Б. *Улажыць 10 сказаў на розныя прадлогі і склоны.*

## Лекцыя 30.

А. 1. Што такое злучнік?

2. Перад якімі злучнікамі ставіцца коска? („Першае кола“ § 40).

**§ 70. Злучнік** гэта несамастойная і нязьменная часьціна мовы, што злучае розныя словы ў сказе або самыя сказы, напр.: былі ў іх сын *і* дачка; нямей сто валоў, *а* мей сто другоў.

Вось найчасьцей ужываныя злучнікі: і, а, але, бо, або, альбо, ці, да, ды, дык, -жа, аж, ажно, каб, ані, адно, няхай (хай), аднолька, аднак, навет (нават), хіба, няўжо, чымся, прынамся, хоць, хаця, калі, чаго, чаму, таму, нашто, зашто, затое, затым, быццам і інш.

Як відаць, у значэньні злучнікаў часта ужываецца займеньнік — што, чаго, чаму і інш., часам у злучэньні з прадметам: зашто, затое, нашто, натое і інш.

Некаторыя злучнікі выводзяцца з дзеясловаў: бадай (баг-дай—бог дай), быццам (ад быць), няхай, хоць, хаця і інш.

У значэньні злучнікаў могуць ужывацца і прыслоўі: калі, аднак, прынамся і інш.

**§ 71.** Злучнікі пішуцца разам, напр.: няхай, ажно, няўжо, *нашто*, *зашто*, *зотое*, *затым*. Такія злучнікі трэба адрозьніваць ад займеньнікаў з прадлогамі, што пішуцца асобна. Напрыклад:

*Затым* казак гладак, што пад'еў ды на-бак. Кося, кося, *штоб* толькі злавіць удалося. *Адтаго* і пагалелі, што салодка пілі, елі. За *тым* домам быў вялікі сад. Ад *таго* месца недалёка да хаты.

Б. *Перапісаць, падчыркнуць злучнікі, паставіць націск і зьвярнуць увагу на знакі прыпынку:*

Болей слухай, а меней гавары. Бяда бяду вядзе, а трэцяя паганяе. Бяда, што ня п'ецца й вада. Гол, як сакол. І без папа ведама, што ў нядзелю сьвята. Калі ўмалотна, дык і завозна. Не бяда, што чорна, абы была праворна. Няма тае хаткі, каб ня было звадкі. Расьце добра і прыгожа, ажно глянуць міла. Абы дзень прашоў ды да нас дашоў (*ды* = *і*). Блізка відаць, ды далёка дыбаць (*ды* = *але*). Свае бяды нікому не кажы, бо добры зьлякнецца, а злы пасьмяецца. Збожжа сушаць на сонцы ці на печы ды мелюць у жорнах ці ў млыне. Ці-то птушка тая кінула зярнё, ці-то занялося бураю яно? За што купіў, за тое й прадаў. Зато й прапаў, што ня дбаў. Нашто дарма сабак дражніць! На што надзець кола, калі восі зламалася.

## Лекцыя 31.

А. 1. Што такое выклічнік?

2. Якія ведаеце выклічнікі?

3. Ці выклічнік самастойная часьціна мовы: ці ён сам па сабе нешта выражае?

**§ 72. Выклічнік** — гэта зусім самастойная часьціна мовы: ён заключае ў сабе часта як-бы цэлы не распрацаваны і не падзелены на састаўныя часьці сказ: Куга-куга-куга! данасілася з хаты. Дзеля гэтага выклічнікі выдзяляюцца знакамі прыпынку: клічнікам (!) і коскай.

Клічнік ставіцца ў тых разох, калі вы кліч выражаеце толькі выклічнікам, а ня ўсім сказам, напр.: *Ат! зьясі пасаліўшы. Куга! я табе ня слуга.* Калі-ж кліч выражаецца ўсім сказам, то пасьля выклічніка ставіцца коска, а ў канцы сказу — клічнік ці пытальнік. (*Ох, лепей у двох! Эх, скручу я дудку! Ну, што далей будзе?*).

Калі выклічнік стаіць перад займеньнікам або толькі памацняе слова, перад каторым стаіць, то ў такіх разох звычайна знакам не аддзяляецца. Напр.:

*Ой* пайду я лугам, лугам. Чую, *ах чую* той неўгамонны расходзісты звон! Ой ты, вецер, ня шумі!

Калі выклічнік зьяўляецца нейкай часьцінай сказу, то знакамі не выдзяляецца. Напр.: А сабака *хап* злодзея за палу (*хап* — выказальнік). Не кажы *тпру*, не злавіўшы. (*тпру* — дапаўненьне).

Складаныя выклічнікі злучаюцца злучком: *дррон-дррон! дзын-дзын-дзын*! і г. д.

Б. *Перапісаўшы, паставіць нацыскі, падчыркнуць клічнікі і зьвярнуць увагу на знакі прыпынку*:

Эх ты, Нёман-рака! Ах, як стрэлка марудна ідзе! Дружна, з ахвотай, гэй, за работу скарэй! Штось прамовіць: шу-шу-шу! і заціхне, бы баіцца памыліцца і сказаць што-небудзь лішне. Дррон-дррон! ціха бразгаціць. Гэй, мой конік! гэй, мой сівы! ну, яшчэ, маленькі! Варушыся, гэй, ня бойся, конік мой сівенькі! Эх ты, поле! колькі сілы тут затраціць трэба! Ой, неба гладзь далёкая, крыштальная, глыбокая! О, песьню важную такую ня пойме толькі гліны ком... О, люд мой лапатны, патульны, за што цябе я так люблю? О не, зусім ня так! Э, што!... Бывайце, людзі, жывы! Ой, крыўда чалавечая, вякамі ты расла, пажарамі і мечамі пaслася, як магла. Ой у полі каліна стаіць! Ой чуць, маці, чуць, дзе малойцы йдуць! Ой, коню, мой коню, заграй падамною! Гайда сьцежкі пракладаць. Брысь пад печ! Скажы на майго каня тпру, а то мае губы пазяблі.

---

# Правапіс.

**§ 73.** Беларускі правапіс апіраецца на асноўных правілах: 1) аб пісаньні галосных і 2) пісаньні зычных.

**Галосныя** пішуцца так, як вымаўляюцца (*гукавая* або *фонэтычная* аснова): сталы, валы, сьцяна, лясы і г. д., а не столы, волы, сьцена, лесы, хоць: стол, вол, сьцен, лес і г. д.

**Зычныя**, наадварот, пішуцца гледзячы на паходжаньне (*этымолёгію*) слова. Напрыклад, пішам: *мёд*, *калодка*, *падтрымаць*, *мыешся*, а ня *мёт*, *калотка*, *паттрымаць*, *мыесься* (як чуваць), бо, зьмяніўшы слова, маем: *мёду*, ***калодак***, ***пад*** *ім*, *мые**ш***.

Аднак ад гэтых правілаў здараюцца дзе-ня-дзе адступленьні. Выясьненьнем асноўных правілаў пісаньня і адступленьняў ад гэтых правілаў займаецца **правапіс**.

Сьпярша займёмся галоснымі, а пасьля зычнымі.

**§ 74. Аканьне.** Што такое аканьне (яканьне)— глядзі „Першае кола“ § 54, лекцыя 48.

У *цьвёрдых складох* перадача аканьня на пісьме не выклікае труднасьці. Прынята вельмі простае правіла: **о** і **э** пішуцца толькі пад націскам: г**о**ра, р**э**кі... У складох не пад націскам на іх месцы пішацца **а**: гарава́ць, рака́. Ад гэтага правіла робіцца адступленьне толькі ў чужаземных словах.

Правіла аб аканьні (яканьні) у мягкіх складох куды больш труднае, бо там **не** заўсёды **е** замяняецца на **я** у складох не пад націскам.

Трэба адрозьніваць склады перад націскам і склады пасьле націску. Склады, што перад націскам, лічацца справа налева ад націску у такім парадку, як паказвае стрэлка і цыфры над складамі:

3. 2. 1.

пе - ра - ва ←—— ра́ ——→ ча - ва - ны

склады перад націскам. склады пасьле націску.

Гэта трэба добра зразумець, бо „яканьне“ іначӑй праведзена у складох перад націскам, як у складох посьле націску.

**Заданьне.** Пададзеныя словы разьдзяліце на склады, пастаўце націск і цыфрамі азначце парадак складоў перад націскам (як у слове *пе-ра-ва-***ра***-ча-ва-ньы*): велічыня, верацяно, цецярук, пераварот, церазпалосіца, зеленаватыя, бярэзіна, бяда.

**§ 75. Склады перад націскам.** 1) У *першым складзе* перад націскам на месцы **е** заўсёды пішацца **я**, напр.: бя-ду-ю, бя-да, ня-ма, вя-ду, сьля-джу, ля-жыць не-вя-до-мы бя-дак і г. д.

Увага. Прынята пісаць я і тады, калі пад націскам стаіць а (я): бяда, сялян. Трэба ведаць, што ў некаторых гутарках беларускай народнай мовы (паўночны-усход) аканьне (яканьне) тут выступае толькі тады, калі ў складзе пад націскам стаіць не а (я); калі-ж пад націскам стаіць а (я), то е замяняецца на і (іканьне), а о на гук блізкі да ы. Такім спосабам скажуць: біда, міняць, гыра; але: бяду, бядзе, зьмяніць, з гары і г. д.

2) У *другім складзе* **е** замяняецца на **я** (а) толькі тады, калі ў першым няма *а* або *я*: ля-су-на́, бя-ду-на́, ня-ву-чо́-ны, ня бы-ла́, бяз дзі-ця-ці і г. д.

Калі-ж у першым складзе ёсьць **а (я)**, то ў другім пішацца е: це-ця-рук, ле-са-вік, не знай-шла, не ма-гу, не ха-чу, без мя-не і г. д.

У *трэцім* і далейшых складох (лічучы ад націску налева) **е** ніколі не замяняецца на **я**: ве-ра-ця-но, без ве-ра-ця-на, цераз верацяно, не вы-пус-кай і г. д.

Але ў такіх словах, як *сьвяткаваць, ясакар, языкаваты, якаво*, дзе *я* (а) асноўнае: сьвята, як... — **я (а)** захоўваецца бяз ніякае зьмены.

**Заданьне.** *Сьпісаць і паставіць, дзе трэба, літары* **я** *або* **е**: Аб╳цанка цацанка, а дурному—радасьць. Уся с╳мейка сьпіць ды спачывае. Абы б╳да, а шыя будзе. Баіцца ён ц╳бе, як воўк ╳гняці. Бачыць вока, дзе п╳чэцца кока. С╳нажаць ужо скошана. Мой брат любіць пал╳ваньне. На дарозе л╳жала тоўстае б╳рвяно. За белым бярэзьнічкам талалай брэша. Птушкі п╳расталі сьп╳ваць. В╳снавая кветка. Пры гасьцінцы стаіць в╳кавечны курган. Сьн╳гавая вада ня чыстая. С╳л╳нін арэ сваё поле. Усьлед думкам н╳спакойна вецер падпявае. Як у нашага суседа ды в╳сёла б╳седа. Будзе кій, ды н╳ такі. Ня слухаеш ківа,

паслухаеш кія. Н╳ вялікая б╳да, што б╳з рыбы с╳рада.

**§ 76. Склады посьле націску.** У мягкіх складох посьле націску пішацца е, напрыклад:

1) у розных *устаўках* (суфіксах) — восень, камень, грэбень, песьня — песень; верасень, ліпень, бродзень...

   вучыцель, прыяцель, мучыцель, крыўдзіцель, прыяцельства...

   сіненькі, міленькі, цёпленькі...

   злодзей, дабродзей; лецейка, сонейка; болей, меней...

   зроблены, утаены; голадзен, бедзен; сасна — сосен, палоцен...

   хлопец, падшыванец, эўрапеец, галадранец, кітаец...

   промысел, бусел; хіцер, мудзер, Зьміцер; дзевер, (колер), возера...

   маленечкі, соўнечка, лецечка, дзецечка, колешні, якіколечы,

2) у *канчатках*, дзе **е** граматычна адзначана:

   у хаце, садзе, лесе і г. д. (*як* у бядзе, гарудзе...)

   сіняе поле, добрае здарэньне... (адзначае ніякі р.)

   звычаем, локцем, полем, вясельлем (твор. скл. адз. л., а звычаям, локцям і г. д. — давальны скл. мн. л.);

   коней, песьней, песень; кросен, палоцен; жнеек, лялек і г. д.

   сяляне, мяшчане, панове... (але *брацьця*);

   браце, Іване, голубе, дубе і г. д. (клічны склон);

   відзець, выглядзець; думаеш, думае, думаем, думаеце; думаець; часамі: *робе*, *ходзе* (заместа: робіць, ходзіць);

   прыслоўі на **е**: пагатове, посьле, пэўне, тымчасове...

УВАГА. Калі ў слове націск на прыстаўцы (найчасьцей вы-), то „яканьне“ можна азначаць так, як быццам слова стаіць бяз прыстаўкі: ляцець — выляцець, нясьці — вынясьці, нясу — вынясу, лезьці — вылезьці, мяняць — вымяняць, ленаваўся — вы-

ленаваўся, лез — вылез; бег — выбег, сьлед — досьлед і г. д. Але ё замяняецца на я: нёс — выняс, вёз — вывяз, вёў — вывяў, лёт — вылят, дзёр — выдзяр і г. д.

Такое пісаньне выдаецца больш простым і рацыянальным, чым ляцець — вылецець, вёз — вывез і г. д.

**Заданьне.** *Перапісаць, паставіць націск і падчыркнуць е пасьле націску:*

Ад свайго злодзея не ўсьцеражэшся. Маці перацярпела вялікае гора. Нявесела выглядае неба, засланае шэрымі хмарамі. Увосені багат і верабей. Сьнегам вецер сыпе ў дзьверы. Гэты персьцень дараваны. Усюды зелень. Маленькае, кругленькае — да неба дакінець (вока). Уюцца думкі смутным роем. Крыўдзіцеляў зможаш, як цёмен ня будзеш. Грады зарасьлі зельлем. На ўсходзе красна неба. Хіцер Зьміцер. Коней патапілі, сукні памачылі. Песьней там больш ня чуваць. Брацьця! ці зможам грамадзкае гора? Брацьця! ці хваце нам сілы? Сьцісьнецца сэрца ад болю. Вы, панове, пазіраеце далёка... Сяляне цяпер сьвядомыя грамадзяне. Нізка ўжо сонейка, цень лёг на гонейка. Ходзе бусел па балоце. Бродзень зроблены на тое, каб лавіць рыбу. Чэрвень, ліпень і жнівень — летнія месяцы.

**§ 77. Склады пасьле націску.** У мягкіх складох *пасьле націску* пішацца **я**, калі яно аснаўное, незалежнае ад аканьня, або калі **я** у *канчатку* граматычна адзначана. Напрыклад:

1) *незалежна ад аканьня:* пямяць, месяц, пояс (*часьцей:* паяс), заяц, чэлядзь, дзевяць, дзесяць, тысяча, памятка, прывязка, вымяць, высякнуць, выгляд, погляд, каяцца, веяць, сувязь, дробязь, пенязь...

2) *назоўны склон прадметнікаў, прыметнікаў і займеньнікаў жан. роду* на **-я** (а):
гаспадыня, вываратня, паня, свацьця..., *як* даўбня, зямля...
сіняя, добрая, чужая; іхняя, гэтая, пятая... *як* мая, твая, другая...

3) *родны склон адзін. ліку муж. і ніякога роду:*
вучыцеля, вучня, прыяцеля..., *як* каня, лася...
поля, зельля, здарэньня..., *як* жыцьця, быцьця...

4) *давальны, творны і месны склон множ. ліку ўсіх трох радоў*:

| | | |
|---|---|---|
| вучням | вучнямі | вучнях |
| землям | землямі | землях |
| здарэньням | здарэньнямі | здарэньнях |

УВАГА. Творны склон адзіночнага ліку мае -ем: вучнем, здарэньнем...

5) *родны склон усіх трох радоў на* **-яў** (аў):

прыяцеляў, земляў, гоняў, здарэньняў...

6) *родны і давальны склон прыметнікаў муж. і ніякога роду*:

сін-яга, бліжн-яга..., *як* яго, або яга...

сін-яму, бліжн-яму..., *як* яму...

7) *родны склон прыметнікаў жан. роду* на **-ае, -яе**:

сін-яй, сін-яе (краскі)..., *як* яе

*але*: добрае (кніжкі)..., *як* тае кніжкі.

8) *творны склон жан. роду*: з доляю(й), воляю(й), лішняю(й), іхняю(й) і г. д.

9) *назоўны і вінавальны склон мн. ліку прыметнікаў*: добрыя, зялёныя, сінія, каменныя, калючыя і г. д.

10) *формы дзеяслова*:

3 ас. множ. ліку 2-га спражэньня: ходзяць, носяць, водзяць...

формы на **-чы,** калі яны выводзяцца ад другога спражэньня: ходзяць — ходзячы, носяць — носячы, водзяць — водзячы;

[неазначальнікі дзеяць, сеяць, веяць, каяцца...]

з займеньнікам **ся**: робішся, гонішся і г. д.

**Заданьне.** *Перапісаўшы, паставіць націск і падчыркнуць* **я** *пасьле націску.*

Мая зоранька ясная, маё сонейка пракраснае! Людзі добрыя навакол стаяць. А дарогі тыя без канца ляжаць. А як сьмерцяй Максіма скаралі, рукі белыя да брамы прыбівалі. Скрыпка разьбілася, але памяць аб музыцы ня згінула. Толькі памятка-насып віднеецца. Тысяча тысяч—міліён. Студэнт апошняга курсу. Душу песьняй весялі. Кучка топаляў стаіць. Ліхадзеям на безгалоўе, а добрым людцам на здароўе. Бо ў тае багатае валы пазгінаюць, а ў тае сіротанькі броўкі ня зьліняюць. Ідуць дзяўчаты, маладзіцы і жарты строяць, як

блазьніцы. І выгляд кожнае адметны. У мысьлях дзядзька разважае. І дзядзька з гэтым людам зьліўся, як зерня ў зернях заблудзіўся. Ідзе так дзядзька і па бруку адзін за дзесяць робіць груку. Так правандрует да зьмярканьня. На тое-ж горад і губэрня! Аж сьмех бярэ, на гэта глядзя. І людзі простага больш званьня таўкліся ў банку ўжо ад раньня. Сядай, мой мілы, мой харошы, бо за „пастой“ ня плацяць грошы.

§ 78. **У лічэбніках аканьне** праведзена няпоўна. Лічэбнікі складаныя пішуцца так, як кожная частка, калі яна ўжываецца асобна: семнаццаць, восемнаццаць, шэсьцьсот, восемсот і інш. Толькі шаснаццаць мае **а** заместа **э**, якое чуваць у слове шэсьць. Парадкавыя маюць такі галосны, які ў колькасным: дзевяць — дзевяты; дзесяць—дзесяты і г. д. Глядзі табліцу лічэбнікаў: „Першае Кола“ лекцыя 13.

§ 79. **Галосныя ў канчатках дзеясловаў 1-га і 2-га спраж.**—Глядзі „Другое Кола“ лекцыя 21.

**Заданьне.** *Перапісаўшы, пастаў націск і падчыркні канчаткі дзеясловаў, дзе* **е** *стаіць не пад націскам:*

Пастойце-ж трошкі, пачакайце, а вось вам крэселка, сядайце! З стала ён выняў ліст паперу і ўсю пісарскую манеру ён перад дзядзькам выяўляе: з-за вуха ручку выцягае, рукою водзіць, нібы піша, і трэ свой лоб ды носам чмыша. Вы, можа, граматны часамі? — А так, расьпішамся і самі. Цяпер ідзеце ў тыя дзьверы зрабіць адметку на паперы. Сярпок скрыгоча прагавіта, жытцо згрызаючы сярдзіта. З песьні слова ня выкінеш. Загляне сонца і ў наша ваконца. Шылам патакі ня хопіш. Золата і ў краме не дастанеш, а свайго розуму нікому ня прыставіш. Кінь хлеб-соль ззаду— знойдзеш наперадзе. Што пасееце, то і сажняцё. Ласка—не каляска: сеўшы не паедзеш. Сядзьма ды паабедайма, паабедаўшы пагаворыма. На беднага Макара шышкі валяцца. Што ў лесе родзіцца, тое ў двары згодзіцца. Прыглядзьцеся: новыя дні на вас пазіраюць у іскрах сьвітаньня, і сьвецяць другія агні. Ідзеце-ж к народу, як добрыя дзеці, ідзеце. Злучайце яго і горкую праўду у вочы скажэце, чаго ён гаруе, чаго? Касцы пяялі, апранаючыся на пракосах. Расчынеце дзьверы. Разьвейся, туман, расплывецеся, хмары! Калі не наеўся, то і не наліжашся.

**§ 80. Галосныя у і і**, калі стаяць посьле галоснага то замяняюцца на **ў** (у *караткае*) і на **й** (і *караткае*). Напрыклад: д*аў*, нагр*эў*, кр*оў*, д*уў*; д*ай*, нагр*эй*, кр*ой*, д*уй*.

Тое самае ў сярэдзіне слова: д*аў*но, л*еў*чанё, кар*оў*ка, страпян*уў*ся і г. д.; зн*ай*ка, жал*ей*ка, канар*эй*ка, с*ой*ка, шкад*уй*ма і г. д.

Тутака паміж **у** і **і** ёсьць нейкая розьніца.

Складовае (доўгае) у ніколі не стаіць беспасрэдна посьле галоснага, хіба толькі у выклічніку *ау!* і у рэдкіх чужаземных словах, напр. Тадэуш. Заўсёды **у** або скарачаецца на *ў*, або аддзяляецца ад папярэдняга галоснага „прыдыханьнем“ **в**: сяброўка, цівун, аблавухі, аўтар, аэронаўт (лётчык).

Тымчасам складовае („доўгае“) **і** *можа* стаяць і посьле галоснага, будучы як пад націскам, так і не пад націскам: краіна, заіка, у маі, у Кітаі і г. д.

Калі **у** або **і** стаяць посьле слова, каторае канчаецца галосным, то вытвараецца падобнае палажэньне: **у і і** замяняецца на **ў** і **й**. Напрыклад: былі ў бацькі тры сыны; яна ўжо йдзе; пуста й гола ўсюды (заместа: былі у бацькі тры сыны; яна ужо ідзе; пуста і гола усюды).

Ад гэтага робіцца адступленьне ў такіх разох:

1. У вершах **у і і** дзеля захаваньня разьмеру могуць не скарачацца, напрыклад:

чыстых хмарак валаконцы сталі **у** кружочак
вышай лесу, проці сонца, **і** сплялі вяночак...

УВАГА. Нельга скарачаць дзеля захаваньня разьмеру **у** і **і** посьле зычнага, бо такое злучэньне трудна выгаварыць. Але гэта, на жаль, здараецца нават у лепшых поэтаў, асабліва-ж скарачэньне **ў**. Напрыклад: А завернем ў завулак — ён цесны, крывы (М. Багдановіч). Наказ такі, каб заўтра зрана твой брат Антось йшоў да адбору.

Скарочаных у і **і** нельга лічыць за галосныя і посьле іх нельга скарачаць **у** і **і**. Напрыклад, нельга скараціць так: быў ў мяне сабака; той ў нас ня быў.

2. Перад злучэньнем некаторых зычных **і** найчасьцей не скарачаецца, калі там трудней было-б выгаварыць **й**: спусьцілася імгла, праела іржа, на ільняным полі, на іржышча, на ігрышча..., хоць можа быць і так: спусьцілася ймгла і г. д.

3. Калі зумысьля націск на **і**, то яно, зразумела, не скарачаецца, напр.: ён яго і поіць, і корміць... (але можна й так: ён яго й поіць, і корміць).

**§ 81.** *Нескладовае* **у** *заместа* **в** і **л**. Паміж галосным і зычным можа стаяць толькі **ў**, а не **в**: залатоўка, кароўка, галоўка, а не каровка, залатовка, головка, хоць карова, галава і г. д.

Падобна маем **ў** заместа **л**: даў, поўны, тоўсты і г. д.

Зычны **л** астаецца толькі ў прадметніках: кол, стол, гарэлка, іголка.

**§ 82. Правіла** на **ў** і на **й**. Літары **ў** і **й** пішуцца тады, калі чуваць нескладовыя („кароткія") у і і.

УВАГА. Нельга скарачаць у і і посьле зычных і посьле ў, й.

**Заданьне.** 1. *Перапісваючы, пастаў, дзе можна, заместа* **і** і **у** *скарочаныя* **й** і **ў**:

Работа дауно скончана. Пуста і гола усюды. Пачарнеу шырокі луг; адны толькі парыжэушыя фігуры стагоу з востраю жэрдкаю уверсе раскінуліся па грудах і нудна пазіраюць у неба. Сонеіка толькі што узышло. Бацька і маці вярнуліся з поля. Аднаму і у кашы няспорна. Хоць і у родным краі, але не у раі. Салавеі сьпявау у гаі. Аудзеі усё між людзеі. Сіла і салому ломіць. Навет свойскія качкі і гусі пачуваюць час выраю. Ваука ногі кормяць. Хто дбае, тоі і мае. Вот табе і на! Цесна зьбілісь нашы хаты, як авечкі у летні жар. Адны вочы і плачуць, і сьмяюцца. І рыкам леу сваім будзіу і лес стары, і чыста поле.

**§ 83. Прыдыханьне.** Калі слова пачынаецца з галосных **а, о, у** або **э**, то перад ім можа стаяць *прыдыханьне* **в** або **г**: вока, востры, вуха, вугаль, вуліца, гэты, гарэх.

Калі перад словам, якое пачынаецца з **а**, стаіць прадлог **у** *нескарочанае*, то тады слова прымае прыдыханьне **в**: *дом у вагні*, але — *на лузе гарэў агонь, нешта скьвірчэла ў агні.*

Аб „прыдыханьні" у сярэдзіне слова гл. § 77.

**Заданьне.** *Падчыркні літары, што азначаюць прыдыханьне:*

Навука лепей за багацьце. Яшчэ ўстане Лявон. Радзівон касіў грэчку. Ніводнае зернятка не прапала. Дзеці знашлі асінае гняздо. У васіным гнязьдзе былі восы. Халодная восень прышла. Халодны асеньні вецер. Вокны адчынілі. У адчыненым акне разьбілася шыба. На адно вуха глуха, а на другое ня чуе. На пры-

гуменьні стаяў азярод. Снапы сушаць у вазяродах. Снапы сушылі ў азяродзе. У сад вяла вузенькая сьцежка. Сем варот у вадзін агарод. Два мядзьвядзі ў аднэй бярлозе ня месьяцца. У ваднэй дзежачцы два цесьцечкі (яйцо). Аколіцы Вільні вельмі прыгожыя.

**§ 84.** *Чарадаваньне складоў* **ро́—ры, ло́—лы, ле́—лі** маем у такіх словах, як: *гром—грымець, дрож—дрыжэць, кроў—крыві, бровы—брыво, тросьць—трысьцінка, крошка—крышыць—крыху, дровы—дрывамі—дрывяны, брод—брысьці, глотка—глытаць—праглынуць, блохі—блыха, блеск*(бліск) — *блішчэць, трыбух, хрысьціць, трывога, скрыгатаць, яблык, яблына* і г. д.

Склады **ро, ло, ле** стаяць пад націскам, склады *ры, лы, лі* — не пад націскам.

**§ 85. Звонкія зычныя** на канцы слова і перад глухімі страцілі сваю звонкасьць. Але хоць і чуваць *боп, лёт, лотка, дзяцька, мох, лёхка, дошч* і г. д., аднак-жа пішам *боб, лёд, лодка, дзядзька, мог* (ад *магу*), *лёгка, дождж* і г. д. (бо ў другіх разох, зьмяніўшы слова так, каб посьле яго стаяў галосны, чуваць звонкія: бобу, лёду, лодачка, дзядзіна, магу, лёгенькі, дажджу і г. д.). Гл. „Першае кола“ лекцыю 46.

Так сама трэба пісаць заўсёды і прадлогі **ад, пад, над, прад, перад** (*усе, што канчаюцца на* **д**): ад хаты, адхінуць, пад сонцам, падцягнуць, над хатай, надхадзіць, над сталом, прадстаўнік і г. д.

Усе прадлогі і прыстаўкі, што канчаюцца на *з*—**з**, **без, цераз, уз-, раз-**, калі яны пішуцца з якім словам разам, то перад глухім зычным (п, т, ц, ч, х, с, ш) замяняюць **з** на **с**, а перад звонкім пакідаюць **з**: схадзіць, усхадзіць, расьціць, расшырыць, рассыпаць, усход, цераспалосіца і г. д., *але*—згінуць, бяздомны, узгадаваць. разьбіць і г. д. Значыць, тутака трэба **пісаць, як чуваць**.

Але калі **з, без (бяз)** і **цераз** пішуцца асобна, то ніколі **з** на **с** не замяняецца: з хаты, бяз хлеба, цераз сад, цераз стаў і г. д.

**§ 86. Глухія перад звонкімі** чуваць як **звонкія:** казьба, прозьба, гарадзьба, пядзьдзесят і г. д. Тутака пішам ня так, як чуваць, а *касьба, просьба, пяцьдзесят...* (дзеля таго, што маем: касіць, прасіць, пяць...). Гл. „Першае кола“ лекцыя 46.

**Заданьне** (да §§ 85, 86), *У пададзеных прыкладах зычныя напісаны так, як выгаварваюцца. Перапісваючы, пішы, як прынята пісаць* (боб, гарод..., а не—боп, гарот...):

У гародзе расьце боп. Цэп вісіць у гумне. У дзяцькі высокі лоп. За свавольства дастанеш добрую лупку. Хлеп на стале, рукі свае. Важыш на рыпку, ваш і на юшку. Не адарві почапкі ат калыскі.

Іду па клаццы (па клатцы). Мёт салоткі. Сабака зьнюхаў сьлет. Атклат ня йдзе ў лат. Ты, брат мой, еш хлеп свой. Ад марозу кожны молат. У каваля цяжкі молат. Улетку люблю цябе, дзетку(?), а зімой зьем хлеп сь сьвіньнёй.

Сёлета гарох стручны. Зламаўся парох. У мядзьвядзя ёсьць бярлох. Пастух сьцярох авечкі. Лёхка на сэрцы. Ён едзе ўлехцы. Начлежнікі паехалі на начлех. Драхкая дарога. Ты мох дзерці мог.

У Слуцку ўсё палюцку. Аддай сваё грамацкай справе. Слуцкія паясы. Ксёнц тое самае, што й поп. Навагруцкі павет.

Лецъ падняў цяшкі сноп. Капаюць рэцьку. Бацькі гадуюць дзяцей. Мецъ дастаюць з зямлі. Трэба мецъ хлеп і да хлеба. І ня вашая, блазнота! На страсе вырас мох; на маху бяроска,—мілей свая хатка, як чужая вёска. Бегала ліска каля лесу бліска. Бабуля ўмее расказацъ цікаўныя каскі. Заблішчэлі медныя каскі на сонцы. Вось улес у густы лес. Зьлес з дрэва.

Каб ня ешка, не адзешка, дык была-бы грошай дзешка. Прас Беларусь і Літву істушкай ліецца Нёман. Жняя цяшка працуе. Птушка зачапілася ношкай за волас сіла. Прадалі рыш (да яды). Прадаваў рыш, а купляў лыс. Калі ўзяўся за гуш, не кажы, што ня душ. Колькі душ у вашай вёсцы?

Нат хатай лётае каршун. Не зайшоў нат (=нават) разьвітацца. Перад імі ня кланяйся, бо ня варты. Сноп ат снапа на дзьве стапы. Жораў сь цяплом, а ластаўка зь лістом. Пат табой каня забілі. Разьмяні мне грошы. Раскапай яму. Зоркі рассыпаліся па небе. Бацька ўсхапіўся, абуў боты і, расчыніўшы дзьверы, вышаў на двор. Без дабра ня будзе дабра. Бяс часу ня будзе квасу.

Гарба, маладзьба і казьба — цяшкія работы. Наш дзет ужо слабы ў хадзьбе. Колькі ні прасі, а прозьбы не памогуць. Дзядуля сядзіць на прызьбе. Казьбіт косіць сена. Маладзьбіты пайшлі дамоў. У капе шэзьдзесят адзінак.

§ 87. *Зьмягчэньне* **с, з, ц, дз** — гл. „Першае кола“ лекцыя 47.

**§ 88. Розныя злучэньні зычных.**

1. Злучэньні **сц, чц** чуваць як **цц**, а злучэньні **тч, дч** чуваць як **чч**:
   *чуваць:* маццы, даццы; старасьвеччына, загаччык;
   **пішацца:** матцы, дачцы; старасьветчына, загадчык і г. д.
2. Злучэньне **дс** дае ў вымове **ц,** хоць пішацца **дз:**
   *чуваць:* люцкі, швэцкі, грамацкі...
   **пішацца:** людзкі, швэдзкі, грамадзкі...
   заместа: людскі, швэдскі, грамадскі і г. д.
3. Злучэньне **тс** дае **ц** —
   *чуваць* і **пішацца:** полацкі, брацкі, брацтва...
   заместа: полатскі, братскі, братства і г. д.
4. Злучэньні **жс, зс** даюць **с** —
   *чуваць* і **пішацца:** боскі, францускі...
   заместа: божскі, французскі і г. д.
5. У злучэньнях **стл** і **здн** зьнікае **т** і **д** —
   *чуваць* і **пішацца:** пачэсны, позны, шчасны, шаснаццать...
   заместа: пачэстны, поздны, шчастны, шастнаццаць і г. д.

6. Злучэньне **нн** знаходзім у тых прыметніках, што ўтвораны ад прадметнікаў, якія маюць **н** у сваей аснове: сьцяна — сьценны, камень — каменны, вайна — ваенны, палатно — палаценны і г. д. Але там, дзе ў аснове няма **н,** пішацца адно **н:** шкло — шкляны, дрэва — драўляны; гэтаксама дзеяпрыметнікі: зроблены, пабелены, наладжаны і г. д.

7. Злучэньне **цц** пішацца ў лічэбніках і дзеяслове, напрыклад: адзінаццаць, дванаццаць і г. д.; мыцца, сьмяяцца; мыецца, сьмяецца і г. д. — заместа: адзінадсяць, дванадсяць; мыецься, сьмяецься.

**Заданьне.** *Сьпісаўшы, падчыркнуць злучэньні, аб каторых гаварылася:*

Хто позна ходзіць, той сам сабе шкодзіць. Дудка

грае жаласьліва. Ці знаў хто, братцы, з вас Тараса? Матцы трыццаць год, а дачцы адзінаццаць. Лёд на рэчцы затрашчэў. Парэчкі растуць пры рэчцы. У Вільні шмат старасьветчыны. Зашмат загадчыкаў і даглядчыкаў. Прыехаў аб'ежчык (заместа : аб'ездчык). У Слуцку ўсё палюдзку. Ваяводзкія палацы. Расхадзіўся, як брацкі звон. Па беленькай жэрдачцы чырвоны пеўнік едзе. Птушкі ў клетцы. Швэдзкія сярнічкі. Плыты ганялі ў Нямеччыну, у Прусію. У гародчыку растуць краскі. На лад пэрсідзкі ткуць яны. Француская мова багатая. Не пазьнецеся ў школу! Хоць бедны, а пачэсны. Запрасілі на пачостку, а частаваць не частавалі.

## § 89. Зычныя з прыціскам („падвойныя").

1*. Параўняй выгавар і напісаньне пададзеных слоў у розных славянскіх мовах:

| беларускае: | украінскае: | стара-славянскае: | расейскае: | польскае: |
|---|---|---|---|---|
| палажэньне | положення | положеніе | положенье | położenie |
| вясельле | весілля | веселіе | веселье | wesele |
| жыцьцё | життя | житіе | житьё | życie |
| судзьдзя | суддя | судія | судья | sędzia |

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

2. У беларускай мове (звычайна ў канцы прадметнікаў) на месцы стара-славянскае групы *зычны* + і + *галосны* маем зычныя падоўжныя, з прыціснутым выгаварам („падвойныя"):

*льль*: вясельле, Купальле, Ільля, ральля, з сольлю, кольле і г. д.

*ньнь*: здарэньне, сумленьне, пытаньне і г. д.

*зьзь*: з гразьзю, мазьзю, зазьзяць, рызьзё,

*сьсь*: каса — касьсё, волас — валосьсе, колас — калосьсе і г. д.

*ддзь*: суд — суддзя... (лепш як *судзьдзя*), ладдзя, разводдзе і г. д.

*цьць*: жыцьцё, багацьце, куцьця і г. д.

*жж*: збожжа...

*чч*: лыка — лычча, сук — суччо, печ — запечча, запеччу, у ваччу і г. д.

*шш*: зацішша, у вушшу, з роскашшу і інш.

Апрача таго, такія прыціснутыя зычныя (у напісаньні *падвойныя*) зьяўляюцца пры злучэньні з прадлогамі: с-сыпаць, ад-даць, бяз-зубы і г. д.

УВАГА 1. Зычныя б, п, м, і р не падвойваюцца: бязрыб'е, куп'ё, Хацім'я, надвор'е (а не — бязрыббе, куппё, надворра і г. д.). Таксама: здароўе, безгалоўе...

2 Віць і ліць: вію, віеш, віе; віём, віяцё, віюць, або інакш: ўю, ўеш, ўе; ўём, ўяцё, ўюць;
лію, ліеш, ліе, ліём, ліяцё, ліюць або інакш:
льлю, льлеш, льле; льлём, льляцё, льлюць.

**Заданьне**. *Сьпісаўшы, падчыркнуць падвойныя літары, што азначаюць прыціснутыя зычныя*:

Зельле заглушыла поле. Зацішша прад бурай. Уражжа сіла наступіла. На прадвесьне бывае разводдзе. Гэркулес на раздарожжы. Ральлю трэба баранаваць. На сцэне іграю не вялікую ролю. Ільля наробіць гнільля. Жыцьцё, як мёду піцьцё. Наша Хацім'я хоча капусты й бацьвіньня. Скінь гэтае рызьзё! Венікі вяжуць з бярозавага вецьця. На гальлі было гняздо. Мая сястра Галя. Пацямнела ў ваччу. Мост збудаваны з тоўстага бярвеньня. Стаіць крушнямі каменьне. Крыльлем махае, а ляцець ня можа (вятрак). Льецца (льлецца) Нёман паміж гораў. Зазьзялі зоры ў ясным небе. Буйным жыцьцём усё чыста кіпела. Колы мажуць каламазьзю.

(Да § 89): У сяле пабудавалі каменны дом. Мы купілі насьценны каляндар. У нас дзераўляныя ложкі. Каля гары вапенныя капальні. Раньняя зорка. Шкляныя дзьверы. Чырвоны колер, вінны смак, каменнае сэрца— што гэта так? (вішня). Ехаць конна. Пісьменнаму й кнігі ў рукі. Туманныя асеньнія дні. Малады сасоньнік расьце на ўзгорку.

**§ 90. Прадлогі з прыслоўямі** пішуцца разам: *уперад, назад, насустрэчу, дагары, зраньня, запраўды, наадзіноцы, улетку, узімку, ураньні, увечары, паасобку, уваччу, пабеларуску, пачэску, потым, загадзя, наўмысьля, спакваля, заўсёды, адкуль, дасюль* і г. д.

Таксама разам пішуцца складаныя прыслоўі і **ні, не** з прыслоўямі: *ніколі, нідзе, некалісь, няма, аберуч, абыдве, абыяк, ажно* і г. д.

**Заданьне.** *Сьпісаўшы, падчыркнуць прыслоўі*:

Сонца зранку жарам пыша; ветрык лісьцем чуць калыша, вее чуць паўзьверх зямлі. Што ўвесну ножкаю коп, то ўзімку ручкаю хоп. Гэта зроблена наўмысьля. Ішлі мы памаленьку, вобмацкам, каб папацёмку на што не наткнуцца. Абыяк прышло—лёгка й з рук

зышло. Грозен рак, да ззаду вочы. Папаў, як у нерат: ні ўзад, ні ўперад. Ветрык ледзь-ледзь набяжыць. Пусты ў летку нашы сёлы. Вясна тымчасам рабіла сваё дзела. Маеш час, але ня ўмееш тым часам распарадзіцца. Сьпераду грэе, а ззаду вецер вее. Шатавіла-матавіла панямецку гаварыла, патурэцку заварочвала; сьпераду шыльца-вільца, спадысподу палатно, а зьверху аксаміт. Так-сяк накасяк, абы не палюдзку. Свой свайму паняволі брат. Па няволі ня плачуць. Ні калі то было, ні калі то будзе. Ня здраджу ніколі.

§ 91. Адмоўнасьць **ні** пішацца:

1) калі **ні** можна замяніць на **ані**, напрыклад: **ні** разу, **ні** гугу; **ні** вала, **ні** кала; ня ўмею **ні** чытаць, **ні** пісаць — хочуць на караля абабраць; **ні** панюхаць не далі... (**ані** разу, ані гугу; **ані** вала, ані кала; ня ўмею **ані** чытаць, **ані** пісаць і г. д...).

2) у злучэньнях **як ні, куды ні, што ні, каго ні** і інш., калі сказ ня мае адмоўнага сэнсу: *як ні круці, а трэба умярці. Кудьі ні кінь — усюдьі клін* і г. д.

3) з адмоўнымі займеньнікамі **ніхто, нішто, нічый, ніякі, ніводзін** і з адмоўнымі прыслоўямі **ніколі, нідзе, нічуць, нікуды...**

УВАГА. Трэба ведаць, што ў шмат якіх гутарках беларускае мовы, асабліва-ж заходніх, ні ужываецца заместа **не** (**ня**), напрыклад: ні буду, ні маю, ні разьбяру, ніпагода, нівясёлы дзень, німа, ніхай і г. д.

**Заданьне**. *Перапісваючы, дзе можна, зьмяніць* **ні** *на* **ані**:

Бяда, калі ў жыце лебяда, але няма горшай бяды, калі ні жыта, ні лебяды. Колькі качка ні мудруй, а лабудзем ня будзеш. Ні мора, ні зямля—караблі ня плаваюць, бо нельга (балота). Ні відам ня відаць, ні ў казках сказаць. Ні за што, ні пра што. Ні ладу, ні складу. Ні сьцяты, ні павешаны. Ні рыба, ні мяса. Як ваўка ні кармі, а ён усё ў лес глядзіць. Гулявы нож ні на што ня згож. З дурным ні знайсьці, ні згубіць.

§ 92. Некаторыя прадметнікі маюць **устаўку** (суфікс) **ак** або **ык**: *галубочак, ножык...* Калі, зьмяніўшы склон, галосны перад **к** выпадае, то трэба пісаць **-ак** (*галубочка—галубочак*); а калі не выпадае, то **-ык** (*ножыка—ножык*).

**Заданьне.** Перапісаўшы, падчыркнуць устаўкі **ак** і **ык:**

Разумен гаршчочак, а ў ім сем дзірачак (галава). Поўны падпечак белых курачак (зубы). За белым бярэзьнічкам талалайчык брэша (язык). А што цябе прынясло — ці чаўночак, ці вясло? Прыляцеў сакалочак у зялёны садочак. Хлопчык парэзаў пальчык. Ветрык вее, дождджык сьціхае.

§ 93. **Злучок** ужываецца ў гэткіх разох:

1) для злучэньня дапаможных частак **бы, б, жа, ж** з папярэднім словам: добра было-бы, каму-б гэта даць, а мой-жа ты суседзька! ды куды-ж ты, дуб зялёны, пахіляешся?

Калі-ж **бы**, **б** і **жа**, **ж** сходзяцца разам, то яны паміж сабою злучком ня злучаюцца: *калі-ж бы мне пайсьці, вось быў-бы ж ты рады* і г. д.

2) для злучэньня складаных прыйменьнікаў **з-за, з-пад**—*з-за стала, з-пад лому* і г. д.

3) у падвойных прозьвішчах: Дунін-Марцінкевіч, Сьвятаполк-Мірскі, Дуж-Душэўскі.

4) для злучэньня двух слоў, якія азначаюць тое самае паняцьце: узьвей-вецер, вецер-дуронік, шура-бура, шчыр-бор, хлеб-соль, рута-мята, хлопцы-малойцы, пацяклі-паплылі.

5) у складаных прыметніках: сьнежна-белы, цёмна-сіні.

§ 94. **Зложныя словы.** Некаторыя зловы зрасьліся так цесна, што пішуцца бяз злучка: *Беларусь, сенажаць, вяліндзень, чарназём, самасейка, чарваточына, чарнобыль, ветрагон, чартапалох, навабранец, белавусы, белагаловы, сьветлазокі, даўгавязы, гарбаносы і шмат іншых.*

У рэдкіх разох зложаныя словы не падлягаюць аканьню, напрыклад: *штодня, штодзенны, гэтарочны* і некаторыя новастворыныя навуковыя тэрміны: *мовазнаўства, прыродазнаўства, словавытварэньне* і падобн.

§ 95. **Прадлогі перад і.** Калі прадлог канчаецца на *галосны* гук, то **і** замяняецца на **й**, як заўсёды пасьля галоснага: *зайсьці, дайсьці, найсьці, знайсьці, прыйсьці, выйсьці; зайду, дайду, найду, знайду, прыйду; наймо, прыймо, займо, займеньнік, зайграць...*

Трэба заўважыць, што формы *нашоў*, *знашоў*, *зашоў*, *прышоў*, *вышаў* ужываюцца заместа *найшоў*, *зайшоў* і г. д. (на, за... + ішоў = найшоў, зайшоў...).

Калі прадлог канчаецца на *зычны*, то **і** (*як заўсёды*) посьле цьвёрдага зычнага выгаварваецца як **ы**: *адысьці*, *падысьці*, *зысьці*; *адышоў*, *падышоў*, *зышоў*; адыду, *падыду*, *зыду*; *спадыподу* (*ад*, *пад*, *з* + *ісьці*, *іду*, *ішоў* = *адысьці*, *адыду*, *адышоў*, *падышоў*...).

УВАГА*. Гэтае самае гукавое зьявішча маем і тады, калі адно слова канчаецца цьвёрдым зычным, а другое пачынаецца на **і**: у такім палажэньні чуваць **ы**, а не **і**. Напр.: ё н і я н а выгаварваецца, як ё н ы я н а; ё н і ш о ў—як: ё н ы ш о ў, м о й б р а т І г н а т—як: м о й б р а т ы г н а т. Гэтае зьявішча на пісьме не азначаецца, а калі пасьля зычнага зрабіць паўзу (перарыў), то і выгаварваецца **і** так, як пішацца: мой брат— Ігнат, ён — і яна...

**Заданьне.** *Перапісаўшы, падчыркнуць злучэньне прадлогаў з* **і**:

Абыяк прышло, лёгка й з рук зышло. З дурнем ні знайсьці, ні згубіць. Кругом абышоў, нічога не знашоў і назад прышоў. Мы ўвашлі ў хату. Прышлі дадому раніцай. Покі сонца ўзыдзе, раса вочы выесьць. Чалавек з падысьцем (з хітрыкамі). Застлося адно падысподдзе.

**§ 96. Перанос слова.** Словы пераносяцца ў другі радок складамі: са-рока, саро-ка; ве-рацяно, вера-цяно, вераця-но.

Пры пераносе прынята трымацца такіх правіл:

1) адна літара не пакідаецца і не пераносіцца. Нельга, напрыклад, перанесьці так: у-міраць, ста-ю, я-ма;

2) злучэньне зычных разьбіваецца: кон-на, пісь-мо, паль-цы, насень-не, галь-лё, суч-чо, вар-та, страш-на, каз-ка, цёп-лы, леп-шы, друж-ба, вярнуц-ца, *двац-цаць*, *падыспод-дзе* або *падысподзь-дзе* і г. д. Таксама *хвой-ка*, *сой-ка*, *лаў-ка*, *галоў-ка*... Але дз і дж ніколі не разьбіваюцца, калі азначаюць адзін гук: *гарадз-кі*, *дож-джык*;

3) калі пристаўка творыць склон, то яна пры пераносе аддзяляецца: на-стольнік, пры-ткнуцца, ад-значыць, ад-жануць і г. д., але нельга перанасіць так: *ад-ышоў*, *уз-ыду*, бо тут няправільны падзел на склады; трэба — *ады-шоў*, *узы-ду* і г. д.

4) пры пераносе слова ставіцца знак пераносу (-).

§ 97. **Чужаземныя словы,** узятыя з чужое мовы даўно, пішуцца так, як гэта чуваць у штодзённым ужытку: літара, аканом, арганісты, паляруш, калідор, леварвэр (і равольвар), пратакол.

Чужаземныя словы, нядаўна ўвайшоўшыя ў беларускую мову, асабліва-ж навуковыя тэрміны, пераважна перадаюцца, па магчымасьці, так, як у тэй мове, скуль яны ўзятыя: тэлеграф, тэлеграма, колёквіум, географія, геомэтрыя, тэрыторыя, унівэрсытэт, эволюцыя, элемэнт, інтэлігенцыя і г. д.

У некаторых з такіх слоў ужо аканчальна прынята частковае аканьне, напрыклад: *літаратура*, не *літэратура* (пад уплывам слова *літара*), *рэдактар*, *дырэктар*, *інспэктар*, а не *рэдактор*, *дырэктор*, *інспэктор* — пад уплывам беларускіх *знахар*, пісар і падобн.

Некаторыя словы, нядаўна перанятыя ў народзе, так хутка і глыбока усвоіліся ў народнай мове, што і ў літаратурнай прынята іх пісаць з поўным аканьнем, напрыклад: *аратар* (оратор); *камісія*, *канітэт*, *камісар*, *вакзал*, *аказія*.

Заместа чужаземных падвойных зычных пішуцца простыя: *каса*, *маса*, *тэлеграма*, *Фінляндыя*, *Голяндыя*, а не — касса, масса, тэлеграмма, Гольляндыя, Фінляндыя і г. д.

Аднак у некаторых словах застаецца падваеньне: Ганна, манна, ванна, мадонна, Будда, Мэкка...

Чужаземнае **l** (сярэдняе) перадаецца мягкім **ль,** як у словах *лямпа*, *пляц*, *плямка*, *клямка*; *Лёндан*, *лёзунг*, *монолёг*, *лёяльны*, *філёзофія* і г. д., або цьвёрдым **л,** як у словах капітал, ідэал, інтэграл, адмірал, артыкул, матэрыял, пратакол, формула, канікулы, бібула, трыбунал, і інш.

У чужаземных славох (у васнове) не дапускаецца *цеканьне* і *дзеканьне*, а дзеля таго: *дыплёмат*, *тыран*, *дынаміт*, *тып*, *тэатр*, *аптэка*, *тэлеграма*, *дэпо*, *студэнт*, і г. д., а не — *дзінаміт*, *ціп*, *студзент* і г. д.

Не зьмягчаюцца звычайна й зычныя **з, с і ц:** *асыстэнт*, *магазын*, *пазыцыя*, *коопэрацыя* і г. д., але *фантазія*, *поэзія*, *аказія*, *Азія*, *Сібір* і інш.

Апрача слоў здаўных-даўна абеларушчаных — Піліп, Язэп, хунт, кахля, хваля, Хама, Хведар... — чужаземны гук **ф** перадаецца праз **ф**: форма, фронт, маніфэст, фамілія, фабрыка, Францыя і г. д.

УВАГА. Перадача чужаземных слоў блізка ўва ўсіх славянскіх мовах выклікала і выклікае большыя ці меншыя труднасьці.

Асаблівую труднасьць для беларускай мовы вытварае аканьне. Трэба думаць, што заўсёды будзе тэндэнцыя (нахіл) і, проста, жыцьцёвая патрэба праводзіць аканьне і ў чужаземныя словы. Але правясьці поўнае аканьне а, я на месцы о, э, е — трудна будзе дзеля дзьвёх прычын. Першае, што такое аканьне залішне адрывала-б слова ад яго радаводу, напрыклад: талянграма, гяаграфія, балятрыстыка(!)... Другое і важнейшае, што гэта ня зусім згодна і з народнай фонэтыкай, дзе маем звычайна на месцы ненаціскных э, е гукі ы, і або дужа зьбліжаныя да іх: а р ы ш т, к а н ц ы л я р ы я, т ы л і г р а м а, т ы я т р (ц і я т р). Літары э і е азначаюць гукі не залішне далёкія ад такога жывога выгавару, каб нельга было іх пакінуць. Праўда, яны нарушаюць правіла аб аканьні, але затое... вучаць крыху чужаземных слоў, ужываных усімі народамі сьвету.

Магчыма, што правядзецца аканьне адносна да **о**: п р а ф э с а р, м а н а л ё г (заместа п р о ф э с а р, м о н о л ё г) і г. д. Але і тутака прыдзецца, відаць, прынамсі ў некаторых разох затрымаць **о** ненаціскное, напрыклад: а н т о л ё г і я (выбар вершаў — „красак“) і онтолёгія („наука аб быцьці“). Тутака вельмі характэрны прыклад такіх беларускіх слоў, як м о в а з н а ў с т в а, п р ы р о д а з н а ў с т в а і падобныя (о не пад націскам!).

---

# Сказ.

**§ 98. Паўторныя пытаньні.** (гл. „Першае кола“ лекцыі 31—38).

1) Што такое сказ? Якія бываюць віды сказаў?
2) Якія часьціны сказу асноўныя і якія даданыя?
3) Што такое дзейнік, выказьнік, дапаўненьне, азначэньне?
4) Якія бываюць акалічнасьці?
5) Што такое просты і зложаны сказ?
6) Перад якімі злучнымі словамі ставіцца коска?
7) Якія знакі прыпынку стаяць пры выклічніку? (гл. „Другое кола“ лекцыя 31).
8) Калі ставіцца пункт, пытальнік, клічнік?

**§ 99. Прыдатак** — гэта азначэньне, выражанае звычайна прадметнікам; стаіць яно ў тым самым склоне, як і тое слова, да якога яно адносіцца. Напрыклад: *Астаўся адзін сын*, **сірата**. Эх ты, Нёман, **рака**. Янка, **брат майго таварыша**, вельмі любіць паляваньне. Праляцела борзда лета, **наша сьветлая пара**. *Па моры ходзяць караблі*, **або вялікія параходы**.

**§ 100. Пабочнае слова.** Такія словы, што выражаюць у сказе нейкую пабочную ўвагу, паясьненьне, называюцца пабочнымі словамі. Напрыклад: Напішы мне, **калі ласка**, пісямко да хаты. Яго, **відаць**, у хаценя было. **На жаль**, я не памятаю такога здарэньня. Ох, паплыў-бы я, здаецца, хмаркі, разам з вамі.

**§ 101. Зваротак** або **клічнае слова.** Слова, што азначае імя асобы або назоў прадмету, да якога зьвяртаюцца з мовай, называецца зваротак або клічным

словам. Напрыклад: **Саўка!** *зьбегай, сынок, вады! Ня кувай ты,* **шэрая зязюля,** *сумным гукам у бары!* **Хмаркі цёмныя, мае братанькі!** *вецер гоніць вас без дарожанькі.*

**§ 102. Залежныя сказы.** Кожную цасьціну сказу можна разьвіць у цэлы сказ. Напрыклад: заместа — *ніхто ня ведае чужога абеду* можам сказаць: *ніхто ня ведае, як хто абедае.* Сказ *як хто абедае* — гэта разьвітае ў цэлы сказ дапаўненьне і залежыць ад сказу *ніхто ня ведае* — гэта **асноўны сказ**; *як хто абедае* — гэта **даданы сказ.** Даданы сказ называецца інакш **залежным,** бо залежыць ад асноўнага. Сказ асноўны інакш называецца **незалежным.**

Таксама, як сказ дапаўненьня, могуць быць даданыя сказы дзейніка, выказьніка, азначэньня і розных акалічнасьцей, калі яны замяняюць гэтыя часьціны і адказваюць на іх пытаньні.

Вось прыклады розных даданых сказаў:

1. **Сказы дзейніка:** І той багатыр, *хто мае ўсялякага дабра,* і той, *хто дужы і здаровы. Што ўпала, то й прапала.*

2. **Сказы выказьніка:** *Якія мы самі,* такія й нашы сані. *Якая яда,* такая й хада.

3. **Сказы дапаўненьня:** *Што сёньня зробіш,* таго заўтра ня будзеш рабіць. Ня чынь другому таго, *чаго сам ня любіш.*

4. **Ск. азначэньня:** Радасны й вясёлы пад'яжджаў Пятрусь у сяло, *каторага ён ня бачыў ад самых Каляд. Колькі ў рэшаце вады,* столькі ў яго праўды. Толькі музыка, *катораму ня было чаго рабіць,* падышоў да іх. А дзе тая крынічанька, *галуб што купаўся?*

5. **Ск. акалічнасьці месца:** *Дзе нянек многа,* дзіця бязнога. І думкі мкнуцца мімаволі туды, *дзе расцьвіла вясна. Адкуль хмары,* адтуль і дождж.

6. **Ск. акал. часу:** *Пакуль сонца ўзыйдзе,* раса вочы выесьць. Тады, госьцю, бывай у мяне, *калі поўна ў гумне. Як толькі гром загрыміць,* тады выганяюць жывёлу на пасьбу.

7. **Ск. акал. спосабу:** Плыве шумліва, *як рака,* бяседа вольная такая. Асёл так шчыра ўчыцца ўмеў, *што кніжкі ўсе як сена зьеў.* Байбак бяжыць, *аж балахон дрыжыць.* Гол, *як сакол.*

8. **Ск. акалічнасьці мэты:** Парой ён спыніцца, *каб лепей завастрыць пяро гусінае.* Штось пачала казаць, *каб заспакоіць плач.*

9. **Ск. акалічнасьці прычыны:** Шануйце песьні свае, *бо сьпяваюць нават жабы ў багне.* Затым сьляпы плача, *што сьцежкі ня бача.*

10. **Сказы умоўныя** выражаюць умоўную прычыну: *Калі ты разумны,* адгадай загадку. Бо нашто каласы, *калі няма васількоў. Калі гаспадар у карчме скача,* то гаспадарка плача. *Каб ня ежка, не адзежка,* дык была-бы грошай дзежка.

11. **Сказы уступальныя** выражаюць прычыну, каторая знаходзіцца ў супярэчнасьці з чаканым вынікам, напр.: *хоць і ведаю,* нічога не скажу. *Хоць і ведаю* — прычына; „нічога не скажу“ — чаканы вынік. Прычына з вынікам у супярэчнасьці, бо, калі *ведаю,* то можна чакаць, што *скажу.* Вось іншыя прыклады: *Хоць гэта і не дастатачная прычына,* але я уступлю. *Хоць колькі ні вучы асла,* аслом ён будзе да канца. Як неяк холадна на сьвеце, *хоць май даўно ўжо на дварэ.*

**§ 103. Пабочныя сказы,** падобна да пабочных слоў, выражаюць нейкую пабочную ўвагу, паясьненьне. Напрыклад: І яшчэ, мой сын, *прашу я,* човен кінь у адрыне. Забраў Цішка ўсе свае цацкі, кашулькі (*нават і ката Рудзьку хацеў-бы забраць, але малая Параска не дала*) ды пашоў да сястры за сына.

**§ 104. Скарочаныя ідаданыя сказы** ня маюць злучных слоў і пачынаюцца найчасьцей з дзеяпрыметніка або дзеяпрыслоўя (формы на **-чы, -ўшы, -ны, -ты, -лы**). Напрыклад:

*Гальлё* **спусьціўшы** *над парканам,* расла тут грушка з тонкім станам. А каля хаты у садочку, **схіліўшысь** *ціхенька ў куточку,* стаялі вербы дзьве старыя. **Апусьціўшы** *нізка стройнываласок,* плача сірацінка, **ные каласок.** *Ня* **згубіўшы**, ня шукай. *Чужое* **бяручы**, саваё гатуй. На лёдзе паказаліся палонкі, **прагрэтыя** *сонцам.* Падышоў да работнікаў, **перанасіўшых** *бярвеньне.* Разагнуліся сьпіны і бліснулі твары, **загарэлыя** ад сонца. Гэтак думае ён, **абціраючы** *сьлёзы.*

**§ 105. Зложана-залежны і зложана-злучаны сказ.** Калі зложаны сказ мае ў сабе залежны сказ, то

гэта **зложана-залежны** сказ. Напрыклад: *што з вока ўпала, то й прапала. Таму сьляпы плача, што сьцежкі ня бача.*

Але зложаны сказ можа складацца з раўнасільных незалежных сказаў. Гэта—**зложана-злучаны** сказ. Напрыклад: *Прыгрэла сонейка, зьгінуў сьнег, асушылі вятры зямлю. Ластаўка дзень пачынае, а салавей канчае. Тут рэчка пад бокам, і процьма ў ёй рыбы. Слухаюць людзі, і сэрца іх млее.*

Тутака сказы незалежныя адзін ад другога і *злучаныя* сэнсам, а часта і рознымі злучнікамі: *а, і, але, бо, ці, толькі* і інш.

**§ 106. Знакі прыпынку** маюць азначыць на пісьме тое, што ў мове выражаецца прыпынкам або зьменай голасу (*інтонацыя*).

**Пункт** (.) — знак найвялікшага прыпынку, паказвае, шту думка і сказ зусім закончаныя.

Найчасьцей ужываны знак, што нават прыклады лішнія.

**Коска** (,) — знак найменшага прыпынку, паказвае, што думка і сказ ня скончыліся, што далей ідзе нейкае дапаўненьне або аб'ясьненьне.

Коска выдзяляе зваротак (клічнае слова), прыдатак, пабочнае слова і пабочныя сказы, даданыя сказы з асноўнага і разьдзяляе падобныя часьціны ў зьлітым сказе. Напрыклад:

*Пойдзем, братка, на работу! Будзеш ты чытаць нам, цёмным няўмекам. Такая ўжо, відаць, была яго доля. Кругом круціць завіруха, гуляе, шуміць. Будуць ветры за вугламі выць і плакаць, і стагнаць. Сад, што быў чорны, ужо распусьціўся. Чалавек, покі ў горы не пабудзе, ня знае дабра.*

Коска можа разьдзяляць нават незалежныя сказы, калі яны кароткія і блізка да сябе прымыкаюць, або калі паміж імі стаяць **і, а, але**, напрыклад: *Прыгрэла сонейка, зьгінуў сьнег, асушылі вятры зямельку. Лета зьбірае, а зіма паядае.* Загрымеў гром, *і пашоў дождж.*

**Пункт з коскай** або **пасрэднік** (;) — знак пасярэдняга значэньня паміж пунктам і коскай, дзеліць сказы закончаныя, але па сваей думцы блізкія міжы сабою. Напрыклад:

*Гасьне корчык на камінку; пацямнела ў хаце; поўнач пеўні пракрычалі, да ня сьпіць ўсё маці. Вясною косы*

*сонца штодзень робяцца цяплейшымі. Птушкі пяюць зычней і весялей; перайка на іх асьвяжаецца, і самі яны ажыўляюцца.*

**Два пункты** (:) ставяцца 1) перад пералічэньнем, калі ёсьць слова, што абымае ўсё пералічанае, напрыклад: *Год мае чатыры* **поры**: вясну, лета, восень і зіму. 2) паміж незалежнымі сказамі, калі адзін аб'ясьняе другі: *Тут ня гандаль, тут ня крама: няма дзёгцю, няма солі.* Прышла пара касавіцы: трэба прымацца за касьбу.

**Працяжнік** (—), быццам пункт, перарыў, сярод няскончанага сказу. Працяжнік ставіцца пасьля пералічэньня, або там, дзе прапушчана нейкае слова, і, нагул, тады, калі хочам зьвярнуць, *працягнуць* увагу слухача. Напрыклад: *Вясна, лета, восень і зіма — поры году. Чужая сіла — асіна. Лішня нітка — палатну завада. Гляньце — нехта едзе. Падсадзі — сарву грушку.*

Апрача таго, працяжнік ужываецца ў перадачы гутаркі для аддзяленьня мовы аднэй асобы ад другой і пры адказе на пытаньне: А хто там ідзе?—Беларусы.

**Недаказ** або **многакроп'е** (...) ставіцца, калі думка не даказана да канца, абрываецца, напр.: *Сказаў-бы я табе... але што там гаварыць*!

У **чужаслове** („—" або «—») ставяцца або чужыя словы (ня тэй асобы, што гаворыць, ці апавядае), або словы нечым асаблівыя, напр.: Узяў шапку і, сказаўшы: „аставайцеся здаровыя!" вышаў з хаты. „Наша Доля" — першая беларуская газэта. Прызнаюся, я не спадзяваўся такой „далікатнасьці" ад пана.

У **дужкі** бярэцца паясьненьне, пабочнае слова або пабочны сказ: *Баяцца не цівуна, а яго бізуна (старая прыказка).*

**Пытальнік** (?) стаіць пасьля пытальнага сказу: *Ды куды ты, дуб зялёны, пахіляешся?*

**Клічнік** (!) выражае выкліч, напрыклад: Добры вечар, пане гаспадару! Брацьця! ці зможам грамадзкае гора? брацьця! ці хопіць нам сілы? Гэй наперад, покі сэрца б'ецца, рвецца на прастор! Годзі млеці ў паняверцы! Гэй, да сонца! гэй, да зор! Сёньня ў нашай моцы гора, мы жыцьця гаспадары!

# ЗЬМЕСТ.

## ДРУГОЕ КОЛА.


BIBLIOTEKA NAR

